Яўген Крупенька

# КАРЭННІ

вершы,
байкі,
паэмы

*Яўген Крупенька*

# КАРЭННІ

*вершы,*
*байкі,*
*паэмы*

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1986

# З МАЙГО ЖЫЦЦЯПІСУ

Сустракаючыся з чытачамі, людзьмі самых розных узростаў і прафесій, даволі часта мне даводзіцца адказваць на адно і тое пытанне: калі зрабіўся паэтам. І на яго я адказваю вельмі проста: «Спачатку нараджаецца чалавек, а потым паэт».

Дзень свайго нараджэння — 20 жніўня 1936 года — я, вядома, не памятаю. Але маці мая, Браніслава Пятроўна, з асаблівай любасцю расказвала:

— Ты, сынок, нарадзіўся якраз тады, калі я не паспела дажаць жыта. Але бацька сказаў: «Жыта няхай і асыплецца — не бяда. Затое ў мяне ў сям'і ёсць мужчына. Сын! І цяпер ты за ім глядзі, як вока».

Бацька вельмі хацеў дзяцей, вельмі перажываў, калі памерлі першынцы, і на маё з'яўленне на свет ён глядзеў як на самую вялікую надзею ў сваім жыцці. Вядома, ён не менш радаваўся, калі маці нарадзіла яшчэ і дзвюх сясцёр — Таісу і Паліну, але ўсё ж мяне, як я памятаю, ён любіў асабліва моцна. І, калі ў грозным сорак першым з аднавяскоўцамі пакідаў парог роднай хаты, ён доўга трымаў мяне на руках, туліў да сябе, гладзіў па галаве, цалаваў і даў апошні наказ маці: «Глядзі дзяцей, беражы Жэню».

Даўно не вярнуўся ён з вайны; тонкая, гонкая бярэзінка, якую мы з ім прынеслі з лесу і пасадзілі пад акном нашай хаты, даўно ўжо стала высокай бярозай, шуміць сваім веццем акну новай хаты, дый я ўжо, як кажуць, уступіў у поўдзень жыцця і кожны раз, калі я прыязджаю ў сваю родную вёску Саськаў-

ка, што на Шклоўшчыне, яшчэ здалёку, з узгорка, бачу нашу бярозку, згадваю апошнія словы бацькі.

У хвіліны роздуму перад маімі вачыма незабыўнымі кадрамі кінастужкі паўстае маленства.

Суровая зіма. У нашай вялікай хаце паліцца жалезная печачка. На лаўках за сталом сядзяць мужчыны: адны, ідучы па ваду (калодзеж каля нашай хаты), прыйшлі пагрэцца, перакурыць, другія пабавіць час. Сярод іх і настаўнік Азараў. Ён ставіць мяне на крэсла і аб'яўляе: «Ну, а цяпер расказвай верш». І я, маленькі карапуз, дэкламую «Хлопчыка і лётчыка», мяне хваляць, даюць цукеркі-падушачкі,— і бацька ганарыцца: сын будзе лётчыкам! І яшчэ я вельмі любіў дэкламаваць верш «Вот моя деревня, вот мой дом родной», пераказваць казкі, што расказвала мама.

У нашай хаце мужчыны шмат гаварылі пра вайну, і я яе ўяўляў гульнёй, у якую гулялі старэйшыя за мяне хлапчукі, бегалі, хаваліся, крычалі «ўра!». І таму мне дужа карцела паглядзець, а як будуць гуляць у вайну дарослыя. І я з нецярпеннем яе чакаў. Але чакаць доўга не давялося. Ехалі і ішлі бежанцы, прасіліся начаваць. У небе кружылі самалёты. Праз нашую вёску адступалі чырвонаармейцы. Я глядзеў на іх, стоячы з мамкай каля калодзежа, і ўсё хацеў угледзець свайго тату, падаваў кварту запыленым байцам, бачыў, як прагна яны пілі. А над Магілёвам гарэла неба, дрыжэла, хадзіла ходарам зямля.

І вось у нашай вёсцы з'явіліся немцы, яны ігралі на губных гармоніках, пелі, весяліліся, нешта незразумелае гергеталі.

За вайну давялося перажыць і голад і холад, не раз глядзець смерці ў вочы.

І ўсё ж мне давялося выжыць, перамагчы смерць.

Нялёгкім было і пасляваеннае жыццё. Вясной, каб пракарміцца, мы, дзеці, разам з дарослымі збіралі гнілую бульбу, з якой, гаварыла маці, пяклі «піра-

гі», варылі казелец, заечае шчаўе, а ў нас быў яшчэ і свой промысел: у лесе шукалі птушыныя гнёзды, а ў іх — яечкі.

У школу я пайшоў адразу ў трэці клас — чытаць умеў добра, а вось пісаць і рашаць задачы не навучыўся. І таму арыфметыку трэба было пачынаць з першага класа. Настаўнікі былі выпадковыя людзі. Адзін з іх, Іван Ігнатавіч, вярнуўся з фронту кантужаным, а ўжо, здаецца, у трэцім ці чацвёртым класе былі вучнямі сапраўдныя хлопцы. І сярод іх — Стась Мікалуцкі. Вось ён і быў першым дарадчыкам нашага настаўніка: рошыць той задачу няправільна, а мы, меншыя, правільна, настаўнік наш усё роўна скажа: «Вучыцеся ў Стася, а вы нічога не разумееце». Так было ў пачатковай школе.

У сярэднюю школу даводзілася хадзіць за добрых пяць кіламетраў. Па марозе і бездаражы. У школе была невялічкая бібліятэка, і я за час вучобы перачытаў усе кнігі, што былі ў яе наяўнасці. І, вядома, сам пачаў пісаць у рыфму. Але друкавацца пачаў не з вершаў, а з баек. Першую байку «Два працадні» надрукаваў у раённай газеце. Я нічога ў ёй не выдумляў. Проста ўзяў канкрэтны факт: жонка нашага калгаснага рахункавода ніводнага дня не выходзіла на працу, а яе муж ёй прыпісваў нароўні з іншымі ўдовамі-салдаткамі працадні. Я толькі змяніў імя той «працаўніцы», але яна адразу пазнала сябе ў маім «творы». Яна ж была і маім першым крытыкам: атрымаў ад яе па плячах чапялой — за баявы жанр і крытыка баявая!

З таго часу я яшчэ мацней палюбіў гумар і сатыру і крытыкі пасля такога «хрышчэння» не баюся. Больш сур'ёзна пачаў працаваць у паэзіі пасля заканчэння дзесяцігодкі, калі стаў супрацоўнікам раённай газеты, пайшоў на свой хлеб. Паступіць ва універсітэт не давялося, не прайшоў па конкурсу. Такі

лёс напаткаў і майго друга Янку Сіпакова. І вось мы, два раённыя паэты, здымаем невялічкі пакойчык, пехатой бываем ва ўсіх калгасах Шклоўшчыны, пішам нататкі, рэпартажы, нарысы, па чарзе носім адзін плашч. А самае галоўнае — пішам і друкуем у сваёй «раёнцы» вершы. Былі мы ўдзельнікамі нарады маладых пісьменнікаў рэспублікі 1955 года. Мне пашчасціла не толькі бачыць і слухаць Якуба Коласа, а нават сфатаграфавацца з ім. У тым жа годзе ў Магілёве я сустрэў свайго земляка (яго вёска кіламетры за чатыры, праз лес, ад нашай) цудоўнага паэта і чалавека Сцяпана Гаўрусёва, які, прачытаўшы мае вершы, сказаў, што яны варты друкавання ў рэспубліканскай прэсе, узяў іх, і неўзабаве яны былі змешчаны ў «Чырвонай змене». З таго часу я пачаў друкавацца ў рэспубліканскіх газетах і часопісах.

Вельмі многае дала мне служба ў радах Савецкай Арміі. Гэта — сапраўдная школа, якую абавязкова павінен прайсці кожны пачынаючы літаратар.

Пасля дэмабілізацыі працаваў у рэспубліканскіх газетах і часопісах, па рэкамендацыі незабыўнага Петруся Усцінавіча Броўкі паступіў у Літаратурны інстытут СП СССР імя Горкага, які закончыў з адзнакай. За час сваёй літаратурнай працы ў літаратуры выдаў шэраг кніг для дарослых і дзяцей, па-ранейшаму сябрую з гумарам і сатырай. Але ўсё тое, што я напісаў, гэта толькі яшчэ прадмова да таго галоўнага, што хочацца зрабіць. А зрабіць хочацца многае — паспрабаваць свае сілы не толькі ў паэзіі, перакладах і крытыцы (у рэспубліканскім друку я змясціў шэраг творчых партрэтаў пра паэтаў майго пакалення), але і ў прозе, і ў драматургіі.

І ўсё ж на першым плане ў мяне — паэзія. Я добра ўсведамляю, што сапраўдны паэт ніколі не існуе сам па сабе, у яго творчасці заўсёды адбываецца шчаслівая сустрэча сталасці таленту і сталасці часу.

Гэту кнігу я пісаў на працягу ўсёй маёй свядомай творчай працы. Яна — мая біяграфія, мая споведзь перад народам і Радзімай, перад сваім пакаленнем. Час ад часу я звяртаюся да мінулага роднага краю, праз сівыя стагоддзі мне чуецца і сёння плач Яраслаўны, мудрае слова, змешанае са слязою, Святаслава. Гэтыя творы напісаны ў розныя гады і надрукаваныя ў папярэдніх зборніках. Вершы пра армію, песні маці таксама з розных кніг у гэтым выданні складаюць асобныя раздзелы. І не выпадкова. Бо гэтае выданне — мая першая спроба адабраць тое значнае, што напісана мной больш чым за чвэрць веку.

*Такая чыстая вада!*
*Стаміўшыся з дарогі,*
*У ёй баюся спаласнуць*
*Запыленыя ногі.*

З кнігі

# «САЛДАЦКІ ГОРН»

(1955—1960)

## ПРЫСЯГА

Сцяг гвардзейскі,
Прастрэлены кулямі
У суровых смяротных баях,
Перад строем цябе цалую,
Азарыў ты, як сонца, мне шлях.
Прысягаю бацькоўскаю клятваю
Я, Радзіма, твой воін і сын:
Над маёй прыдняпроўскаю хатаю
Не захмарыцца неба сінь.
Не парушу ніколі прысягі я,
Калі трэба,
Пайду у бой.
Бо шуміць
Гучнай славай, адвагаю
Магілёўскі шоўк нада мной.
Палымнее,
Пад ветрам калышацца
Наш гвардзейскі
Праслаўлены сцяг,
Перад ім,
Прамяніста вышытым,
Паў рэйхстаг.

## ДАРОГА НА ПАЛІГОН

Дарога — ні праехаць ні прайсці. Уначы
Гразь мы месім кірзоўкамі. Дождж асенні імжыць.
У дарозе загрузлі дзесь цягачы.
І хвіліна, як вечнасць, марудна бяжыць.
Мы забылі пра ўсё:
пра дзяўчат, пра бацькоўскія хаты.
Нам загад камандзіра — Радзімы свяшчэнны закон.
Мы ўсю ноч да світання цягнулі гарматы
На рубеж абароны, дзе наш палявы палігон.
Нас паход не стаміў, хоць ракою пот ліў.
Мы цягнулі гарматы, буксавалі на кожным кроку,
Мы пад колы кідалі свае шынялі
І тады ўздыхалі з палёгкай.
Не на мяккай пасцелі заснём,
І не маці сягоння разбудзіць,
Падаіўшы карову, свежы піць сырадой,
Раніцою пачнецца звычайны вучэбны наш будзень:
Будзе гром не змаўкаць,
будзе неба без хмар над зямлёй.

* * *

Ноч на пост заступіла, не сказаўшы ні слова,
І нібы па статуту салдацкую службу нясе:
Без дазволу ўзышоў маладзік — паглядзела сурова.
— Стой! — сказала, і зоркі яго абкружылі усе.

І схаваўся ў той міг па загаду ў аблоках
«Парушальнік», якога чакаў вартавы.
Толькі ў цемені чуюцца ўпэўнена смелыя крокі.
Ападае раса ціха-ціха з травы.

Не зварушацца цені бярозак,задумных.
Адзінока сава пракрычала ўначы.
Ціха сосны шумяць — не іграюць на струнах,
Так, як вечарам гралі вятры-скрыпачы.

## ШПАКІ Ў ГАРНІЗОНЕ

Ля казармы ціхай садзяць клёны
Маладыя хлопцы-навічкі.
Што вясна прыйшла, у гарнізоне
Праспявалі раніцой шпакі.

Старшына вусаты ў захапленні,
Бо шпакі на добрым ліку ў нас:
Прыляцелі, нібы папаўненне,
І гарністам — хоць ідзі ў запас.

* * *

Цеплынёю дыхае ралля.
Прарастаюць ў цішыні зярняты,
І, як доктар, слухае зямля —
Моцна сэрца б'ецца у салдата.

* * *

Над нівай прашумела навальніца,
І гром не мог заціхнуць ўгары.
А сувязістам нельга супыніцца,
І ў дождж цягнуць ім доўгія шнуры.

Шыпяць ад пены лужыны, і волка
Зіхцяць у росах травы і жыты...
І над ракой схілілася вясёлка
Напіцца з пехацінцамі вады.

## СНЫ

Горнам павіс маладзік над сасной:
— Ад-
бой!
Ад-
бой!
На палігоне — траве лугавой —
Адбой.
Зенітцы, што біла наводкай прамой,—
Адбой,
Вучобе, напружанай і баявой,—
Адбой.
Спяць
Бязвусыя,
Спяць
Косы русыя.
Стаяць у суровым маўчанні гарматы
Каля палатак.
Дыміцца ў пене Млечны Шлях,
І ён сырадоем прапах.

Неба-мішэнь. Зарападам прашыта,
Як сіта,
А сны салдацкія, а сны салодкія,
Такія кароткія!

## КАЛЯ ВЕСНІЧАК ПРЫСТОІЎ

Каля веснічак прыстоіў
На хвіліну.
А на вішні плашч-накідкі
Май накінуў.

Я стаю, зачараваны,
І ні з месца.
Як з дзяўчынаю каханай
Мне сустрэцца?

Тры гады не сустракаўся,
О, даўно як!
І пастукаў асцярожна
У акно я.

Адчыніла, паглядзела,
Не пазнала,
Але сэрцам зразумела,
Запытала:

— Гэта ж ты, чаму ж у хату
Не заходзіш,
У дзвярах, магчыма, клямкі
Не знаходзіш?

І адказу не чакала,
Выйшла ўвішна.
...Эх, знаёмыя сцяжынкі,
Ў цвеце вішні!

* * *

У капцёрку здадзены бушлаты
І вушанкі-шапкі. Перайшлі
Зноў на форму летнюю салдаты,
Носяць зноў пілоткі, шынялі.
І стаяць, як на паверцы, клёны,
Нібы не цывільныя зусім:
Красавік зялёныя пагоны
Прышпіліў ім,
Нібы радавым.

## ЧАС КАРАВУЛЫ МЯНЯЕ

*Міхасю Калачынскаму*

Час каравулы мяняе,
А песню не старыць час.
Сяброўка салдат баявая,
Не спішаш яе ў запас!

Яна у кірзавых ботах
Хадзіла ў разведку, на бой,
Яна начавала ў балотах,
Стралковая рота, з табой.

І не прасіла прывалу,
Калі бушавала вайна.
«Песню давай, запявала!» —
Патрабаваў старшына.

І песня ўзлятала над строем,
Ляцела, як куля, ў прасцяг,
На подзвіг натхняла герояў
І штурмавала рэйхстаг.

Песню гады не састараць,
Выпрабавання час.
Песня — жывая памяць,
Песню давай, таварыш,
Песню не спішаш ў запас!

З кнігі

# «САЛАЎІ»

(1969)

* * *

*Маці прысвячаю*

Саматканыя, з белага кужалю,
Пабялёныя ля ракі,
Вышываныя пеўні кружацца —
Паглядзіце на ручнікі!
Пеўні, пеўні —
Край мой спеўны!
Дарагія землякі, дарагія ручнікі!
Ім на свеце не знойдзеш цаны,
Ў іх затканы колер вясны,
Сінява рэчкі.
Над борам заранак —
Пеўні, пеўні
Сталі на ганак,
Абвяшчаюць ранак.
Пеўні, пеўні,
Як сцягі, грэбні,
Колькі гадоў
Былі вы гадзіннікамі ў дзядоў!
Твар вясковым ручніком
Выціраю раніцай:
— Мама, мама! Родны дом
Не, не забываецца!

## СЯННІ

*Аляксею Пысіну*

Пры сустрэчы — дзе бываць маўчанню!
— Колькі год і зім! — Здароў!
— Здароў!
Мы па песнях птушак прыкмячаем,
Па гамонцы — землякоў.
Часам мы не заўважаем самі
Слоў сваіх і песеннай красы.
— Ты даўно прыехаў?
— Толькі сянні,
Не паспеў на травах збіць расы.
Мы яго сустрэнем у вандроўках
За край свету ад Дняпра-ракі,
Як сцягі,
што магілёўскім шоўкам
Вышываюць рупныя жанкі.
У ткачых жа прымаўка другая,
Ад Дняпра ў дняпранак-маладзіц
(Кожная з іх — нібы зорка ззяе)
Гэта слова — сянні — маладзіць.
— Сянні Ганула —
Макаў цвет,
Не знае матуля —
Цалаваў сусед.
— Ай, ды гэты Янка —
Толькі абяцанкі:
Сянні — з ёю,
Заўтра — з другою.
— Не, няпраўда: мой сусед
Пойдзе з Ганнай ў сельсавет.
— А калі?
— Сянні.
Убачыце самі.

І калі агорне сум часамі
У вандроўцы доўгай без сяброў,
Пачынаю дні лічыць: вось — сяпні,
Заўтра... І — дамоў!
Раніцай прыеду — я упэўнеп,—
А пакуль гляджу на ручнікі,
І на іх спяваюць сяпні пеўні,
І са мной гавораць землякі.

* * *

Слава зярнятку, і коласу слава!
Ліўням,
Што шчодра ніву паілі,
Сонцу,
Што промні, як ласку, дарыла,
Ветру,
Які навальнічную хмару
Развеяў, і град не апаў смертапосны.
Вось ён ляжыць на стале караваем —
Хлеб мой надзённы —
Паўдзённае сонца.
Маці дастала яго толькі з печы
І, як дзіцятка, вадою памыла,
Пацалавала па звычаю тройчы,
Чыстым бялёсым абрусам накрыла,—
І ў хаце адразу святлей яшчэ стала,
Нібы засвяціла сонца другое,
Якое
Вясною
Прапахла потам,
Жніўным вянком красавала ў зажынкі.
І вось яно ляжыць на стале —

Які духмяны пах на ўсю хату!
Ён дораг мне, хлеб.
З ім гасцей сустракаю,
На ручніках, расшытых пеўнямі, падношу:
— Частуйцеся, калі ласка, сябры!
Рэжце і ешце на здароўе!
Я з цэлым светам гатоў падзяліцца хлебам.

## ЛАЗНЯ СУСЕДА

Перад нядзеляй —
паглядзелі б! —
О, як нядзеляцца суседзі!
На агарод спяшаюць шпарка,
Бярэмы дроў на іх руках,
Дыміцца лазня, як цыгарка,
І парай пахне ў паплавах.
У печцы грэецца жалеза,
І калі стане медзяком,
Дык качаргой яго паджэзляць
І — у ваду.
Там хадуном
Бушуе ў бочцы, ходзіць, пеніць,
Вада пыл ваяўнічы спыніць.
Пасля кідзель у бочку венікі —
І ў лазні пахне, бы ў бярэзніку.
Дзядзькі дадуць такое пары,
Што апячэш аб сцены пальцы.
І лазня робіцца пякельнай,
Гарачыня — як у пустыні.
— Яшчэ паўкварты на каменне!
— Э-эх! — пакрэктваюць мужчыны,
І венікамі цела сцёбаюць

Вясковыя Гераклы —
Макары, Трафімы, Сцёпы —
Эхаюць, ахаюць.
Зайздрошчу іх сіле, вынослівасці.
Памаладзелыя,
                    выходзяць на ганак,
Выходзяць з лазні —
                    кашулі наросхрыст —
І пытаюць:
— Ці ёсць там... у Ганны?

* * *

— Глядзі, унук!
                    Вучыся, Жэня,
Любіць карміцельку-зямлю,—
І дзед з сяўні за жменяй жменю
Зярняты кідаў у раллю.
Іх мылі ліўні, мылі росы,
Яны, набраўшы сіл зямных,
Былі вышэй за дзеда ростам
І маладзей за нас, малых.
Пра гэта думаю. Не спіцца.
Ці чараўнік быў дзед, ці бог?
Адзін ён толькі бачыць мог:
У зерні — колас каласіцца!

* * *

Усмешку беражыце, як дзіця.

Звычайную усмешку чалавека!
Вы паглядзіце: у трамваі едзе
Жанчына (пэўна, маладая маці).
О, як яна сягоння рана ўстала
(Яшчэ не зазваніў будзільнік)
І ціха, нібы сонечны праменьчык,
Прайшлася па падлозе да калыскі,
Дзе спіць малое — жаўраначак весні,
І цмокае з прысмакам язычком.
Схілілася над ім. І ў мілы лобік
Пацалавала — хай яшчэ паспіць.
І гэтак жа нячутна, як праменьчык,
З усмешкай ад калыскі адышла.

Ёй у трамваі месца уступіце!
Вы паглядзіце на яе усмешку —
Няўжо яе вагон закалыхаў?
Ды не! Глядзіце — толькі не будзіце! —
Няхай яна хвіліначку паспіць.
І не зыходзіць залатая ўсмешка.

Такой вы не сустрэнеце нідзе!
Маленькая, як звонкая расінка,
Нявінная, як першы пацалунак,
І чыстая, як гладзь вады азёрнай,
І цёплая, як сонечны прамень.

Усмешку беражыце, як дзіця!

## КАЦЬКА

— Бусел вунь, паглядзіце, ляціць! —
Заўважае маленькая Кацька.
Я дапытлівы бачу пагляд!
— Расказаць пра бусла вам казку?
— Раскажы.
— За сінім лесам,
Дзе пяюць сінічкі,
Гуляюць весела
Брацікі, сястрычкі.
Галаскі іх звонкія.
Як ручаёчкі,
Збіраюць там рамонкі,
Плятуць вяночкі.
Бегаюць, купаюцца, загараюць
Недзе там далёка, за гарамі.
Я там не была, а мама гаварыла,
Што ў белага бусла і мяне купіла.
У каго няма сястрычак,
дзяўчынкі просяць матуль
Там купіць — і буслы іх вясной прыносяць.
А брацікі (ім так хочацца)
Просяць у татаў купіць хлопчыкаў.
Я хачу гуляць з брацікам,
Буду яго называць Стасікам.
Вось толькі зусім я не бачыла таты
(А бусел без яго згоды хлопчыка не прыносіць),
Ён да нас не прыходзіць, дужа заняты:
Сена сабакам косіць.
Так мне гаварыла мамка.
— Дзядзя, а чаму мой тата сена сабакам косіць?
Я іх не люблю.
Яны злюкі.
Гаўкаюць нават на дзяўчынак.
А вось кароўкі добрыя,

Яны малачко даюць.
Дзядзя, а вы майго татку ўбачыце?
Скажыце, няхай ён купіць мне брацiка
І перадасць буслу, каб прынёс.
Вунь, вунь! Паглядзіце, бусел паляцеў!
(Я зірнуў у неба, там кружыў,
Нібы самалёт, бусел. Я ўзяў
На рукі Кацьку.)
— А цяпер раскажы іншую казку.

## ПАХ ПАЛЫНОВЫ

Ой, не трэба мне мёду
У сяброўскай бяседзе.
Дужа соладка будзе,
Дарагія суседзі.

Дайце крышачку солі
Вы на хлеб мне пасыпаць,
Дайце чарачку горкай
За сталом праўды выпіць.

Хай бяседа ліецца
Аж да самага рання,
Нават горкая праўда
Саладзейшаю стане.

Ой, не трэба мне мёду,
Як салодкія словы,
Я хачу, каб у мёдзе
Быў і пах палыновы.

* * *

На росных сцежках — росныя сляды.
І я іду да роднага парога.
Назад мая не вернецца дарога,
Адкуль прыйшоў, не вернешся туды.

Калі акіну позіркам гады,
А іх зязюлі налічылі многа,
Рахунак сумны,— падыходжу строга,—
Няўжо паспелі адцвісці сады?

Ем хлеб бацькоўскі, а чаму не свой?
Ем яблык не ў сваім уласным садзе.
Вам, пэўна, дзіўна, што са мной няладдзе —

А гэта адбываецца са мной:
Хачу свой сад я людзям падарыць.
Скажы, зязюля, колькі год мне жыць?

## ЛАСТАЎКІ

Вы бачылі, як гнёзды яны лепяць?
Па камячку маленькім носяць гліну
У дзюбачках маленькіх.
Ні дзень, ні два не ведаюць спачыну.
Адно жаданне ў іх — гняздо зляпіць.
Таму яны заўжды вясну прыносяць,
Бо спознядца — і высахне зямля,
А дождж не хутка зробіць яе клейкай.
Ах, ластаўкі! Якія працаўніцы!
Кладуць, кладуць маленькія цаглінкі,
А сонца, не шкадуючы раствору,

Іх склейвае надзейна і трывала.
Утульна, суха, цёпла ў новым доме,
І нават мякка на пярыне спаць:
Такіх яны пушынак нанасілі —
Не кожны на такой падушцы дома спіць.

Пад страхою — ластавак гняздо,
Іх працу па заслугах ацаніце!

## РАНІЦА
## 12 КРАСАВІКА 1961 ГОДА

Лёгкія аблокі
У небе, нібы конніца.
Раніца. На кожным кроку:
— Чулі? Чалавек у космасе!
Адкуль касманаўт?
                    — Смаленскі!
Наш чалавек — савецкі!
Да Смаленска
                рукой падаць ад Хоцімска.
Людзі незнаёмыя абдымаюцца
За навуку нашу, за поспех.
Пачуцці у сэрцах не месцяцца,
І мой двухгадовы хлопчык
Корміць галубоў просам:
— Ляціце,
            птахі,
                у космас!
Як гэта добра гучыць:
У космасе —
                чалавек і голуб!
Мой сынок у неба глядзіць —

Многае не зразумець маломў.
Гісторыя — сведка
Свой летапіс яму адкрые:
Мара Цыялкоўскага —
першая разведка,
Якую ў космас пачала Расія.
Сонечная раніца.
Такая ўсім падабаецца.
Нават зорам Галактыкі.
Чалавек вярнуўся з космасу.
Малады.
Жыццярадасны.
Усміхаецца.
Так пачаўся век касманаўтыкі.

## ВЯЗЫНКА

Ліпень пахне настоем ліпавым.
Ранкам сонца у лісці зайграла.
А каму гады зязюля лічыць?
Ку-ку! Ку-ку! — Чуеш, закувала.
Ты скажы, зязюля, што прарочыш —
Славу ці бяссмерце гэтым ранкам?
Тут калісьці нарадзіўся хлопчык.
Маці яму пела калыханку:
«Спі, сыночак! Ку-ку! Ку-ку!
Спі, саколік, кінь дакуку!»
Каб вялікім рос, яго купала
Маці, клапатлівая сялянка.
На купалле папараць шукала —
Кветку шчасця дарагому Янку.
А зязюля звонка кукавала
У дуброве над ракой Рыбчанкай.

На палетках жыта выспявала,
Гаманілі шумныя дубровы.
Маці жала, сына спавівала
На загоне, пад снапком жытнёвым.
А зязюля песню кукавала,
Калыханку сыну у дуброве.
З гэтай песняй вырас сын вялікім
І пайшоў хадзіць па белым свеце...
Я у хаце ля старых ракітаў.
Мне зязюля кажа пра бяссмерце.
Свет убачыў у сялянскай хаце
Сейбіт песень, уладар вялікі...
Я сустрэўся. Маладая маці
Калыхала сына ля ракіты.
Калыхала, песню напявала,
На палетках жыта каласіла.
Як раней, зязюля кукавала,—
Пра Купалу песня каласіла.

## КАРЭННІ

Яны ў зямлі ляжаць глыбока,
Непаэтычныя зусім.
Пра іх
Гаворым
Аднабока
Або зусім пра іх маўчым.
І веснавую квецень хвалім,
У спёку мы шукаем цень.
Пад дрэва сядзем або станем
І скажам:
— Ах, гарачы дзень!
Хвалу пяём лістам зялёным,

Заўсёды ўдзячны шчыра ім.
Чаму карэнні мы не ўспомнім?
На іх стаім!
На іх стаім!

## ПЕСНЯ ЗЯЛЁНАГА ДАЖДЖУ

Не саромся, Зямля, што ты голая,
Я хачу цалаваць цябе такую,
Твае грудзі малаком напоўніць,
Каб карміла ты дзяцей маленькіх,—
Толькі не саромся, Зямля!

Я напоўню цябе смехам сонца,
І ты будзеш заўжды ўсміхацца.
Я напоўню цябе галасамі
Усіх пералётных птушак,—

Іх прымі — дарагіх дзяцей!

Я, сейбіт руплівы, зярняткі
Падару ў вянок красавання,
Ні адно не загіне ў глебе,
Стане коласам важкім, тугім.

Ты расці іх, Зямля, расці!

Не саромся, што ты голая,
Я табе падару сукенку,—
Толькі ліўнем зялёным на грудзі
Твае голыя ранкам пральюся,
Зацалую. Не бойся мяне.

Я люблю цябе моцна, Зямля!

* * *

На дрэвах
З набрынялых пупышак
Праклюнуліся,
Як курапяткі,
Вострымі дзюбачкамі лісцікі.
(Вы чулі, як уночы яны страляюць?)
А раніцай — заўважце! —
Глядзяць на сонца.
Яшчэ кволенькія і такія нясмелыя.
На іх галоўках ляжаць расінкі.
І толькі пасля вырастаюць лісты,
Сапраўдныя,
Толькі розныя.
На бярозах — клейкія.
На ліпах — мяккія.
На дубах — моцныя.
На рабінах — сарамлівыя.
На асінах — палахлівыя.
І ўсе яны — зялёныя,
А восенню — жоўтыя, як злiткі сонца.
Ападаюць на дарогі,
Вецер не шкадуе чырвонцаў золата,
Шпурляе іх бязлітасна у гразь,
І людзі ходзяць па гэтай красе.
Такі закон прыроды.
Для нас ён — звычайная з'ява.
І што тут дзіўнае я прыкмеціў?
Будзь пастаянным, маё здзіўленне,
Не пакідай ніколі!

* * *

Мне з кожным днём чагосьці не стае.
Мне з кожным днём чагосьці мала-мала.
Гляджу у вочы любыя твае,
І ўсё ж мне не хапае слова — мама.
Я знаю цеплыню тваіх вачэй,
Якім нідзе не знойдзеш параўнанняў,
Я знаю вусны — сонца гарачэй,
Не ранішнія промні у тумане.
Зямное, найсвятлейшае «люблю»,
Каго ты толькі ў высі не ўзнімала!
Я салаўя без песні не ўяўлю,
Хоць побач жаба ноччу горла рвала.
Пакуль жывуць і Вера і Любоў
І золатам яшчэ у свеце правяць,
Пакуль у жылах маіх б'ецца кроў,
Ідуць, як цені, Здрада і Нянавісць.
Пакуль плыве славуты мой Дняпро,
Рачулкі бег не спыняць ні на хвілю,
А будзе йсці, перамагаць Дабро,
А зло згніе ў сваёй балотнай цвілі.
Любоў і Вера! Вы за ўсё мацней,
Адкрыты дзверы насцеж перад вамі.
Каханай знаю цеплыню вачэй.
А як цябе мне не хапае, мама!..

* * *

Апоўначы
Прачынаюся ў трывозе:
Нехта ў акно шкрабецца
Доўга, без слоў, як кот,

І толькі,
Адхінуўшы фіранку,
Усё разумею як след:
У дажджу заледзянелі пальцы,
І ён грукаецца ў акно
Адагрэць іх у цёплай хаце.

* * *

Кінь два зярняткі — на зямлю і камень.
Абое прарастуць яны спачатку,
Зіма накрые іх пуховай коўдрай.
Ім, як на печы, цёпла будзе спаць.
І ўсё ж вясною лёс іх будзе розны,
Хоць ранкам п'юць аднолькавыя росы
І сонечныя шчодрыя праменні:
Зярнятка, што упала на зямлю,
На ногі ўстане — кволае, малое —
Пацягнецца да сонца, як з калыскі
Дзіця да маці цягнецца грудзей.
Яму рунець і сілы набірацца!

Другое прарасло, на свет зірнула,
Засохла і загінула на камені.

Каб зарунець і коласам наліцца,
Зярнятку трэба глеба, а не камень.

Зямлі — зямное...

* * *

Любіце музыку, як сосны.
Яны — нацятыя, як струны,
Як беларускія цымбалы,—
Зайграюць — праўдзі смычком.
О, музыка! Ты — неўміручасць!
І гэта разумеюць сосны,
Ім паміраць не страшна нават,
Спакойна могуць заявіць:
«Мы на зямлі паспелі кінуць,
Як гукі дзіўныя, насенне.
І пасля нас устануць сосны,
І новай музыкі акорды
У нашых дзецях зазвіняць».

## ВЯЧЭРНЯЯ ЧЫРВАНЬ

**(З карціны Урубеля)**

Ты заходзіць, сонца, не спяшы,
Не гасі пажар на небакраі.
Цішыня. Адзін я. Ні душы.
Прэч, трывога! Чуеш? Праганяю,
Ноч засела ў чорнай барадзе,
Дай ёй, сонца, свой чырвоны колер —
І трывога чорная спадзе
З чорных думак і чырвоных коней.
Я — адзін. Наўкол — чырвоны стэп.
І табун чырвоны мой пасецца.
Буду есці я чырвоны хлеб,
На чырвоных травах буду грэцца.

* * *

У жаваранка
Дзве хацінкі светлыя:
Адна — зямля,
Другая — паднябессе.
— Прызнайся шчыра,
Жаваранак,
Мне.
Якую ты хацінку
Любіш больш?
— Без песні мне
У неба не ўзляцець.
Стаіць мая хацінка ў баразне,
Над ёй шумяць,
Гамоняць каласы.
На ёй — як сонца —
Кропелькі расы.
У ёй жывуць мае малыя дзеткі.
Тут песня нарадзілася мая.
Як без хацінкі гэтай мне пражыць?
Другая — неба,
Сонечны блакіт.
Прастор для крылаў —
У аблоках быць.
Мне з вышыні
Уся зямля відаць,
І неба я без песень не ўяўляю,
Як дзень без сонца,
Поле без жытоў.

* * *

Май у белых маюе садах,
Абдымаючы, яблыні песціць.
Я нашу салаўя ў грудзях,
А з грудзей вырываюцца песні.

Выпускаю свайго салаўя
На прастор над высокімі кручамі —
Стане светла у звонкіх гаях,
Навылёт усе ночы пявучымі.

А сустрэнуцца толькі з зарой —
Стануць белыя яблыні спеўнымі.
І у сінім тумане Дняпро
Разальецца ад песень саперніка.

А каханыя будуць без слоў,
А пачуцці такія гарачыя.
Выпускаю сваіх салаўёў —
Усе планы яны перайначылі.

І дадому ісці ім пара.
Дарагая, магчыма, азябнула?..
Да крыві абцалуе зара
Закаханых пад белаю яблыняй.

Вінаваты ва ўсім толькі я,
Песні вы не вініце ніколі —
Я нашу у грудзях салаўя,
Выпускаю яго на волю!

## ВЯСНЯНА

Ах, Вясна-Вясняна,
Чараўніца!
Ехала на сонечнай
Калясніцы.
Як махнула рукавом
Над дубровай,—
Шчэ не бачыў белы свет
Той абновы...
Як махнула ў другі раз:
— Выпускаю
Галасістых салаўёў
Свайму краю.
Шум зялёны весніцца,
Куды ні пойдзеш —
Салаўінымі песнямі
Звініць поўдзень.
Як махнула ў трэці раз
Вясняна над баразнамі,
Што трактарамі узараны.
Выйшлі дружна сейбіты
На загон:
— Буду з вамі сеяць я
Яр і лён!
Адборнымі зярняткамі
Сяўню сваю напоўніла.
З кожным зярняткам
У глебу кідала
Па залатым промніку:
— Няхай лён кусціцца,
Яр залаціцца!
Я пашлю на зямлю-зямліцу
Дожджык краплісты,—
Прарастайце, зярняткі,
Усе чыста!

## ГАНЧАРЫ

У вёсцы Ганчары —
карэнныя ганчары.
Нават мае равеснікі
На ўсю акругу вядомы майстры,
А не якія рамеснікі.
За ганчарным кругам
Не ведаюць спакою,
Круг ганчарны круцяць,
Як Зямлю вакол Сонца.
Ці ж у вёсцы дзяўчат
Нашай мала так?
Круг ганчарны вінават,
Кажа мама мне.
Ходзіць кругам галава,
Як у хмельнага,
Што мне росная трава —
Вішні спелыя!
Дома ўседзець не магу —
Сярод ночы мне
Цераз рэчку, цераз луг
Бегчы хочацца.
А куды? У Ганчары —
Да дзяўчат-чараўніц.
Як мне быць?
Што рабіць?
Стаю пад рабінаю —
Прад вачыма круг стаіць.
Мне арбітаю.

## ПОЎНЯ

Поўня —
Помні
прыкмету дзядоў:
На ўраджай
высявай яравыя —
Будуць, як поўня,
Засекі поўныя
Хлебам.
Поўня —
Месяц выплывае ў чоўне,
Як рыбак з багатым уловам.
Яго човен
Рыбы повен.
Поўня —
Спёка поўдня.
Лета.
Цёплай рукой
Гладзіць калоссе ветрык.
Поўня —
Пераходзіць з поўным
Вуліцу маладзіца.
— Адкуль вадзіца?
— З крыніцы.
— Дай напіцца,
Хачу ўлюбіцца.
— Нясу свайму каханаму ў поле...
Поўня.
У мазалях далоні.
Ва ўсмешцы — сонечныя промні.
Да краёў маё сэрца напоўні
Радасцю,
поўня!

## МЛЫН

Лета цэлае праспаў,
Ну, ці выспаўся?
Першы блін
Табе, млын,
Ніва выспеліла.
Выходзь,
Дзеду,
Госць
Едзе!
Ад цяжару стогне мост.
Угінаецца —
Цераз мост
Перавоз
З самай
Раніцы.
Працаваць ты гатоў
З новай сілаю?
Скінь дзесяткі два гадоў,
Узмахні крыламі!
Узрост не старэчы,
Дужы як ніколі,
Закруці рэчку
На сваім коле!
Сустракай
Гасцей,
Працуй —
Не пацей!
Ну, хіба не пазайздросціць
Табе, млын?!
Шчодра выспеліла сонца
Новы блін.
Выпякай з мукі пшанічнай,
Самай беленькай.
Як зярняты,

Урачыста
Сонца мелецца.
Не знайце стомы,
Жорны,
Пірог пячыце,
Жонкі!

* * *

Не, не забыцца...
— А дзе ж суніцы?
У лесе — ліпень,
А мне — не выйсце.

У лесе — ліпень,
Ды — хлынуў лівень,
Краплісты, спорны,—
Ці ж я тут вінен?

І нас хавае
Сасна старая,
Густую крону
Дождж прабівае.

К табе прынік я,
Мокры да ніткі:
— Не прастудзіся,
Холадна, Лідка?

Любімы голас,
Каса па пояс:
— З табой паеду
Нават на полюс!

Кажу сур'ёзна:
— Сягоння росна,
Заўтра суніцы
Збіраць не позна.

На пахкім сене
Соладка спіцца.
Уранку, пеўні,
Нас не будзіце.
У поўдзень
Пойдзем
Збіраць
Суніцы.

* * *

Заблудзілася ў лесе казка,
Памаўчыце хвілінку, дразды.
Птушкі, змоўкніце, калі ласка,
Заблудзілася ў лесе казка —
Я шукаю яе сляды.

Толькі клікну — і мне адклікнецца,
Рэха блізкае прыляціць.
Вы не бачылі казку, сініцы?
Мо яна над пявучай крыніцай
Слёзна плача, сіроткай сядзіць?

Дзе ж ты, казка з лазовым кошыкам,
З вострым ножыкам у руках?
Бор, за казку маю трывожышся?
Дзе, скажы, прайшлі яе ножанькі,
Пабягу па яе слядах.

А раса на траве сцюдзёная —
Тут яна не ішла, не ішла,
І крыніца гамоніць-звоніць,
Не было тут Алёнкі сёння,
Не пляла касу, не пляла.

Дзе ж ты,
казка мая,
заблудзілася?
Дзе ж, Алёнка мая,
згубілася?
Я гукаю цябе: «Агу-у!»
Пакажу табе дзіва дзіўнае.
— Я ў лесе тваім не дзікая,
Заблудзіцца з табой не магу.

З кнігі

# «НЯДЗЕЛЯ»

(1972)

## КАЛОДЗЕЖ

На ўсю акругу ён відзён,
Ён для людзей — ручны.
І толькі засумуе ён
У ціхі час начны.

Ляцяць у вырай жураўлі,
А гэты — нікуды:
Не можа жыць ён без зямлі
І чыстае вады.

Здаецца годам ноч яму...
Ты сэрцам зразумей:
І чалавеку аднаму
Жыць сумна без людзей.

Ды толькі не крыўдуе ён
На свой жыццёвы лёс —
Прыходжу ранкам на паклон,
Як друг і рэдкі госць.

Махае мне вядром здаля:
Не бачыўся даўно.

Я ўзяў за шыю жураўля
І апусціў на дно.

І ён, шчаслівы, п'е нагбом
Сцюдзёную ваду.
Пасля ўзлятае ўвысь з вядром,
Крылаты,—
Я іду.

Вядро вады на зруб стары
Паставіў на зары,
І сонца плавае ў вядры,
Ну хоць рукой бяры!

* * *

Я ў сэрцы змясціў на гады, на жыццё
Колас жытнёвы,
Пах палыновы,
Верас на ўзлессі,
Матчыны песні.
Я ў сэрцы змясціў на гады, на жыццё
Дняпроўскі паром,
Бярозку пад акном,
Буслоў клекатанне
На сінім світанні.
Я ў сэрцы змясціў на гады, на жыццё
22 чэрвеня,
Неба чорнае,
Мяне на руках трымае тата.
Нядзеля. Чорная дата.

## АКНО ТРЫВОГІ

Мая трывога, не кідай мяне,
Са мною будзь і гавары са мною
Звычайнай мовай простаю зямною,
Як ручайкі гамоняць па вясне.

Мая трывога, я з табою рос
У грозны час, калі зямля палала,
На небе хмара сонца закрывала,
Палала выспа светлая бяроз.

Гуляў праменны зайчык па сцяне,
Гуляў і весяліўся ў нашай хаце.
А бусел клекатаў. На сенажаці
Былі касцы. І раптам у акне

Змяшалася зямля з блакітам звонкім,
Так скалануў яе адзіны гром,
Павісла хмара над сівым Дняпром,
Паветра стала чадным, дымным, чорным.

І знік вясёлы зайчык са сцяны,
І ад акна ні шыбіны, ні рамы.
Я хлапчуком запомніў слёзы мамы,
Мне сэрца паляць полымем яны.
Гарачыя, не высушыць ніколі,
Пякучыя, яны гараць агнём,
Шчымлівыя — о, колькі у іх болю!
Ты бачыў слёзы, смертаносны гром?

Я ведаю, акно, тваю трывогу.
Густая цемень. Ўспышкі бліскавіц.
І я ў трывозе — ведаю, не спіць
Мая матуля. О, як многа, многа
Ёй выпала на свеце перажыць.
І ёй, і мне такое не забыць.

* * *

Калі на небе смяецца сонца,
Вокны ўпускаюць у хату
Вясёлых промнікаў-зайчыкаў,
Якія бегаюць па падлозе,
А калі іх спалохаць,
Яны ускочаць на столь.
Калі на асенняй вуліцы дождж,
Вокны выціраюць слёзы —
Сцюдзёныя няпрошаныя кроплі,—
Як людзі, да якіх
Нечакана прыйшла бяда,—
Плакаць умеюць вокны.

* * *

Ты — мая весняя раніца —
Ласкава ў акно зазірнула
Першым праменем сонечным —
І працягнула рукі
Цёплыя-цёплыя.
Такія рукі
Могуць быць толькі
У аднаго чалавека —
Маці.
Ты — мая весняя раніца —
Засмяялася звонка-звонка,
Так можа смяяцца
Толькі адзін чалавек на зямлі —
Маці.

## РАСІІ

Соловьиное горло — Россия.
*А. Пракоф'еў*

Дзе ты пачынаешся —
Расія —
Песня мая шчырая, любоў?
Я пытаўся ранкам звонкім, сінім
У тваіх гарластых салаўёў.
— За Дняпром,
За маладым узлескам
Самыя пявучыя гаі.
На зямлі праслаўленай смаленскай
Родныя спяваюць салаўі.
Слухаў я парою вечаровай
Песню салаўіную ў гаях,
Блізкую, падобную па мове
Той, дзе Магілёўшчына мая.
Па суседству — і гаі, і вёскі,
І смалою пахнучы паром.
Можа, гэта рускія бярозкі
У маёй матулі пад акном?
Паглядзі,
Расія дарагая,
Наша маці, любая сястра,—
Салаўі адны у нас спяваюць,
І адна праменная зара,
І адны жытнёвыя разлівы,
Перазвоны чыстыя крыніц.
Доляю заручаны шчаслівай,
І навекі нам у дружбе жыць.
І усё, чым сёння мы багаты,
Вам, гасцям, кладзем на свой мы стол,
Караваем стрэнем вас у свята:
— Калі ласка, госці,
Наш хлеб-соль!

* * *

Доўгіх шляхоў я не адмаўляю,
Сам іх шукаю, сам выбіраю.

Узяўшы з сабою няхітрыя рэчы,
Хаце бацькоўскай кажу: «Да сустрэчы!»

Чую: пад горкай бруіцца крыніца,
Спяшаю вады з яе чыстай напіцца.

Смагу прагнаўшы, крочу я далей,—
Там адкрываюцца новыя далі,

Там мілагучна дуброва гамоніць,
Ціхія зоры над соснамі звоняць,

Доўгіх шляхоў я не адмаўляю,
Добрых сяброў у дарозе шукаю.

* * *

Пастаяла хвілінку на ганку,
Завязала на галаве белую хусцінку.
І, не спяшаючыся,
Пайшла на гарод.
Серп,— як сонечны промень выгнуты,
На плячы залаціўся.
...Я такой цябе, мама, заўсёды ўяўляю.

* * *

Гляджу з замілаваннем я, калі
Маці запаліць у печы,
Памялою зграбе вуголле,
Вымеце чыста под,
А потым дзяжу цяжкую
На падлогу паставіць,
Прынясе драўляную лапату,
Якая напамінае мне ложак,
Пакладзе кляновае лісце
І пачне сцяліць пасцель.
(У такія хвіліны здаецца —
Госць завітаў да нас,
Няхай адпачне з дарогі!)
Матуля кладзе на лапату
З вялікай пяшчотаю цеста,
Гладзіць яго рукамі,
Як маленькага сынка па галоўцы.

* * *

Ну як часіну такую не славіць —
Бульбу капаюць,
Бульбоўнік паляць!
Касцёр страляе у неба іскрамі,
Сэрцы дзіцячыя радасцю поўныя,
Пячэцца бульба ў сыпкім прысаку,
Сала кавалачак — яда цудоўная!
Бульба агульная, сала ўласнае,
Ды толькі сала няма у Стасіка.
Сядзіць ён ціхутка, адасоблена,
Пільна у зоркае неба угледзеўся.

— Падай мне ножык свой самароблены,
З табою, Стасік, усе падзелімся!
Ах, бульба з салам!
Ах, бульба з салам!
Такой нават мама не гатавала!
Ну як часіну такую не ўспомніць,
Як не сустрэцца з маленствам любым!
Бульбу капаюць,
Паляць бульбоўнік —
Восень прапахла печанай бульбай.

## БЕЛЯЦЬ ПАЛОТНЫ

Рэчка замерзла, па пояс сумёты,
З-пад снегу чарнеюць сухія чароты,
Не зварухнуцца, нібы застылі,
А колісь весела так гамацілі.
Нагаманіліся, пэўна, ў ахвоту.
Маўчаць чароты.

Сцежкай ад хаты ды праз гароды
Крочаць жанчыны да рэчкі заўсёды,
Вязуць на санках яны, старанныя,
З белага кужалю, саматканыя
Палотны, якія знялі яны з кроснаў.
Палотны бяліць не проста.

Мне не забыцца, ніяк не забыцца,
Як мая маці ішла па сцяжынцы
Да рэчкі, як прабівала палонкі
І апускала сувоі-палотны.
Пасля даставала і пранікам біла —
Палотны мыла.

Прыехаў дадому. Маці на рэчцы.
Бягу па знаёмай, пратоптанай сцежцы.
Ляскаюць пранікі, нібы малоцяць,
Гэта жанчыны палотны малодзяць,
Беляць палотны і рассцілаюць,
Хай вымярзаюць, хай вымярзаюць.
Столькі палотнаў яны набялілі,
Столькі палотнаў яны разаслалі —
Нібы на лузе світаннем сінім
Белыя гусі-лебедзі палі.

* * *

Вячэрні час. На схіле — лета.
У паднябессі — жураўлі.
Кастра няяркі круг — ад ветру
Хавае нас. Вось так жылі,
Нібы на востраве адкрытым,
Калумбы ў саматканых світках,
А гэта значыць — ты і я.
Маленства востраў — ён абжыты,
Капаюць бульбу, сеюць жыта
Удовы, як адна сям'я.
Яны павыплакалі вочы,
Ды верыць ні адна не хоча,
Што муж не прыйдзе на парог.
З тугазаплеценай касою,
Знаёма з плугам і касою,
Глядзела маці ў даль дарог.
Яшчэ ён прыйдзе, прыйдзе, прыйдзе
І будзе вечарам на прызбе
Круціць цыгарку і курыць.
Наваражылі і варожкі,

Што ўсе дамоў вядуць дарожкі —
У роднай хаце мужу быць!
Хоць маці вочы праглядзелі,
Але жывуць, жывуць надзеі,
Начамі нават сняцца сны:
Памаладзелыя дахаты
Прыйшлі, вярнуліся салдаты
На конях вараных з вайны.
А мы, малыя, засыпалі
Каля кастра — маленства даляў,—
Над галавой кашлаты бор
Шумеў на ціхім схіле лета.
Стаялі сосны, як ракеты,
А над зямлёю — безліч зор.

## УДЗЯЧНАСЦЬ

Я шчыра ўдзячны роднай хаце
І добрай печы, на якой
Сядзелі мы, малыя дзеці,
Зімой завейнаю, калі
Трашчалі ад марозу сцены,
А мы пад кажухом старым
Хаваліся, сядзелі ціха,
А печ сцюдзёная была.
І ўсё ж я ўдзячны роднай печы,
За казкі шчырыя, якія
Расказвала матуля нам.

Я шчыра ўдзячны роснай сцежцы,
Расе пякучай, як агонь,
Калі на сінім золку з хаты

Я з кошыкам спяшаў у лес.
Нібы іголкі, так калола
У пяткі золкая раса.

Табе я шчыра ўдзячны, лес мой,
Што ты, як бацька, нас карміў
Заечым сакавітым шчаўем,
Суніцамі, баравікамі,
Апенькамі на пнях старых.

Удзячны шчыра цішыні я
І цвыркуну, які ў запеччу
Іграў на скрыпачцы ўсю ноч.
Я лугавому ўдзячны сену
І каласку, што пацвярдзеў,
А я яго ірваў і смажыў —
Які цудоўны гэта хлеб!
Калодзежу я вельмі ўдзячны
І аднакласніцы, якой
Сказаў упершыню я шчыра
Яшчэ нясмелае «люблю».

* * *

Рунь гадаваць, каб жыта жаць увосень,
Вясною ніву зноўку засяваць,
На сінім золку прачынацца першым —
Жыццё інакшым не магу ўявіць.

* * *

Гэта так заведзена даўно:
Хаце трэба светлае акно,
Песні — слова,
Салаўю — дуброва,
Лісце — дрэву,
Сонца — небу,
Глебе — зярнятка,
Маці — дзіцятка.
Не лічу я гэта адкрыццём,
Называю гэта ўсё — жыццём.

* * *

Гады, якія я пражыў,
Сябры, з якімі я дружыў,
Нарэшце завіталі ў госці.
Сядзім, гаворым за сталом
І, не спяшаючыся, п'ём
Віно далёкай маладосці.

Як хмеліць галаву яно!
І расчыняю я акно
У салаўіныя дубровы:
«Ку-ку» зязюльчына ляціць,
І рэха тых гадоў гучыць,
Як наша шчырая размова.

А ёй ні краю ні канца,
Яна — нібы пракос касца,
Дзе ўсе сабраны краскі лета:

Тут — і суседнія сады,
І нашы росныя сляды,
Кахання першага сакрэты.

Як гэта ўсё даўно было!
У мора шмат вады сплыло,
І адцвіло багата вёснаў.
Мы сталі іншымі даўно
І п'ём няспешліва віно,
Віно далёкай маладосці.

* * *

Век пражыць — не поле перайсці.
*Прыказка*

Адно жыццё даецца чалавеку,
Пражыць яго — не поле перайсці.
А трэба важкі колас узрасціць,—
Так гаварылі мудрыя спрадвеку.

Жытнёвы колас — мудрасць, праўда веку.
А праўду аніяк не абысці,
Яна — аснова і ў маім жыцці,—
Адно жыццё даецца чалавеку.

Калі ж не сёння, дык — упэўнен — заўтра
Яно праверыць словы чыстай праўды
І на паверхню выкіне хлусню.
Адборным зернем поле засяваю,
Раблю дажынкі, радуюся дню,
Калі сяўбу вясной распачынаю.

* * *

Сонечны зайчык — самы няўседлівы хлопчык —
Праз акно ўбяжыць у хату і пачне казытаць.
Ну што з ім зробіш? Не закрыеш вочы рукамі,
Ён паміж пальцаў праскочыць
і ўсё роўна вочы расплюшчыць!
Злавацца?
Ды на каго злавацца і завошта?
Смяяцца?
Вось гэта самае найлепшае выйсце!
І добры настрой пасяляецца ў хаце.

* * *

Галінкі паадталі. Іх загушкаў
Вясенні вецер, цёплы, як далонь.
І дзень глядзіць вачыма добрых птушак,
Якія павярталіся дамоў.

Вярнуліся з далёкае вандроўкі,
Як я з дарогі у матулін дом,
Які стаіць пад кручаю дняпроўскай,
І тут усё мне дарага кругом:

І бусел, што над хатай закружыўся,
І агародчык (мне яго капаць),
І дым, які над комінам узвіўся,
І ганак, на якім гасцей вітаць.

Ён у маленстве быў высокі вельмі,
Цяпер дзіўлюся — вельмі нізкі стаў.
Чаму, сябры, скажыце, сам не ведаю,
Я сам, як птах той, песню заспяваў?

## ЭЦЮД

Якая цішыня перад світаннем...

У цёплых гнёздах птушкі спяць, як дзеці,
І вецер прымасціўся спаць на лісцях
І на жытах, бо, непаседа, ён
За дзень стаміўся, як малы хлапчук.

Якая цішыня перад світаннем...

Прыслухайся — і ўміг адчуеш ты
Дыханне птушак, і дыханне жыта,
І траў дыханне, а калі рукой
Ты толькі да галінкі дакранешся,
Яна расой адразу зазвініць,
Разбудзіць сонца — і першы цёплы промень,
Як добры чалавек для прывітання,
Далонь сваю працягне залатую.

Якая цішыня перад світаннем...

## ПАДАРОЖНІК

Ён, людзей надзейны спадарожнік,
Паабапал вуліцы расце,
Днём садзіцца пыл на падарожнік,
На лістках, што ззяюць у расе.

Галаву высока не ўзнімае,
А прыгледзься, і заўважыш ты,—
Ён заўжды шырокія трымае
У пражылках-нітачках лісты.

У дарогу ён цябе праводзіць,
Ён і сам пайшоў бы, калі б мог,
Ды ніяк такое не выходзіць,
І таму расце каля дарог.

* * *

Тады, вясной упершыню
Прыйшло ты да мяне, каханне,
І я адчуў тваё дыханне,
Адчуў я зноўку вышыню.

Зусім інакш гляджу на свет,
Зняло заслону як рукою
З маіх вачэй — іду з табою,
Маё каханне, след у след.

Зірні — вунь зоры над ракой,
Нібы антонаўкі, даспелі,
А мы здымаць іх не пасмелі
Тады, упершыню вясной.

Цяпер дастану іх рукой —
Жыве у сэрцы неспакой.

* * *

Сонца такое цёплае,
Ласкавае і лагоднае,
Бярозку ля хаты высокую
Малюе хлапчук алоўкамі,

Бусла-непаседу цыбатага
Ён пасадзіў на страху.
А побач — карова рагатая
Гаворыць «му-му!» пастуху.
Вельмі мастак заняты,
Не ведае ён аб тым,
Што я пазнаў сваю хату —
Сустрэўся з маленствам сваім.

## ВЫЙДЗІ РАНКАМ У САД

Яблыкі — звонкія зоры —
на тонкіх галінках гайдаюцца,
Дакраніся да яблыні —
асыплецца яблыкапад,
Залацісты, праменны, як чыстая раніца,—
Выйдзі ранкам у сад!
Глянь, палюбуйся,
ляці за юнацкімі марамі.
Хочаш яблык —
яго асцярожна здымі,
Крутабокі, даспелы,
умыты расою і хмарамі —
Толькі зірні!
Сонцам цалаваны,
абвеяны ветрам,
На галінцы вісіць ён,
гайдаецца ледзь,
Пахне мёдам лугоў
і духмяных палеткаў, як лета,
Што паспела калоссямі забранзавець.
Пад планетамі выспеў
на галінцы тоненькай-тонкай.

Ён вісіць, як планета,
іскрыцца, гарыць у расе.
На зялёнай арбіце,
як сонца, смяецца ён звонка.
На яго, крутабокага,
падобны планеты усе.

* * *

Прыглядайся пільненька
Да ласкавых, міленькіх,
Тых, што мякка сцелюць
Цёплыя пасцелі,
Гавораць лагодненька:
— Міленькі мой, родненькі,
Ах, які ты слаўненькі,
Спаць кладзіся баінькі!
І пад цёплай коўдраю
Засынаеш добра ты,
А назаўтра раніцай
Пачынаеш каяцца
І шукаць каменне
На мяккай пасцелі.

* * *

Гляджу ў крыніцу — як люстэрка, дно,
Жывы струмень з зямлі нястрымна б'ецца:
Хто вып'е — мігам сілы набярэцца,
Забудзе стому. І таму вядзерца
Мяне так зачакалася даўно.

* * *

Іду. У расе купаецца
Сонца на звонкім ранку,
І раптам — такое здараецца —
З-пад ног вылятае чаіца,
Так завуць у нас чайку.

Над галавой закружылася,
Загаласіла, трывожная.
Ах, бедная, што здарылася,
Якое гора звалілася,
Чаму ты сказаць не можаш мне?
Не прынясу табе гора я,

Не пакажу нікому
Гняздзечка тваё пад горкаю.
Няхай усміхаецца звонкае
Сонца твайму малому.
Разлуку ў жыцці пабачыў
І ведаю, што гэта значыць...

* * *

Разумею начную тугу журавоў
Перад доўгай дарогай у вырай:
Журавы, нібы людзі, самотна крычаць,
Шлях вялікі да цёплага мора
Трэба ім праляцець, свой пакінуўшы дом,
Каб вясной зноў у ім пасяліцца.
Шлях няласкавы, доўгі, і колькі сяброў
Больш вясны не сустрэне!

## РАЗМОВА СА ШПАКОМ

Чаму ты, шпак, такі журботны,
Аб чым задумаўся, скажы?
Зірні, якая пазалота,
І нават дожджык не імжыць.

І домік ёсць утульны, цёплы
І шчыльны дах над галавой,
Дзе не прасочыцца ні кроплі
І не залезе снег зімой.

Не адлятай у вырай, дружа,
Не адлятай, не адлятай,
А палюбі зімою сцюжы,
Нібы зялёны месяц май.

Без горкай крыўды і дакору
Шпак адказаў спакойна мне:
— Хачу праведаць тое мора,
Хоць і зіма не страшна, не!

Я, як і ты, такі ж вандроўнік,
І свет пабачыць я хачу,
Пакіну ненадоўга домік,
Вясною зноўку прылячу.

У сэрцы горкі сум, трывога,
Нялёгка ў дальні край ляцець.
Як чалавек, перад дарогай
Хачу хвілінку пасядзець.

* * *

Спадае з клёна ліст апошні.
Будзь асцярожны,
Падарожны,
Не наступі, не наступі.
Зірні, яшчэ ён кружыць, кружыць,
Пакуль жывы — баіцца лужын,
Баіцца лужын, як хлусні.

Ён быў на іншых не падобны,
Сонца піло раслінкі шчодра,
Дарыла ласку, цеплыню.
І стаўшы полымным, агністым,
Спадае ён, як промень чысты,
Спадае ён у цішыню.

Закон жыцця і смерці вечны.
І лёс ліста — лёс чалавечы:
Пакуль жывы — штодня гарэць.
Гарачы — у яго жаданне
Сваім цяплом, жывым дыханнем
Зямлю асеннюю сагрэць.

## ЯБЛЫНЯ

Зіма шугае,
Гурбы намятае.
Мароз за дваццаць,
Яблыня — нямая.

Азябла.
Бягуць па целе
Дрыжыкі.

Бядуе яблыня:
— Ці выжыву?
— Як выжыву?

Ах, бедная!
Стаіць, калоціцца.
Бледная,
Белая,
Зімы палонніца.

Ах, мароз,
Ах, мароз!
Не стой над кручай,
Яблыньку не марозь,
Злючы,
Калючы!
Яблыньку
Снежнай
Апрані
Футрай,
Дыхні смехам —
Стане ёй люба.

Зрабі явай
Яе сон,
Каб забуяў
У жылах сок.

Каб гаманілі галінкі
З вятрамі:
— Будзем з пладамі!
— Будзем з пладамі!

А мароз трашчыць
Люты.
Яблыня маўчыць
У пакутах.

Азябла.
Рукі граблямі —
Мароз стаіць
Каля яблыні,

Трашчыць,
Гуляе...
Яблыня —
Нямая.

## ВОДАР ЛЕТА

Часіна ліпеня перад жнівом,
І мы усе зажынкамі жывём.
Дакошаны лугі — скрыпяць вазы,
Нагружаныя сенам сакавітым,
І ў полі гнуцца долу каласы,
Васковым стала жыта.

Люблю часіну ліпеня, калі
Стаяць стагі і людзі, як чмялі,
Шумяць-звіняць, аглядваючы пожні.
Смяюцца людзі. Нібы ўсплёскі, смех,—
Густы, мядовы, ад лугоў мурожны.
Іх разумею, добры смех — не грэх.

Плыве ужо астатні з сенам воз,
Ён галавой нябёс кранецца вось:
Завершаць стог — і стома ляжа ў стог,
Цяжкая і высокая, як поўдзень.
А чалавек дадому хутка пойдзе,
Вячэраць сядзе за кляновы стол.

Хлеб у руках запахне свежым стогам.
А луг, дзе стог стаіць, пад ім аж стогне.

* * *

Спёка.
Поўдзень.
Давай, сонца,
На луг пойдзем —
Варочаць сена,
Прапахнем кменам!
Спёка. Спёка.
Ні хмурынкі.
Як аблокі,
Белыя касынкі.
Пракосы — хвалі.
Краскі сонныя.
Бяры граблі
У рукі,
Сонца!
Асцярожна з дзяўчатамі толькі —
Яны захмеляць, нібы настойка.
Так захмеляць,
Так захмеляць —
Галаву згубіш.
Дзе ж ты, смеласць?
Дзе адвага,
Дзе рашучасць?
Не існавала
Яна, мусіць?
Смех і жарты,
Сонца ў вачах.
Ну і дзяўчаты!
Сена пах!
З гарлача
Сцюдзёнай абальюць вадой:
— Будзь і ў спёку, любы,
Са мной!

* * *

У садах — крамяныя ранеты
У іскрыстых кропельках расы,
Ячмяню, нібыта дзеду, лета
Падпаліла рыжыя вусы.

* * *

Ён — невядомы ручаёк
У цішы лазняка,
Але бярэ з яго выток
Імклівая рака.

* * *

Нетаропка выйшаўшы з балота,
Вечар, закасаўшы рукавы,
Туманы — бялюткія палотны,
Ціха разаслаў на паплавы.

* * *

Навошта аб шчасці марыць?
Хіба я гэтым жыву?
Я выпадковае шчасце
Шчасцем не назаву.

Калі яго нават сустрэну
І скажа мне так яно:
— Трымаю цябе на прыкмеце,
Хаджу за табой даўно.

Чаму мяне абыходзіш,
Няўжо не заўважыў ты
Ні ласкі маёй дзявочай,
Ні шчырай маёй дабраты?

Ні прамяністай усмешкі,
Якую табе дару?
Чаму, адкажы, не хочаш
Са мной сустракаць зару?

І я адкажу спакойна:
— Пакуль на свеце жыву,
Я выпадковае шчасце
Шчасцем не назаву.

## ВЯРТАЛІСЯ З ВЫРАЮ ГУСІ

Край лепшы не знойдзецца, мусіць,
За бераг сівога Дняпра.
Вярталіся з выраю гусі,
І іх цалавала зара.

Звінелі вясёлыя гуслі
Над магілёўскай зямлёй.
Вярталіся з выраю гусі
Шчасліваю дружнай сям'ёй.

І ў небе пявучыя гукі
Цяплелі, вясніліся днём —
Вярталіся з выраю гусі
Да родных дняпроўскіх стром.

Я гэта засведчыць бяруся —
Выходзіў іх сам сустракаць,—
Вярнуліся з выраю гусі,
Каб сонечны май прывітаць.

* * *

Восень прайшла узлессем,—
Колькі гарыць кастроў!
Ля кожнага — хочаш грэйся,
А хочаш — нясі дамоў.

Так зырка яны палаюць
На вяршалінах дрэў,
Што птушкі лес пакідаюць,
Хоць холад не падаспеў.

І ціпыня такая,
Што чуецца навакол,
Як ліст гарачы спадае
Недзе далёка на дол.

Верас гарыць на пагорках.
Грыбны, як у хаце, пах.
Смажаць грыбы ваверкі
На залатых кастрах.

## ТРЫЯЛЕТ

Прыйдзі ў мой верш. Нібы заранка,
Спадзі на ціхую зямлю,
Каб салаўямі пелі ранкі —
Прыйдзі ў мой верш, нібы заранка.
Цябе сустрэну я на ганку
І дзверы насцеж расчыню.
Прыйдзі ў мой верш. Нібы заранка,
Спадзі на ціхую зямлю.

* * *

*Лідзе*

Распукнуліся раніцай вербы.
Лапкі мяккія, як у коцікаў,
Сонечныя-сонечныя,
Цёпленькія-цёпленькія.
Дакраніся імі да твару,
Яны цябе абагрэюць.
Не верыш?

А ты мне не верыш...
Шкада як!
Ну, дакраніся рукою,
Павее цёплай вясною —
Зіму не вернеш.

Не вернеш зіму, не вернеш...
Не будуць кружыць завеі,
Сэрца мне трывожыць,
Хадзем, калі ласка, да вербаў —
Я зраблю свісток вярбовы,

Я зраблю свісток вясновы —
Звонкі, як верш мой.
Гукну — адгукнецца
Рэха за Дняпром.
У чыстую крыніцу
Лебедзь б'е крылом.

Табе прысвячаю вершы,
А ты мне не верыш, не верыш.
Зірні, распукнуліся вербы.
Коцікі белыя грэюцца,
Вясна ў свісткі грае,
А ты мне не верыш...

* * *

Нясу кахання я вялікі дар,
О, як бы не згубіць яго ў дарозе!
І кожны дзень, пражыты у трывозе,
Кладзе адбітак, нібы цень, на твар.

Не хочацца на небе бачыць хмар,
І падаць не хачу ў траву ў знямозе.
Пакуль зара не гасне на бярозе,
Гары ў душы, каханне, як пажар!

Я ведаю, што сонца зоркі тушыць,
Я ведаю, што спёка ніву сушыць,
Страсае вецер буйпую расу.

Ты — зорка прамяністая. Ты — лівень,
Які не даў засохнуць спелай ніве,—
Вялікі дар кахання я нясу.

* * *

Твой ціхі сон, як раніцу, люблю.
Калі па ўсходзе неба чырванее,
Прымі маё лірычнае маленне —
Твой ціхі сон, як раніцу, люблю.

Спадае першы промень на зямлю,
Яго лаўлю, нібы хлапчук маленькі.
Прымі маё лірычнае маленне —
Спадае першы промень на зямлю.

Спі соладка. Не знай трывогі ты,
Хай будзе сон твой для цябе здзіўленне!
Прымі маё лірычнае маленне —
Спі соладка. Не знай трывогі ты!

* * *

Бяры адпачынак у ліпені —
І ў вёску маю, калі ласка!
Не ўвесь яшчэ пчолы выпілі
Мёд раніцой на красках,
Бяры адпачынак у ліпені
І прыязджай у казку.

А казка ў жыты густыя
Пойдзе сцяжынкай росная,
Пакажа, як залатыя
Зярняты калоссе росціць,
Зярняткі — дзеткі малыя —
Піць у матулі просяць.

А потым выведзе казка
Цябе на ўскраіну лесу,
Прыйдзе вавёрка і скажа:
— Чакай, у дупло я залезу,
Там у мяне запасы —
Арэхі. Люблю іх вельмі.

Багата цудаў цікавых
Убачыць табе давядзецца:
Звілі сабе ў росных купавах
Птушкі жыллё-гняздзечкі.
Ад ранку не спяць немаўляты —
Радасць у іх якая! —
У дзюбах маленькіх — глянь ты! —
Зара залатая палае.
Прашу цябе: калі ласка,
Наведай у ліпені казку!

* * *

Ах, які ты шчодры
На дарункі, ліпень,
Захмяліў нас мёдам,
Запрасіў пад ліпу.

І пайшоў узгоркам,
Дзе з туманам зліўся,
Нам вясёлкі-зоркі
Запаліў на лісцях.

Пахлі мёдам зоркі,
Што на нас глядзелі,
Як яны свяцілі,
Як яны гарэлі!

Ясна — нібы вочы,
Горача — як шчокі,
Ты мне стала блізкай,
А была — далёкай.

Стала дарагою
Ты на ўсё жыццё мне,
Абвілі мне шыю
Твае косы-промні
І шапталі губы:
«Дарагі мой, любы...»

Ах, які ты шчыры
На дарункі, ліпень!
Захмяліў нас мёдам,
Запрасіў пад ліпу.

Ліповая
Слодыч,
Ліпнёвая
Поўнач!

## ЖНІЎНЫ ЛІВЕНЬ

Не праехаў
Бокам
З паўпюткаю
Бочкай.
Хлынуў спорны,
Нібы з вядра
Ці то спрасонку —
Не відаць двара,

Ні бяроз ценяў,
Кругом цемень.
Як па таку цапамі
Малоціць працаўнік.
Імгненнай маланкай
Лівень znік.
Сухіх, як порах,
Напаіў перапёлак,
Абмыты месік
Глядзіць молада,
Каласам павесіў
Каралі модныя.
Радуецца жнівень:
— Ну і шчодры лівень!

* * *

Вада — чыстае люстра, якое
Уранку залоціць зара.
А сонца, развеяўшы густы туман,
Выцірае яго паверхню
Ручніком-промнем
І глядзіцца само.
Калі на глыбокае дно
Упадзе зорка,
Люстра не разаб'ецца,
А зазвініць пявучай струной...
А можа, гэта
Лёгкая чайка
Дакранулася сваім белым крылом,
Як смычком, да вады,
І ў чыстыя хвалі
Заглядзелася раніца.

* * *

Звініць пад горкай ручаёк,
Свой голас падае здалёк —
Не спіць ён, будзіць цішыню,—
Люблю яго за чысціню.

* * *

Ты толькі ў лес нагой ступі —
Пах чабаровы пі ды ці.

Ён так захмеліць галаву,
Што ніцма звалішся ў траву.

Звініць паветра, як струна,
Над галавой маўчыць сасна.

Часцей прыходзь у гэты бор
І не бяры з сабой тапор,
А пі чабор.

## НАПРАДВЕСНІ

Белыя коні
Махнулі белымі грывамі,
Праскакалі па полю,
З'ехалі з горак
На коўзанках-санках,
Уцяклі ў лес
І зніклі.

Хлапчукі іх клічуць:
— Косю! Косю!
Мы хочам яшчэ паездзіць!..
А коней і след прастыў,
Толькі засталіся
Ад капытоў сляды,
Маленькія круглыя поўні.
Вось тут беглі белыя коні,
Іх не дагнаць, яны самі
Выбегуць з лесу, а пакуль
Няхай там гарэзяцца на свабодзе!

* * *

Якое гэта харàство — лясы!
Птушыныя не моўкнуць галасы
Ад сінягà золку,
Як сонца патушыць апошнюю зорку.

Якое гэта харàство — лясы!
Зялёныя, зямныя паясы,
Бясконцыя, бязмежныя,
Да самай Белавежы!

Якое гэта харàство — лясы!
Я ганаруся, што я лесу сын,
Бор спяваў мне калыханку
На світанку.

* * *

Толькі рукой дакрануўся
Да яблыньkі маладой,
Галінкі — зялёныя гуслі —
Уміг загулі над зямлёй.

І сэрца маё заспявала
На ўсе свае струны-лады:
У белай хусцінцы стаяла,
Як белая яблынька, ты.

* * *

Бярэзнікам акопы зараслі.
І мы даўно пакінулі зямлянкі,
Але мяне трывожыць боль зямлі:
Яшчэ не ўсе мы міны ў ёй знайшлі,
Яшчэ гараць трывожныя заранкі.

## КУРГАНЫ

Прайдзі мой край — усюды курганы,
Нямыя сведкі вечнасці яны.

Адным — стагоддзі, а другім — гады,
Схавалі чалавечыя сляды.

Ні ліўні, ні дажджы не змылі іх,
Стаяць яны, як памяць аб жывых.

Тут прашчуры далёкія ляжаць,
Што ўмелі за свабоду пастаяць.

Я пакланіцца ім прыйшоў здаля,
Дык будзь ім пухам, добрая зямля!

Маўчаць зацішкі росныя палян.
Бясконца дораг кожны мне курган.

Адным — стагоддзі, а другім — гады,
Іх насыпалі прадзеды, дзяды.

Калі гудзелі помстаю бары,
Іх насыпалі сёстры і браты.

Маўчаць зацішкі росныя палян,
Як помнік славы, высіцца курган,

І зорка пяцікутная гарыць...
Зямля мая, ты будзеш вечна жыць!

* * *

Зямля і чысціня блакіту
Зліваюцца за лесам дзесь,
А па сасну высока ўзлезь —
За даляглядам бачыш жыта.

Шуміць, хвалюецца яно.
Трымціць, нібы струна, паветра,
Ласкавы прыплывае ветрык
Над маладою збажыной.

Не парываючы ніколі
Надзейнай сувязі з зямлёй,
Пяшчотна, як матуля, поле
Ён гладзіць цёплаю рукой.

Мне без зямлі не абысціся,
Якую я люблю даўно.
У ёй зліліся
У адно
Пот хлебароба, кроў салдата,
Каб прарасталі па вясне
Жыцця адборныя зярняты,
Што дарагі,
Як песня,
Мне.

З кнігі

# «БУСЛІНЫ ЧОВЕН»

(1975)

* * *

Кожны з нас прышасае Радзімы куток,
Каб да старасці чэрпаць адтуль успаміны.

*Пімен Панчанка*

Ёсць у кожнага з нас незабыўны маленства куток,
Як у птушак, дзе вывелі дзетак, гняздоўе.
Борам стаў стогалосы за вёскай
маленькі лясок —
Для мяне ён адзіны на свеце ў маім Прыдняпроўі.
Дзе б ні быў я далёка, куды б мяне лёс ні занёс,
Хату матчыну помню — заўсёды стаіць прад вачыма.
Чую клёкат бусліны, пад акном —
ціхі шэпат бяроз,
Ты такой прада мной паўстаеш, дарагая Радзіма.
Нізкім стаў мне даўно, што здаваўся высокім,
парог,
Ды і хата, як маці мая, за гады пастарэла.
На кляновым стале, на бялюткім абрусе, пірог,
Нібы сонца ляжыць,— ад яго на зямлі пасвятлела.
Сонца ў лісцях бяроз, на мурожнай у росах траве,
Жаўруковаю песняй злятае на колас жытнёвы,
А ў матуліным сэрцы найвялікшае сонца жыве,
Найвялікшае сонца — мая беларуская мова.
Слова маці! Цябе перадам я сынам.
Ты — мой скарб дарагі, найсвятлейшая спадчына.

За цябе, калі трэба, жыццё я аддам,
Толькі песня не моўкнула б матчына.
А пакуль я жыву, незабыўны маленства куток
Мяне вабіць туды, ён заўсёды стаіць прад вачыма...
Борам стаў стогалосы за вёскай маленькі лясок.
Ён у кожнага свой, ды адна для усіх нас —
Радзіма.

## СЕРП

Ты быў жняі патрэбен, серп,
Як на стале надзённы хлеб.
Хто тая ўвішная жняя?
Матуля родная мая!
Шумела жыта — важкі колас! —
А маці перавясла-пояс
Рабіла самым першым чынам
І спавівала, нібы сына,
Той першы сноп, які пасля
На покуць ставіла жняя.
Яна тугімі перавясламі
Снапы заўсёды перавязвала.
Яны на постаці ляжалі
І, як малыя дзеці, спалі.
Снапы мы зносілі ў бабкі
І бабкам надзявалі шапкі.
Ты быў жняі патрэбен, серп,
Як на стале надзённы хлеб.
Як маладзік, назублены,
Ты і цяпер не згублены:
У гербе побач з молатам
Красуешся ты молада.

## БАЛАДА АБ ЗАПІСЦЫ

Перад адыходам у Смольны за некалькі гадзін да пачатку ўзброенага паўстання У. І. Ленін пакінуў гаспадыні сваёй апошняй падпольнай кватэры запіску: «Ушел туда, куда вы не хотели, чтобы я уходил. До свидания. Ильич».

Яшчэ ў запасе некалькі гадзін.
Прайшоўся па пакоі. Ён — адзін.

Густая цемень у акно глядзіць,
Чарней за сажу над Нявой вісіць.

Калючы вецер — вострыя штыкі.
Снуюць, як цені, зброднікі-шпікі.

Гараць ўначы трывожныя кастры.
Такі твой дзень апошні, свет стары!

Яшчэ ў запасе некалькі гадзін.
І ходзіць па пакоі. Ён — адзін.

Яму кватэру трэба пакідаць —
Не будзе сёння тут ён начаваць.

А гаспадыня доўга не ідзе.
Ён думае: «А дзе яна? Ну, дзе?»

Чакаць не будзе доўга ён яе —
Пакіне лепш запіску на стале.

Яшчэ ў запасе некалькі гадзін.
І ходзіць па пакоі. Ён — адзін.

Прысеў за стол. Паперы ліст узяў
І коратка запіску напісаў:

«Пайшоў туды...» Хай ведае яна,
Куды дарога у яго адна.

. . . . . . . . . . . . . . .

У цемені мільгаюць ліхтары.
Дождж. Вецер. І — трывожныя кастры.

І ён ідзе на водбліскі кастроў,
Да мужных рэвалюцыі байцоў.

Яшчэ ў запасе некалькі гадзін.
Дакладна час ён ведае. Адзін.

Каля кастроў праходзіць ён спакойны
І прад'яўляе пропуск свой у Смольны.

. . . . . . . . . . . . . . .

Праходзяць дні. І месяцы. Гады.
Парадак у кватэры, як тады.

Падмецена падлога. Ложак.
Падпраўлена падушка асцярожна.

Вось-вось і кватарант павінен быць,
Ён, стомлены, прыляжа адпачыць.

Магчыма, затрымаўся ён?
Але
Ляжыць яго запіска на стале.

## СТАРАЯ ХРОНІКА

Хвалюеш ты, старая хроніка!..
Не, не нямыя кінастужкі:
Як бліскавіцы, шаблі коннікаў,
Галопам лава на белых рушыць.

Ты — музыка, старая хроніка!..
І, музыку не забываючы,
Не, не хрыпяць басы гармонікаў,
А з-пад абцасаў рвецца «Яблычка».

Гісторыя — старая хроніка!..
Глядзі, запомні:
                                    ў заўтра ідучы,
Ўзнімае Ленін на суботніку
Не бервяно —
                                    Расію на плячы.

Не трэба старой хронікі гучання!
Не трэба тлумачэнняў,
                                    лішніх слоў!
Угледзьцеся ў стужкі —
                                    тут маўчанне
Мацней за словы
                                    ў тысячы разоў.

## ШЧОДРАСЦЬ

Я з другам і сухар апошні падзялю.
Не называйце (толькі!) мяне шчодрым.
Не называйце (просьба!) толькі добрым,
Бо ёсць шчадрэйшыя і за мяне.
Напрыклад, сонца.

Як справядліва яно промні дорыць
Травінцы кожнай і зярнятку ў глебе,
Расінцы на лістку і чалавеку,
Сасне ў бары і жаваранку ў небе.

Вы назіралі, як яно заходзіць,
Стаміўшыся, працуючы штодзень?
Гарачае (за дзень нат не прысела
За стол, як людзі, у поўдзень гарачы),
Яно хутчэй спяшае асвяжыцца
Вадой сцюдзёнай, каб уночы спаць
І скінуць стому — раніца разбудзіць.
А ці сказаў хто сонцу: «Добрай ночы!
Ты слаўна працавала. Лепш, чым я».
Відаць, не ўсе мы дабрадзеі сонцу,
Калі аб слове простым забываем:
«Спакойнай ночы, сонейка, табе!»

Чаму ад нас дакоры сонца чуе:
«Увосень свеціць, а цяпло не тое,
Зімою свеціць, а зусім не грэе».
Падумайце —
Ці так яно на справе?
Увосень свеціць сонца так агніста,
Гарыць яно чырвонцамі на дрэвах,
Так выпеклася лісце, нібы хлеб
У печы нашай на гарачым подзе,
Будзь асцярожны — рукі апячэш!
А мы гаворым, што яно не грэе.
Зірніце: колькі сонцаў пад нагамі
І колькі сонцаў саграваe дрэва!
І гэта — сонца шчодрае адно.

А хіба нас зімой яно не грэе?
Яно жыве ў сценах кожнай хаты,
Яно у кожным бервяне жыве.
І як бы мы сасну ні пілавалі,
Яно у стружцы, нават у шалёўцы,
Яно і ў печы не згарыць ніяк.
Калі б не сонца, быў бы вечны снег
І холад. Цемень вечная была б.

Жыве ж яно у сэрцы чалавека,
Жыве яно ў малюсенькай расінцы,
У песні жаваранка, у зярнятку,
Што коласам становіцца тугім.
Жыве яно у кожным пацалунку.
Калі сухар дзялю апошні з другам,
Не шчодры я.
Шчадрэйшае яно.
Без сонца
Я не меў бы той сухар.

* * *

Вучуся ў сейбітаў,
Што ўмеюць,
Не павучаючы,
Сказаць:
Спачатку трэба
Ў тэрмін сеяць,
Пасля —
Да зерня ўсё сабраць.

## ПАДПАСАК

Прасіла маці барадатага
У поўнай сіле мужыка:
— Вазьмі, Янук, у памагатыя
Майго старэйшага сынка.
Ён быстранькі, няхай пабегае
І папасе чужых кароў,

Сваёй няма — ты добра ведаеш,—
А ён, глядзі, і пугу сплёў.
З тваёй навукай, веру, справіцца,
Ніводна ранне не праспіць —
І будзе дзень заняты справаю.
— Скажы цяпер: а як плаціць?
Са мной нароўні — мне нявыгадна,
І ты заплачаш:
«Абакраў!
Няхай бы лепш сынок на выгане
З хлапцамі у лапту гуляў».
— Павер, Янук, не буду скардзіцца.
— З такой умовай згодны я.
І, бараду сваю пагладзіўшы,
Дадаў:
— У кожнага сям'я.
Хлеб з неба так сабе не падае.
І да мяне:
— Што ж, прыступай.
Вунь тую рыжую рагатую
Ад шкоды адгані.
Давай!
Так быў падпаскам я залічаны
У штат, які складаўся з двух:
Адзін — здаровы і набычаны,
Другі — зусім яшчэ хлапчук:
Белагаловы і нявопытны,
На пабягушках дзень за днём.
Адзін зусім не ведаў клопатаў,
Любіў цянёчак пад кустом.
Другі чакаў зімы халоднае,
Калі закончыцца сезон,
Каб зноў адчуць жыццё свабоднае —
Быў не пастух,
Падпасак ён.

* * *

«Барадаты,
рагаты,
Страшны,
чорны,
Гарбаты,
Ходзіць з кіем,
кульгае,
Сам сляды замятае».
...Помню, як у маленстве
Мяне чортам палохалі:
— Не хадзі да балота —
Чорт зацягне у логава
І пры месяцы высмакчэ
Ён кроў, апоўначы
Век з балота не выбрацца,
Не вярнуцца дамоў.
Ах, балота, балота...
Гэта страшна, сябры,
Калі трапіць да чорта,
Дык не ўбачыць зары.
І не ўбачыў бы, пэўна,
Я праменны усход:
Разбудзілі не пеўні —
Разбудзіў кулямёт.
— Уцякай, мой сыночак,
Уцякай, уцякай!..
Як крывёю наліты,
Чырванеў небакрай.
Пахла дымам і чадам...
Горкі лёс, чорны лёс...
Баразною праз бульбу
Да балота я поўз.
А пасля за балотам
Усю ноч

Навылёт
Я прабыў.
І не выйшаў,
Каб схапіць мяне, чорт.
Той, хто смерці
У вочы
Аднойчы
Глядзеў,
У маленстве сірочым
Сваю сталасць сустрэў.
Той заўсёды нам скажа:
— У бядзе не здавацца!
Не чарцей трэба,
Нелюдзяў
Трэба баяцца.

## ЖАЛЕЙКА

Жалейка-весялуха,
Пявучая зара,
Даўно цябе не слухаў,
Даўно я не іграў.
Маленства кліча:
— Жэнька,
Харошы даўні друг,
А дзе ж твая жалейка?
Гані кароў на луг...
Хлапчук белагаловы
Ніколі не тужыў,
З жалейкай адмысловай
І песнямі дружыў.
Далёкія заранкі...
Мінула шмат гадоў...

Любімай берасцянкі
Я дома не знайшоў.
— Давай на золку, Жэнька,
Пагонім зноў кароў,
І зробім зноў жалейку,
І заіграем зноў!

* * *

Па зямлі ісці не проста,
Па зямлі ісці не лёгка,
Калі ты ідзеш адзін,
Лічыш крокі, мерыш вёрсты,
Азіраешся назад.
Ты прайшоў ужо нямала
І стаміўся у дарозе —
Адпачыць бы ў самы час:
Сесці ў цянёк пад ліпай
І прагнаць з дарогі смагу,
Скінуць стому — і прыпасці
Да крыніцы — піць ваду.
Але вось ты азірнуўся.
Паглядзеў, а за табой
Не праходзіць больш ніхто.
Значыць, след ты не пакінуў
У дарозе за сабой,
Проста ты ішоў дарэмна
І без мэты па зямлі.

* * *

Не паспею азірнуцца я
На кусты знаёмыя арэшніка,
Нібы быстраногага каня,
Падганяе хтось мяне, прыспешвае.

Выйду з хаты раннем. Цішыня.
Цэдзіцца густы туман над рэчкаю —
На пачатку маладога дня
Падганяе хтось мяне, прыспешвае.

Поўдзень. Не пачуеш бас чмяля,
Што гудзеў, стаміўшыся, над грэчкаю,
І ўсё ж мне чуецца здаля —
Падганяе хтось мяне, прыспешвае.

І калі апоўначы мая
З неба зорка ўсміхнецца лепшая,
Усё роўна адчуваю я —
Падганяе хтось мяне, прыспешвае.

І яшчэ здараецца парой —
Бліскавіца далячынь прасвечвае.
Неадлучна хтось ідзе за мной,
Падганяе і заўжды прыспешвае.

## ЖЫТА

Я бачыў жнівеньскае жыта,
Якое да зямлі прыбіта
Было якраз перад жнівом:
Ляжалі градзіны-асколкі

І галасілі перапёлкі:
«Што нам рабіць? Мы ледзь жывём».
Яны прасілі дапамогі,
І я іх разумеў трывогу,
І сам я у трывозе быў:
Узняцца жыту будзе цяжка.
Наліты зернем колас важкі
Град смертаносны не аббіў:
Не зацвярдзелі шчэ зярняты,
І каласы, нібы салдаты,
Былі паранены, але
Не выдавалі свайго болю,
Не згінулі на полі бою —
Жывое ў вечнасці жыве!
Свяцілі над зямлёй вясёлкі,
Знікалі градзіны-асколкі,
І спрабавала жыта ўстаць.
А гэта ўжо такая мужнасць,
Якую смерці не адужаць,
А значыць, жыць, не паміраць!
Як нараджэнне, дзень адметны:
Устала жыта непрыкметна,
Багаты будзе умалот.
І я кажу усім уголас:
— Не асыпаецца мой колас,
Ён уваскрэс і ў гэты год.
І я кажу, каб людзі чулі,
Што ў коласе зярняты — кулі.
Адлітыя маёй рукой,
Ачышчаныя ад паловы,
Яны, нібы жывыя словы,
Гатовы самі весці бой.

## ВЕРА

Я веру не губляў у чалавека,
Сябе заўсёды людзям аддаваў.
Я птушкам давяраў, лясам і рэкам,
Я з імі па-сяброўску размаўляў.

Пад ясным сонцам і адкрытым небам,
У клопатах, у працы, барацьбе
Нясу я веру, як акраец хлеба,
Каб людзям верыць —
перш правер сябе.

## ПАМЯЦІ АНАТОЛЯ СЕРБАНТОВІЧА

Чаму ты, Толя, не пазвоніш,
Хіба ты тэлефон не помніш,
Хіба дарогу ты забыў?
Пішу табе я ліст адкрыты,
Хай ведаюць усе, які ты
Зямляк, якога я любіў.

Ды і цяпер любоў не згасла,
Вярнуўся толькі я з калгаса,
Дзе госцем ты жаданым быў.
З табой чакаюць зноў сустрэчы,
Якую ты адклаў, дарэчы,
А ты ж адкладваць не любіў.

Скажы, зямляк і друг мой Толя,
Ну што здарылася з табою,
Куды падзеўся ты, скажы?

Давай махнём у вёску Ордаць,
Там нам цудоўны вечар зробяць
І рады будуць ад душы.

А раніцой па полю мірным,
Пасля вайны што звалі мінным,
Будзем хадзіць, а з баразны
Уміг з-пад ног жаўрук вясёлы
Ўзаўецца ў небе пад вясёлку
І будзе славіць дні вясны.

Ты многім на яго падобны,
Ласкавы, шчыры і лагодны,
І песня светлая твая
Нібы саткана з чыстых росаў,
З мядовых красак сенакосаў
І гаманкога ручая.

Яна ўзляцела ў высі рана
І адбалела, нібы рана...
І мне не верыцца ніяк...
Як атрымалася такое?
Смерць дактары не лечаць, Толя!
І ўсё ж не верыцца ніяк...

## ВЯРБОВЫЯ СВІСТКІ

Як толькі на двары
Канчаліся лютыя маразы,
У хаце пачыналі
Адтайваць вокны,
Адразу цёплымі слязамі

Плакалі ледзяшы —
У вербаў пальцы цяплелі,
На іх садзіліся пагрэцца
Маленькія пуховыя коцікі.
А мы, хлапчукі,
Беглі па калючым снезе,
Зразалі галінкі,
Пад паветкай рабілі свісткі...

Рэха вярбовых свісткоў
Адклікаецца праз гады.

* * *

Зацерусіў вясенні дождж,
І мокрымі галінкамі бэз
Ціха стукае ў акно:
Хоча пасядзець у маім пакоі,
Пагутарыць шчыра са мной.
Гэтак шчыра, як самы блізкі чалавек
Са мною заўжды размаўляе.

* * *

На бярозе — птушыная хата —
буслоўка,
Перапоўненая навасельцамі,
Якія ўдумалі
Гняздо сваё тут зрабіць.
Ноччу вясновай не спяць буслы,

Гамоняць шпакі з вераб'ямі,
Як на бяседзе госці.
Буслоўка да ранку не спіць —
Наваселле вясной адзначае.
І на сэрцы так хораша мне —
Насцеж вокны да самага ранку!
На бярозе — шчаслівая ноч,
На бярозе — птушыная хата —
буслоўка.

## ЛІПЕНЬСКІ ЭЦЮД

Дзе ліўні босымі нагамі
Па лузе скошаным прайшлі,
Стагі высокімі дамамі
Паўсталі цвёрда на зямлі.

* * *

Тонелька, як ранішні прамень,
Празвінела нечакана звень.
Звень! Звень! Звень!
Асколкі, як са шкла.
А можа, на лузе, вітаючы новы дзень,
Празвінела пчала?
Не! Гэта
Дожджык настроіў струны лета.

* * *

Вы ведаеце,
Што такое кропля?
Маленькая,
Расяная,
Кропля — не проста расінка
На траве і на лісцях.
Кропля — гэта сонца
І сонца, якое выпіла сонца.
І калі усе яны разам збяруцца
І ападуць на засмяглую зямлю дажджом,
Як памаладзее прырода!
І забурліць жыццё!
Усходы ўзнімуць жоўтыя галоўкі,
Якія ледзь не згарэлі,
І з новаю сілаю пойдуць у рост.
Кропля і сонца — жыцця абнаўленне.

## ПОЎДЗЕНЬ ЛЕТА

Лета стала ў стагі дазорцам,
Высушыла краскі,
Якія яшчэ пахнуць мёдам,
Клічуць пчол.
Сонца выспеліла колас, які
Ад загару стаў бронзавы,
Нахіліў галаву цяжкую нізка долу —
Аддае паклон зямлі.
Жаўтаротыя птушаняты спрабуюць
не крылы, а голас.
Поўдзень лета!
Ён такі малады і сталы
І для чалавека.

* * *

Якое вялікае сонца!
Адразу паўшара зямнога яно асвятляе,
Паўшара зямнога яно сагравае,
Праз хмары прабіўшыся, дзень нараджае.

Якое маленькае сонца!
Яно — у маіх вачах,
Яно — у маіх руках,
І, як дзіця, стаміўшыся,
Прысела на каласок жыта,
І каласок яго трымае.

* * *

Няспынна з бункера ў кузаў
Льецца залатая лава пшаніцы.
Зірніце — якія горы
Выраслі на таку!
Сонца сушыць зярняты
Ці, наадварот,
Сонца сушыцца на зярнятах,
А ў цэлым —
Залатая гара пшаніцы
Стаіць пірамідай жыцця.

## ЗАСУШЛІВЫ ЖНІВЕНЬ

Пякло нясцерпна,
Не спёка — пекла,
Поўдзень высокі
Плавіць аблокі,
Як воск, —
Ну і спёка!

Зямля смягне,
Ліўняў прагне,
Сажалкі сохнуць,
Лісты жоўкнуць:
Дакранешся ледзьве,
Звіняць меддзю,—
Ну і спёка!

Сумуе вавёрка:
— Зімой будзе горка
Перапёлка ў жыце
Без грыбоў.
Кліча:
          — Жніце, жніце,
Не будзе дажджоў,—
Ну і спёка!
Трымаў моцна
Жнівень паўнамоцтвы
Столькі дзён.

Ды аднойчы
                    ўночы
Расплюшчыў вочы,
Здзівіўся ён:
Чорная хмара
Неба закрыла.

Стукнула,
Грукнула,
Паліліся слёзы
На зямлю з нябёсаў,
З громам упалі,
Зямлю цалавалі:
— Бачце, долы,
                    вось мы
Вярнуліся зноў.
...Непрыкметна ў восень
Жнівень адышоў.

* * *

Кранула атаву першая шэрань,
Сіпата спрабуе голас свой певень,
Не певень, а пеўнік, той самы, якога
На ўлік гаспадыня паставіла строгі —
Восенню лічаць заўжды куранят.

Восень прыкметы свае не хавае:
Пазней узыходзіць зара маладая,
Упаў пажаўцелы ліст на дарогу
Звонка, як медны пятак па падлогу,—
Не за гарамі — чакай — лістапад.

Ціхі і чысты лес, як святліца,
Не заблудзіцца — наскрозь ён свіціцца,
Нібы прасвечаны зранку рэнтгенам.
На кожнае дрэва развесіў антэны:
У цішыні, асцярожнай і гулкай,
Чуйна ён ловіць крокі і гукі;
А гукаў ўсё менеи у царстве лясным.

Усюды рабіны стаяць, як жароўні,
Трымаючы чырвань-вуголле ў далонях:
Кастры распалілі да халадоў,
І грэюцца зоры ўначы ля кастроў,
Што зырка палаюць агнём залатым.
Перад багаццем, восень, тваім
Мы,
людзі,
заўсёды ў здзіўленні стаім.

* * *

Паўнаводдзе лістапада —
Асенні разліў.
Лес затапляе чырвоная вада лісцяў,
Птушкі, спалохаўшыся патопу,
Пакінулі гнёзды
І панеслі свой сумны крык
У вырай далёкі.
Ім было цяжка
Пакідаць свой абжыты за лета дом,
У якім
Яны вывелі дзетак,
Якія праспявалі толькі
Сваю першую песню.
...А яе можна лёгка згубіць
У вялікай дарозе.

## АСЕННЯЯ КАЗКА

Лісты, што скінуў лістапад,
Сваю агністасць не згубілі,
А ўсё вакол пазалацілі:
Падобныя на птушанят,
Яны не ўмеючы ляцяць,
Забыўшыся пра асцярогі,
Садзяцца проста на дарогі,
На плечы, галаву, пад ногі —
Ці ж іх за гэта дакараць?..
Лісты — даверлівыя птушкі,
Бездапаможныя зусім,
Іх толькі лістапад загушкаў,
А палятаць ахвота ім.
І вось яны
Ляцяць,
Ляцяць,
Завеяй залатою кружаць.
А зайцы-дзівакі сядзяць
На агародах. І не тужаць.
Адкуль іх столькі, белых зайцаў,
Непалахлівых і ручных,
Прыйшло сюды з мясцін лясных?
Сядзяць — нікога не баяцца,
Хоць ты бяры за вушы іх.
Што гэта? Свята або веча?
Мо выпадковая сустрэча?
Ды не!
Ні тое, ні другое,
Малюнак восеньскі прыроды:
На дрэвах — лісце залатое,
Капусты бель — на агародах.

* * *

Адзінота цяжкая і тужлівая,
Як уночы крык жураvоў,
што адлятаюць у вырай.
Хата здаецца пустой,
У такія хвіліны
Месца сабе не знаходжу.
Хочацца, дужа хочацца
З кім-небудзь пагутарыць.
І толькі адзін будзільнік,
Здаецца, пагаджаецца са мной.
— Цік-так. Цік-так.
А за акном
Жоўтую,
як на клёне лісты,
мелодыю верасня
Вецер на клавішах лесу іграе.

* * *

Не сумуй, шпакоўня!
Ненадоўга
Цябе гаспадар пакінуў
І на цёплы поўдзень паляцеў.

З клёна ліст,
Самотны і азяблы,
Закружыўся, потым асцярожна,
Нібы шпак перад дарогай дальняй,
На шпакоўню
Адпачыць прысеў.

## АБНАЎЛЕННЕ

Люблю ў прыродзе абнаўленне.
Пасля зімы яно — здзіўленне:
Галінкі, што былі сухімі
І аднастайнымі такімі
На дрэвах,
Ранкам нечакана
Зазелянелі без падману —
Забушаваў у жылах сок.
Гары, зялёны аганёк,
Бяжы, імклівы ручаёк,
Расціце, дружныя усходы,
Цягніцеся да вышыні!
На фоне маладой прыроды
Стаяць маўкліва толькі пні.

## ПЕСНЯ АБ БРЭСЦЕ

Ты дораг нам да сонечнай расінкі,
Люблю тваю бязвоблачную сінь.
Над Бугам горад — як салдат Расіі
І Беларусі роднай мужны сын.

Калі мой край ахоплен быў пажарам,
Калі кружылі ў небе груганы —
Чужынцаў тут сустрэлі грозна ўдарам
Радзімы любай верныя сыны.

— Да кулі біцца, да апошняй кулі!
Прашыты сцены крэпасці свінцом.
— Мы не здадзімся! — сэрцы прысягнулі.—
Пад смертаносным выстаім агнём.

Ніхто з байцоў прысягу не парушыў,
Кіпеў над Бугам дні і ночы бой.
Каб расцвіталі ў мірным Брэсце ружы,
Салдат Радзіму засланіў сабой.

* * *

Не ведаю, хто разбудзіў мяне...
Сонца сядзіць на высокай сасне,
Бусел клякоча на буслоўцы,
Цёплым дожджыкам звініць сырадой у
даёнцы.

Няўжо гэта горн разбудзіў мяне?..

## МАЙ-РАЗМАЙ

Мой харошы, мой цудоўны май-размай,
Расшумеўся, разгуляўся зелен-гай!
Расшумеўся — абудзіўся на зары:
Шапкі зімнія паскідвалі бары.
Няхай шапка на дол падае-ляціць,
Весялосць — ніхто на месцы не ўстаіць:
Шырай круг, шырай круг,—
Краскі-першацветы ўкрылі луг,
Рэчка паўнаводная выйшла з берагоў...
Не шкадуе сонца шчодрых прамянёў...
Свяці, маё сонца,
Свяці-палай,
Па ўсёй старонцы
Май-размай!
Прыгожасць буяе на зямлі,

Сцяг зялёны ўсходы дружна узнялі,
Цягнуцца да сонца песні жаўрукоў,
Бялянцы-бярозцы косы май заплёў.
І пайшла красуня ў карагод —
Гэткую красу я сню штогод,
Калі абуджаецца
Зелен-гай,
Калі пачынаецца
Звонкі грай,
Калі ідзе раніцай
Май-размай.

* * *

У суседа —
бяседа,
П'юць мядок-саладок.
Ах, не ведаюць пчолкі,
Што мне горкі
Мядок.
Хоць збіралі на красках
Яго
Лугавых,
Дзе хадзілі з Настассяй
Мы да ранку ўдваіх.
А на травах мурожных
Гарэла раса,
Мёдам пахнулі губы
І тугая каса.
Нас зара цалавала
Пад спеў ручая.
Мне Настасся казала:
«Я навекі твая...»

Ах, навошта, навошта
Гаварыла тады?
Я шукаю, ды тыя
Не знаходжу сляды.
Больш не будзем мы бегаць
На луг угрунём,
Пахнуць краскі на лузе
Для мяне
Палыном.
Можа, выдумаў гэта
Усё я знарок?
— Я пайду, мама, ў госці...
— Не трэба, сынок.
...У суседа — бяседа,
П'юць сваты
Саладок.

## БЫЛА ДЗЯЎЧЫНКАЙ...

Спярша дзяўчынка, а пасля — дзяўчына.
І вось ты — маці. На руках — дачка.
Была рабінкай, а пасля — рабінай,
Бы колер ягад, чырвань на шчаках.
Зырчэюць ярка ягады зімой.
Як за акном яны запунсавелі!
(Любуйцеся не толькі іх красой,
Іх смак не той — яны пасаладзелі.)

Цяпер ты не рабінка. А рабіна.
Цяпер ты — маці. На руках — дачка.
І што б ты ні казала, ні рабіла,—
Вісіць на гронцы спелай ягадка.
Ты даражы чырвонай гэтай гронкай,

Каб толькі вецер гронку не абтрос.
Яна не стане і зімою горкай,
А саладзейшай зробіцца ў мароз.

## ДЗВЕ БЯРОЗКІ

Дзве бярозкі, дзве красуні
Нахілі голле
Над крыніцай, што бруіцца
Пад гарой у полі.
— Скажы, скажы, матулечка,
Праўды не баюся,
Чаму я пад буйным ветрам
Дадолу хілюся?
— Яшчэ гнуткі стан твой, дзетка,
Яшчэ маладая,
Таму лёгка цябе вецер
Долу нагінае.
— У крыніцу, у вадзіцу
Доўга я глядзела,
А чаму я, матулечка,
Ды не стала белай?
— Ты без белі прыгожанька,
Свет здзіўляеш цэлы,
Маладая бярозанька
Не бывае белай.

## ЗІМОВАЯ КАЗКА

Пад акном каля старых высокіх ліп
У валёнках Мароз ходзіць — скрып ды скрып,
Апрануў кажух багаты, з-пад іголачкі,
Ні хацінкі ён не мае, ані жоначкі.
Ходзіць полем, ходзіць лесам і па вуліцы,
То пад дахам, то пад стогам ён прытуліцца,
Пасядзець, заснуць пад стогам не асмеліцца —
Замяце яшчэ вясёлая Мяцеліца.
Угаворваў:
«Будзь мне жонкай»,—
ды адмовіла:
«Гэта справа для мяне не вельмі новая».
І, гуллівая, адразу рассмяялася,
Рассмяялася ды разгулялася,
З Ветрам буйным перад ім пацалавалася.
І прытупнула абцасікамі,
У пералесачак пабегла часценькі.
Узлаваўся Мароз — стары дзед:
— Не на ёй адной сышоўся клінам свет,
Пайду ў вёску, знайду хату удавы,
Як-ніяк, а я дзядок яшчэ жывы,
Магу дровы секчы і ваду насіць,
Магу плуг трымаць і траву касіць.
Што ні скажа яна, буду ўсё рабіць.
А ў той удавы хата-звон, хата-звон,
А той удаве не патрэбен ён.
А ў той удавы тры дачкі, тры зяці,
І унукі ёсць ёй для радасці.
Раззлаваўся Мароз не на жартачкі,
Паказаць рашыў, чаго варты ён.
Стукнуў кіем, рукавом махнуў
І навокала сябе зірнуў,
Думаў, што на вуліцы ні душы,
Толькі на калодзежах ледзяшы.

Толькі памыліўся ён, стары дзед,
Дзе такое бачыў ён дзіва, дзе?
Гарманіст гармоніка расцягнуў мяхі,
І, здаецца, сталі цёплымі снягі:
З грудзей частушкі
Ляцяць, як птушкі,
У дзяўчат шчокі,
Як ружы,—
Ні па чым мароз ім,
Ні па чым сцюжы,—
На марозе люба,
Калі побач любы.
Хадзі, Мароз, скрыпі, Мароз,
Глядзі, сябе не замарозь!

## ВЕРБНІЦА

Дзе вада, там і вярба,
Дзе вярба, там і вада:
Верыце — не верыце,
А прыкмета верная,
Мудрая, народная,
Самім жыццём народжана.
Сонца павярнулася,
І зямля прыгрэлася,
Вярба прыглянулася
І памаладзела ўся.
Мароз цяплом зменіцца,
У нядзелю — вербніца,
У гарлачах — вада,
Дзе вада, там і вярба.
Распукнецца да нядзелі,
Разгуляецца на целе:

— Вярба б'е —
Не я б'ю,
Аднаго цябе
Люблю,—
Пры сустрэчы хлопца дзеўка
Б'е, жартуючы, прыпеўкай.
Жонка мужа б'е вярбой:
— Прачынайся, любы мой,
Вясна крадзе вочы,
А ты спаць ахвочы!
Як толькі сустрэнуцца —
Весяліцца вербніца,
Аж не верыцца,— ўсур'ёз,
Пры сустрэчах б'юць да слёз,
Б'юць нявесткі, жаніхі,
Ходзяць з вербай бабкі,
Выганяюць прэч грахі
Без аглядкі.
Калі ж яны водзяцца —
Пацярпець даводзіцца,
Хай вярба прымірвае
Ды ўціхамірвае!
Нібы жонка верная,
Весяліцца вербніца.

## ВЯСКОВЫ КВАС

От, бярозавік які!
От, бярозавік!
Пасля зімніх халадоў
І марозікаў —
Вып'еш кварту — зваліць з ног
І цвярозага.

Як жывы,
У дзяжы
Грэецца на печы,
Нібы стары дзед бурчыць,
Толькі б збегчы!
Ды ніяк не ўцячы,
Ды ніяк не злезці,
І на клёпкі дзяжу
Ён гатоў разнесці.
Столькі моцы, а імпэт
На ўсю хату.
Хадзі ў госці, сусед,
Наллю кварту.
Выпі, калі ласка,
Майго квасу.
Ці ж няпраўда, скажы!
Квас вясковы ад душы —
Хмельны-хмельны,
Самы хлебны,
На бярозавіку.
Прыедзь у вёску маю!

* * *

Лясы Беларусі — баяны зялёныя —
На світанку расцягнулі мяхі.
І зайграла сонца
На хвалях крыштальных Нёмана,
Елкі стаяць, як дзяўчаты,
Клёны, нібы жаніхі.
І палілася песня, якую хвалі панеслі,
Як мыла адна дзяўчына
чысцютка ў вадзе ручнікі.

* * *

Ці то неба на поле ўпала
І сінечай яго заслала.
Ці то з небам злілося поле —
Столькі сіні не бачыў ніколі.
Вецер гоніць сінія хвалі
У бясконцыя сінія далі.
На траве расінкі
Падсінены сінькай.
Хадзем, сыне,
У ранак сіні!
Лён цвіце,
Сын расце.

## ЗАПЕЎКА

Мы дзяўчат называлі дзеўкамі,
А яны кпілі з нас прыпеўкамі
Жартоўнымі,
Сур'ёзнымі
І да крыўды
Слёзнымі.
Толькі мы не плакалі,
Хадзілі задавакамі,
Паглядзіце: вось мы!
Замуж вас не возьмем.
Пойдзем ў вёску Дзіўнава,
Там дзяўчаты дзіўныя.
А яшчэ ў Патапаве
Прыгажунь пасватаем!
А дзяўчаты не, не сумавалі,
Нам услед запеўкі пасылалі:

«Ах ты, Жэня, Жэнечка,
Ты чаму не жэнішся?
Як дадому вернешся,
З намі не сустрэнешся.
А калі сустрэнемся,
Ад цябе адвернемся».
Толькі іх прароцтва не збылося:
Праз гады «дзень добры» кажа Зося.
І Галіны чую голас звонкі:
«Ты прыходзь у госці, Жэня, з жонкай».
І Ануля запрашае ў хату:
«Паглядзі, Яўген, мае блізняты
Выраслі, якія сталі дзеўкі,
І паслухай, як пяюць запеўкі:
«Ах ты, Жэня, Жэнечка,
Ты чаму не жэнішся?»
Хто той Жэня, я яго не знаю,
Хто той Жэня, жонка не пытае

## ВЫЙШЛА РЭЧКА З БЕРАГОЎ

Лёд крануўся, лёд пайшоў,
Выйшла рэчка з берагоў,
Стала крыгаходнаю,
Стала паўнаводнаю.
— Дарагі, дарагі,
Дзе ж у рэчкі берагі?
— А у рэчкі берагі,
Дзе канчаюцца лугі.
А лугі — да агароду,
Праз які заўжды па ваду
Ходзіш ранюсенька,

Мілая Ганусенька.
— Выйшла рэчка з берагоў,
Як яе ты перайшоў?
— А я лодку зрабіў,
Да цябе прыплыў:
Ёсць калі ў каханні згода,
Дык вада не перашкода.
— Ах, бяда мая, бяда,
Пад акно прыйшла вада.

## ШТО СКАЗАЦЬ МНЕ Ў АДКАЗ?

Ён мяне
Праводзіў толькі раз,
А размовы,
Ой, пайшлі пра нас:
Адны кажуць,
Хлопца я адбіла
У Ганусі,
Што яго любіла.
А кіўком
Другія пра яго:
— Ён не хлопец,
А гары-агонь,
Ускружыць
Умее галаву,
Ой, патопча
Ў садзе ён траву...
Што сказаць
На гэта мне ў адказ? —
Адкажы сама ты
За абоіх нас.

* * *

Хачу сцежкай ісці,
— Пойдзем лепш дарогай.
Хачу ласкавым быць,
— Будзь найлепей строгім.
Хачу полем ісці,
— Пойдзем лепей лугам.
Толькі мілай назаву,
— Называй лепш другам.

* * *

Прыйшоў Пятрок — апаў лісток.
*Народная прыказка*

Упаў з бярозкі адзін лісток,
А людзі кажуць: сарваў Пятрок.
Калі б ён толькі сарваў адзін,
То не было б для размовы прычын.
А ён бярозкі ўсе абышоў,
Нарваў бярэма такіх лістоў.
Цяжкую ношу ён ледзь узняў
І па дарозе скарб пагубляў:
Дзе ён праходзіў — сляды, сляды,
Лісты, лісты...
І што ты толькі, Пятрок, нарабіў,
Калі па дуброве зранку хадзіў?
Ах ты, віноўнік, глянь-падзівіся:
З вёскі мужчыны ўсе падаліся
Па венікі духмяныя, бярозавыя, новыя,
Каб і зімою пахнула у лазнях дубровaю,
Што шуміць і пoptions
Маладым бярэзнікам,
І каб цела помніла
Лазню да новых венікаў.

* * *

...І хоць не лыжнік я з вялікім стажам,
Табе кажу:
давай на лыжы станем,
Абудзім лес ад белай цішыні.
Яго абудзім непаўторным рэхам,
Яго напоўнім маладосці смехам,
І не заблудзім мы з табой ані.
Ды дзе блудзіць!
Ён да драбніц знаёмы!
І скінуць сосны шапкі, як шаломы,
Пакланяцца і пабягуць услед.
Але ніяк за намі ім не ўгнацца,
Прыстануць, будуць між сабой шаптацца,
Што я яшчэ зусім не дамасед.

* * *

Зерне і слова —
Золата заўсёды,
У зямлі і ў сэрцы
Прарастуць усходы,

Будзе колас важкім
І заўсёды чыстым,—
Так жывое слова
Становіцца жытам.

Калі ў ім не будзе
Ніякай паловы,
У вяках не згіне
Ні зерне, ні слова.

З кнігі

# «СТРЭЧАННЕ»

(1981)

* * *

Не хаваю вялікай гордасці,
Гавару з чалавечай годнасцю,
Рэвалюцыя, пра цябе.
Векапомная, усясветная,
Ты, як Леніна праўда, светлая
І нязломная ў барацьбе,
Узнялася ты, неабдымная,
У шынелі армейскай прадымленай
І сагрэтая ля кастроў,
На апошні свой бой рашаючы,
Пераможны і завяршаючы,
Каб пазбавіцца рабства акоў.
Іх рассекла клінкамі вострымі,
Праляцела агністымі вёрстамі
На замыленых конях праз стэп.
Ты са смерцю спазналася, з бедамі!
І, галодная, добра ведала:
Рэвалюцыя — гэта хлеб!
Толькі мужныя змогуць выстаяць
І пайсці на любыя прыступы:
Ні свінец, ні пятля, ні касцёр
Іх, народжаных новай эпохаю,

Не спалохалі і не спалохаюць —
Рэвалюцыя — гэта жыццё!
Яшчэ доўга наш вораг шчэрыцца,
З-за вугла ён у Леніна цэліцца,
Не забыць і такое, не!
Значыць, ходзіць яшчэ мінулае,
Што страляе атручанай куляю
Ў Рэвалюцыю і ў мяне.
Рэвалюцыя, будзь упэўнена:
Мы твае прадаўжальнікі верныя,
З рук агністы не выпусцім сцяг.
Ён прашыты свінцом, пранесены
Праз баі з легендарнаю песняю
І таму будзе жыць у вяках!

## ГОД

### Вянок санетаў

### I

Пад бой курантаў абляціць Сусвет
І пройдзе ад Курыл да Белавежы,
І перад ім адкрыецца бязмежжа
Ад сонечнай расінкі да планет.
Знікаюць таямніц сівыя межы,
Ляціць за марай чалавек услед —
І маладзее неабдымны свет —
Куранты лічаць час на Спаскай вежы.
Пад снежнай коўдрай ціха спіць зямля.
Дакладна час мяняе каравулы.
І скіравалі позірк да Крамля
Пасёлкі, вёскі, гарады, аулы.
Год новы крочыць з добрым пажаданнем —
Ён — спадарожнік дум і спадзяванняў.

## II

Ён — спадарожнік дум і спадзяванняў,
Якімі на планеце мы жывём:
Каб зноў не скалануў планету грозны гром,
Каб не было на свеце развітанняў,
Каб мы гасцей віталі за сталом,
Не ведалі ў жыцці расчараванняў,
Каб птушкі пасля доўгіх вандраванняў,
Вярнуўшыся, кружылі над гняздом,
Выводзілі спакойна птушанят
І нашу ніву не пашкодзіў град.
Цудоўнейшае з лепшых пажаданняў,
Узняўшы тост, гаворыць ён спрадвеку:
— Увішнаму у працы чалавеку —
Адкрыццяў новых, пошукаў, дзярзанняў!

## III

Адкрыццяў новых, пошукаў, дзярзанняў —
Далей ад дамаседскай цішыні!
Мы сэрцам прагнем новай вышыні,
Вясёлкавых і сонечных світанняў.
І цемень адступіла перад намі,
Развеяўшы ўсе хмары таямніц.
Куды ні глянь — нязгаснымі кастрамі
Паходня нашых мірных спраў гарыць.
Іх ліўнем смертаносным не заліць
І наш імклівы поступ не спыніць.
І на Зямлі, і ў небе звонкі след:
Дзень нараджэння і дабра, і хлеба,
І карабля, які стартуе ў неба,—
След перамог, якімі дзівім свет.

## IV

След перамог, якімі дзівім свет,
На ўсёй зямлі, не на малым надзеле,
Не згубіцца ні ў ліўні, ні ў мяцелі —
Заўсёды вечны чалавека след.
Вось след дзядоў, што бралі штурмам Зімні,
Вось след бацькоў у славе перамог;
А вось і наш пад небам чыстым, мірным
У рупных буднях на зямлі пралёг.
Ніколі не прыстанем у паходах,
Звяраем думы з Леніным заўсёды,
Мы — верныя сыны твае, Дзяржава,
Нашчадкі самай легендарнай Славы,
З арлінага усе мы пакалення —
Нам па плячу вялікае здзяйсненне.

## V

Нам па плячу вялікае здзяйсненне,
У сэрцах неспакойных — сіла, гарт,
І кожны год — ударнай працы старт,
А праца — гэта творчасць і натхненне.
Заўсёды мы на баявой паверцы,
І ты наш, Партыя, надзейны авангард,
Любы гатовы выканаць загад
Па твайму клічу маладыя сэрцы.
Усё па сіле, што ты скажаш нам.
Нам цаліна скарылася, і БАМ
Мы пабудуем. Мы ў тайгу прыйшлі.
І трасу пракладзем — будоўлю века
Сваёй адзначым, камсамольскай, вехай,
Мы — творцы новай эры на Зямлі.

## VI

Мы — творцы новай эры на Зямлі,
І поспехі, што робім год за годам,
Адзначаны не толькі ўзнагародай
Зярнятак тых, што ў глебе прараслі.
Зямліца-маці! Шчодрая адна ты:
Як маці клапатлівая дзяцей,
Узгадавала каласы з зярнятак —
Працяг жыцця — надзею ўсіх надзей —
Пад чыстым, як акно маё, блакітам.
І мы — зярняты ў коласе. Мы — жыта,
Жывым карэннем у зямлю ўраслі.
Стаім на ёй упэўнена і цвёрда,
Расцём вышэй мы з кожным новым годам —
У космас запускаем караблі.

## VII

У космас запускаем караблі,—
Ляціць у наша сонечнае Заўтра
Нягаснучая ленінская праўда
Вялікай дружбы, міру на зямлі.
Мы перамог нямала здабылі
У барацьбе нялёгкай і упартай.
Упершыню да зораў узнялі
Радзіму не Ікары — касманаўты.
Працягвайся, шчаслівае імгненне!
І сэрцы, як зямное прыцягненне,
Людзей яднае ў сонцы далягляд:
Гісторыя свой ход назад,
Упэўнены, ніколі не паверне —
Вялікай праўды прарастае зерне.

## VIII

Вялікай праўды прарастае зерне,
Дае нам пебывалы намалот.
Сустрэўшы сонца прамяністы ўсход,
Ідзём цераз парогі ў наступленне.
Няўрымслівае наша пакаленне —
Сваіх бацькоў працягваем паход.
Мінулага паўсюль знікаюць цені,
Нібы сухі чарот каля балот.
Куды ні глянь, бы ў казцы, абнаўленне,
Сады наўсцяг у маладым квітненні
І жыта узнялося ў поўны рост.
У будучыню сонечную верым,
Ідзём у Заўтра з непадкупнай верай
Імкліва, не спыняючы паход.

## IX

Імкліва, не спыняючы паход,
Праходзіць праз граніцы і сакрэты,
Перадае спакойна эстафету
Працоўнай славы незабыўны год
Надзейнай змене — году маладому
І, даючы бацькоўскі свой наказ,
Жадае шчыра: — Кроч у добры час
Па бальшаку шырокаму, прамому.
Ён повен сілы, маладога гарту,
На ўдарную заступіць хутка вахту,
Пакуль спакойна робіць свой абход.
А мы здабыткі творчыя падводзім,
Цябе ў дарогу дальнюю праводзім:
— Будзь тройчы слаўны, наш мінулы год!

## X

Ты тройчы слаўся, наш мінулы год,
Прымі людскую ўдзячнасць назаўсёды
За дружныя кусцістыя усходы
І сонца прамяністага усход.
Ты годам міру на планеце быў,
А мір — вясны жаданае прадвесне:
У небе жаўрукоў не моўкне песня,
А на Зямлі — даспелых голас ніў.
Прымі паклон ад сэрца тройчы нізкі,
З якім прыходзім мы да абеліскаў,
Нясём любоў гарачую, сардэчнасць.
Салдат Радзімы, свету ты вядомы,
Цябе, як сына, ў кожным помняць доме
За дабрату, за шчырасць, чалавечнасць.

## XI

За дабрату, за шчырасць, чалавечнасць,
Якую мы праносім праз гады,
Ад першае з табою, Год, сустрэчы
Ты ў памяці і ў сэрцы назаўжды.
Не выкрасліць цябе ніхто ніколі,
Прывалаў ты не ведаў, не рабіў,
А працу па-сапраўднаму любіў.
У шахце, ля станка стаяў, і ў полі
З табою мы, як з доляй, заручоны:
І сталявар, і сейбіт, і вучоны —
Усе прайшлі нямала слаўных вёрст.
Шумяць жыты, і хвалі б'юць прыбоем,
І зоры віснуць залацістым роем —
Радзімы квецень, небывалы рост.

## XII

Радзімы квецень, небывалы рост,
І на граніцы наш надзейны пост,
Бязвоблачная чысціня нябёс,
Буйное на траве зіхценне рос
І гоман бору, шэпт красунь бяроз,
Дзяцей шчаслівы і зайздросны лёс,
Зямля бацькоў, дзе нарадзіўся, рос,
І калыханка, родная да слёз,—
Усё, усё, чым мы жывём на свеце,
Перададзім у спадчыну мы дзецям.
Асветленая сонцам панарама —
Ад пяцігодкі першай нашы планы.
За мужнае дзярзанне, смелы рост
Мы ўсе ўзнімаем навагодні тост.

## XIII

Мы ўсе ўзнімаем навагодні тост
За наш саюз, адзіны і свабодны,
За Партыю — маяк наш пуцяводны,
Мы з ёй навекі свой з'ядналі лёс.
З ёй ленінскі здзяйсняем запавет,
Цябе, гісторыя, мы самі творым
Ад залпа легендарнае «Аўроры»
Да старту гераічнага ракет.
І мы ідзём дарогай прамяністай
Да новых нечуваных перамог:
Наперадзе заўсёды камуністы,
І ўсе да Ільіча раўняюць крок.
Суладна сэрцы б'юцца ў гэты вечар:
Куранты б'юць на Спаскай вежы вечнасць.

## XIV

Куранты б'юць на Спаскай вежы вечнасць,
Дваццаты век, лаві іх гулкі бой!
Масква заўсёды гутарыць з табой,
Яна — твая надзея, чалавецтва!
І позіркі, і думы скіраваны,
Масква, як да святыні, да цябе:
Дапамагаеш ты у барацьбе,
Хто рве цяжкія ланцугі-кайданы.
Ты цвёрда верыш: гром вайны не грымне,
Свабода грымне пралетарскім гімнам,
Узніме сцяг агністы цэлы свет.
— Хутчэй паўстань, пракляццем катаваны!
Дрыжыце, рабства чорнага тыраны! —
Пад бой курантаў абляціць Сусвет.

## Магістраль

Пад бой курантаў абляціць Сусвет.
Ён — спадарожнік дум і спадзяванняў,
Адкрыццяў новых, пошукаў, дзярзанняў,
След перамог, якімі дзівім свет.
Нам па плячу вялікае здзяйсненне,
Мы — творцы новай эры на Зямлі,
У космас запускаем караблі,—
Вялікай праўды прарастае зерне.
Імкліва не спыняючы паход,
Ты тройчы слаўся, наш мінулы год,
За дабрату, за шчырасць, чалавечнасць,
Радзімы квецень, небывалы рост!
І мы ўзнімаем навагодні тост —
Куранты б'юць на Спаскай вежы вечнасць.

* * *

Як шчасце вялікае ўзважыць,
якою мераю змераць?
А потым што людзі скажуць,
паверацъ або не паверацъ?
Прачнуўшыся раніцою, яшчэ не верыш сабе —
Вялікае шчасце тое, што ліўнем у вокны б'е.
Шчасце — з другам добрым,
спрачацца і шчыра дружыць,
Прыйсці да яго няпрошана,
яму — дзверы насцеж адкрыць.
Або закахацца ў дзяўчыну,
жыць, адчуваць маладосць.
Шчасце — любіць краіну,
дзе гаспадар ты, не госць.
І адчуваць заўсёды: на свеце жывеш нездарма,
Не гаварыць без нагоды,
што шчасця ў цябе няма.
Раніца. Поўдзень. Вечар.
Спякота ці хмурны дзень —
Не думай толькі пра вечнасць,
Вер толькі ты ў чалавечнасць,
Людскую сардэчнасць людзей.

* * *

Пакуль на свеце я жывы,
У дзень свой светлы веру.
Усе хваробы з галавы
Выкідваю за дзверы.
І венікам за імі след
Адразу замятаю.

Глядзі і радуйся, сусед,—
Я жыць яшчэ жадаю.

А ёсць жаданне, буду жыць,
Адолею хваробы,
Зямлю бацькоў маіх любіць
Любоўю хлебароба.

І крочыць ранкам па вясне,
Красою любавацца.
Бо як жа будзе без мяне
Тут колас налівацца?

## СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ СЯБРОЎ

Пры іх жыцці не ўсё сказаць паспеў,
А зараз позна, боль на сэрца ціснe:
Адзін у вечны вырай паляцеў,
Другі, як снег, зямлю пакінуў ціха.

А трэці?.. Дзе чацвёрты?.. Пяты?..
Балюча пераносіць страты,
Лапату, далакоп, адкінь убок.
Не трэба забіваць цвікамі векі
І сонца закрываць ад іх навекі,
Ім трэба ў вершы дапісаць радок.

# ДАЛЁКІ ВЫРАЙ

Бывайце, гоні, рэчкі, паплавы,—
Я адлятаю ў свой далёкі вырай.
*Сымон Блатун*

Слухай, Сымон,
давай у маленства вернемся
і зловім таго грознага пеўня,
падобнага на генерала без пагон,
які за лесам зашарэлым,
заўважыўшы першым барвовы золак,
кукарэкаў на ўсё Палессе, як ашалелы.
Мы яму суд не будзем учыняць,
як тая ўдава галаву адсякаць,
няхай — колькі яму хочацца,—
кукарэкае, жыве.
А магчыма, на роснай траве,
узяўшы вёдры, басаnож пабяжым па грыбы?
А магчыма, спаймаем у небе жураўля,
які нядаўна вярнуўся з выраю?
Павер, дружа,
мне дужа
хочацца зноў у маленстве пабыць,
пагуляць з ма́льцамі, такімі, як і я,
у лапту на выгане.
Ды ведаю:
вярнуцца ў маленства проста немагчыма —
яно толькі ў сне сніцца
і доўга пасля стаіць прад вачыма.
Што гэта я гавару?
Пачакай, Сымоне,
паглядзі:
ты выпусціў з рукі сініцу,
а журавель, якога спаймаць хацеў,
так рана ў вырай паляцеў.
Чаму паляцеў і ты следам за ім?

Не разумею цябе зусім.
Зноў весніцца вясна.
Прабіліся вострыя стрэлы травы.
І мы, сябры, прыйшлі на сустрэчу да цябе
і пачулі твой голас тужліва-шчыры:
«Бывайце, гоні, рэчкі, паплавы,—
Я адлятаю ў свой далёкі вырай».
А як адтуль у маленства вярнуцца,
злавіць таго грознага пеўня,
які з-пад купяжу вады напіўся
і кукарэкае, хмельны?
Ты адлятаеш у вырай далёкі за трыдзевяць зямель,
нібы той жураўель,
і я табе крычу наўздагон:
— Сымонка!
Сымоне!
Сымон!
Паслухай,
пачакай,
не адлятай,
вярніся!

## НАШ ХРОСНЫ БАЦЬКА

Іван Калеснік
Бацькам хросным
Нязменна
Для паэтаў быў.
*Рыгор Барадулін*

Мы, вясковыя хлопцы,—
Паэты яшчэ зялёныя,
Пісалі вершы,
Якія набівалі аскоміну,
І дасылалі ў «Чырвоную змену»,

А Іван Калеснік —
Літкансультант нязменны —
Чытаў іх адразу
І... ад рукі пісаў кожнаму адказы.
Ён тады друкаваўся,
І мы яго вершы на памяць завучвалі.
О, як, бывала, ён нас засмучваў!
Мы тыя адказы
Хавалі ад чужых вачэй,
А самі вывучалі ямб і харэй
І зноў яму надакучвалі.
Ён па почырку ведаў усіх пачаткоўцаў
І ніколі не памыляўся,
Ён першы на дарогу выводзіў хлопцаў
І за кожнага, як дзіця, радаваўся,
У гэтым кожны з нас пераканаўся.
Ён быў нашым аднагодкам амаль,
А мы яго Іван Іванавіч называлі любоўна,
Жартавалі,
Што вершы паэта не кормяць, на жаль,
Толькі хмеляць,
І не заўсёды, шаноўны.
Атрымаеш за верш ганарар і штаны
За яго ты не купіш усё роўна.
— Кіньце, хлопцы!
Зірніце, цвітуць каштаны,
Свет навокал прывабны, чароўны.
...На каштанах
Зноў белыя свечкі вясна запаліла,
А ці зацвіў там каштан?
Стаю маўклівы над тваёй магілай,
Іван!

## ПЛУГАР

**Надпіс на кнізе**
**Генадзя Кляўко «Плуг»**

Яшчэ не грымнулі грамы,
Ды прыкмячаем мы:
Мінуўся белы сон зімы,
Спакойны і нямы.

Гракоў вясёлых гамана
І хлебны пах раллі —
Заварухнулася вясна
Пад сэрцам
У зямлі.

Гайдаюць цёплыя вятры
Высокую сасну.
Давай, плугар,
Свой плуг бяры,
Пракладвай баразну.

Зірні, які табе абсяг
Патрэбна узараць,
А ты рукой махнуў мне:
— Ах!
Хіба мне прывыкаць?!
Не сорам мазалі:
Няхай у поце будзе лоб,
Сын хлебароба —
хлебароб
І гаспадар зямлі.
Зямля — карміцелька,
яна
Вясну адчула зноў,
А плуг і гэта баразна —
Аснова ўсіх асноў.

І кожны з нас павінен дбаць
Заўсёды пра ўмалот.
Зямельцы нельга пуставаць,
Яна — жыццё. Штогод,
Як кроплі звонкія расы,
З тугіх зярнятак каласы
Ёй трэба нараджаць.

Загаманіла зноў вясна,
Пасталі краскі ў круг.
Скажы, плугар,
Дзе баразна,
Няўжо ты страціў плуг?

* * *

Лістапад. І грыбы адышлі.
І на вуліцы — лужы.
Толькі светла
усё ж на душы,
ты павер мне, мой дружа.

І хоць слоту не любіць ніхто,
дрэвы гнуцца пад ветрам,
я адзіны іду пешаход,—
на душы маёй светла.

І цудоўны мой светлы настрой
не псуе нат такая пагода:
зноў жыццё
працягнула руку
перад сонца
усходам.

* * *

Даўняе адмятаю,
Што валаклося, як цень.
Дзякую і прымаю.
Добрае «Добры дзень!»,
Сонца яшчэ не заходзіць,
Здаецца, толькі ўзышло.
Добрае позна прыходзіць,
Рана прыходзіць зло.
Але і яно мінае,—
Навошта помніць аб ім?
Дзякую і прымаю
Добрае назусім.

## СТОЛ

У хаце, як святыня, стол!
На ім — надзённы хлеб і соль,
а гэта ўжо — дастатак, значыць.
Хто б ты ні быў — сусед ці госць,—
прыйшоўшы ў хату, кожны бачыць:
ёсць хлеб, дык і да хлеба ёсць!

Стол тройчы ў дзень сям'ю збірае,
за ім нікому не бывае
ніколі цесна — месца ўсім
заўжды, як правіла, хапае,
і кожны, седзячы за ім,
сямейны локаць адчувае.

І ўсё будзённасцю завецца,
калі ж за стол сям'я збярэцца,
і бацька кажа кожны раз,

узяўшы бохан: — Маці ў нас
ну проста малайчына, дзеці,
другой такой няма на свеце
ні для мяне і ні для вас!

На лусты бацька бохан рэжа,
а на стале ў талерках ежа
аж просіцца у рот сама:
яда з вясковай хлеба лустай,
гарачы водар ад капусты
ідзе ажно на паўсяла.

А потым — бульба. Бульба з салам —
макай або бяры кавалак —
у ёй і ў хлебе сіла ўся.

Не забывай яшчэ, канечне,
што будзе на стале яечня,
а потым будзе піць сям'я
і сырадой, духмяны, свежы,
піць без размовы і без спешкі —
такі ўжо за сталом закон:
калі гавораць — толькі справы,
якія вырашаюць самі,
ніхто не павышае тон.
Хоць аднастайнае меню тут,
я стол вясковы не забуду,
дзе шчырасць, ласка, цеплыня.
Збяры і нас, дзяцей, таксама
за стол наш, дарагая мама,
мы — не маленькая сям'я.

Мы самі вінаваты ў тым,
што рэдка за сталом тваім
збіраемся.
Даруй, матуля...

## МАМА ХЛЕБ ДЗЯЛІЛА

Хлеба было мала,
хлеб дзяліла мама,
чорны хлеб дзяліла:
— Ешце, ў хлебе сіла.
Мама жартавала,
калі гаварыла:
— Сарока-варона
кашку варыла,
кашку варыла —
дзетак карміла,
дзетак карміла —
дзетак лічыла:
— Гэтаму давала,
гэтай давала,
гэтай давала,
гэтай давала,
гэтаму давала,
гэтай — не хапіла.
Мне міргнула вокам,—
цяжка быць сарокай.
А хто была тая,
каму не хапіла?
Дзе сарока тая,
чый ты хлеб схапіла?
Як яна ўляцела?
Дзе яна сядзела?
Зачынены вокны —
і няма сарокі.
Хлеб дзяліла мама,
пароўну дзяліла.
Хлеба было мала,
хлеба не хапіла
...маме.

## ГРЫБНЫ СЕЗОН

*Рыгору Барадуліну*

Не магу ніяк заснуць сягоння —
Наступіў гарачы час такі:
Сінім раннем, чую, вёдры звоняць —
Свой сезон адкрылі грыбнікі.
Іх — усіх! — на кожным кроку бачу,
Нельга ім схавацца ад мяне,
Калі лес трымае справаздачу
Перад імі,— верыце ці не?
Перад кожным (іх жа цэлы табар!)
Выкупляецца любой цаной:
Кожнаму дае у рукі хабар,
Дзеліць скарб свой шчодраю рукой.
Асуджаць за гэта лес не стану
І нікога я не асуджу:
Грыб знайду і на калені стану,
Шчыра ўдзячны лесу і дажджу.
І таму не спіцца мне сягоння,
Як і ўсім сапраўдным грыбнікам.
Лесе мой! Я — у тваім палоне
І скажу: жывецца добра там!
З самага далёкага маленства
Захапіў мяне ты, хлапчука,
Прафесійна шліфаваў майстэрства
Не на самавучку-грыбніка.
Развялося грыбнікаў так многа
З почыркам аднолькавым — павер.
І няма тут дзіўнага нічога:
Грыб знайшлі — і напісалі верш.
І не ў лесе — ў парку ці ля плоту,
Назбіраўшы кош дажджавікоў,
Іншы накляпае нават оду,
Хоць даўно не еў баравікоў.

* * *

Маленства!
Якое цяпер ты далёкае!
Рэха па лесе гукае-галёкае,
вёдрамі звоніць лета грыбное,
раніца пахне густым сырадоем,
весела шпак на бярозцы пасвістае,
бусел клякоча.
Маленства!
Ты — блізкае!
Цябе перарос я,
спаткаўся са сталасцю,
а ты ўсё такое —
ніколі не старышся.
На захадзе позна зара дагарае:
тут рана на ясныя зоры займае.

* * *

Мама мне сарочку вышывала,
На дварэ сарока стракатала,
Стракатала з раніцы сарока,
Што сынок заявіцца здалёку.
Адслужыўшы армію, прыедзе,—
Неўзабаве ў хаце быць бяседзе.

Мама мне сарочку вышывала,
Бы пісьмо іголкаю пісала
На кужэльным белым палатне —
Напамінку аб сваёй вясне,
Што прайшла, адгаманіла маем,
Салаўямі адспявала ў гаі.

Мама мне сарочку вышывала,
І, як нітку, сонца промень брала,
І яго уцягвала ў іголку:
Вышывала мама мне вясёлку,
Што над лугам прыдняпроўскім ззяла,
Мне сарочку сонцам вышывала
Мама.

## КАЗКА

Жыла-была добрая казка,
шмат год на свеце жыла,
расціла сыноў і дочак,
самых прыгожых на свеце,
якія спачатку былі
маленькімі дзецьмі, на печы
сядзелі зімой яны
і слухалі, як у шыбы
стукае нехта ўночы,
просіцца ў хату пагрэцца:
усе дарогі завея
зблытала, перамяла.
Жыла-была добрая казка,
якая заўсёды дзверы
гасцінна ўсім адчыняла,
усіх сагравала з дарогі,
карміла, паіла і нанач
мякка слала пасцель,
а раніцой на дарогу
давала хлеб-соль, гаварыла,
праводзячы з хаты: «Чым
багаты мы, тым і рады».
Жыла-была добрая казка,

якая любіла працу,—
арала, сеяла, жала,
грады рабіла, збірала
гаючыя травы-зёлкі,
каб не хварэў ніхто.
Жыла-была добрая казка,
унукаў яна любіла,
унукаў яна гадавала,
для іх яна і шукала
чароўную папараць-кветку
штогод
у купальскую ноч...
Жыла-была добрая казка...
Мне часам бывае крыўдна,
што многія
казку
пра ласку
хутка паспелі забыць.

* * *

Многае ў жыцці не патрабую,
задаволены усім, што ёсць,
Рады, калі ў хату прыйдзе госць,
пасаджу на покут, пачастую.

Зязюля мне гады не накукуе
і назад не верне маладосць.
Не магу на птушку мець я злосць,
а таму і зараз не крыўдую.

За вялікім у жыцці не гнаўся,
небам задаволены, зямлёй.

Боязна ісці мне баразной,
дзе ад куляў шмат разоў хаваўся.

Рады я вясёлцы і дажджу
і на Млечны Шлях часцей гляджу...

* * *

Шуміць апошні грыбасей, як восы,
І неўпрыкметку я заўважыў восень
Не толькі у прыродзе, а ў сабе.
І стала неяк на душы трывожна.
Што восень так ступае асцярожна
І неўзабаве першы ліст сарве.
Трывожна на душы і неяк светла,
Прастору болей на зыходзе лета,
Зусім інакшы бачу далягляд:
Без бліскавіц, раскатаў гулкіх грому,
Як урачыстасць, адчуваю стому,
А верыць не хачу у лістапад.
Я ведаю, што лістапад наступіць
І нехта на лісты мае наступіць,
Калі яны пад ногі упадуць.
Абцасам ён наступіць на прыгожасць,
І гэта больш за ўсё мяне трывожыць,
Астатняе — ніколечкі, нічуць.
Я адганяю ад сябе трывогу,
Зару цалую ў губы на дарогу —
Не халадзее ў жылах маіх кроў.
Адчырванела, бы каліна, лета,
А песня пра цябе яшчэ не спета,
Харошая і чыстая любоў.
Яшчэ не хутка стану я зямлёю,

Пакуль жывеш ты, я жыву з табою
І ты мне адкрываеш новы свет.
Шуміць апошні грыбасей, як восы,
І я ў сябе заўважыў нейк восень,
Ды не згубіў я маладосці след.

* * *

Я стому адчуваю больш і больш,
У сне я толькі забываю стому.
І не гняце тады ніякі боль,
Ажно ніяк не верыцца самому.

І неба сінява над галавой,—
Духмяны пах і сена і саломы.
Пагутары хвіліначку са мной,
І, пэўна,— не адчую стомы.

* * *

...А лета, ведаю, ніяк не вернеш,
як і не вернеш згубленую вернасць:
яно цвіло — ды толькі адцвіло.
Рабіла лета справы паступова,
рабіла лета справы паспяхова,
яно працалюбівае было.
Дагнаўшы у лугах свае пракосы,
навесіла пад стрэхі лета косы
і, завяршыўшы у стагах лугі,
пайшло далей, забыўшыся на стому,

нібы касцы праз агарод дадому —
увосень будзе шчэ і ўкос другі.
На небе — аніводнае хмурынкі!
І выйшла лета дружна на зажынкі,
Іскрыцца ранак кропелькай расы,
Мы з нецярпеннем дзень чакаем гэты.
Калі, як галаву, схіляе лета
напоўненыя сонцам каласы.
У лета робім свой, другі, мы крок.
У бункер льецца залаты паток,
саломы горы высяцца здалёку,
куды ні глянь — высокія стаяць,
прыкмеціў я: на іх кладуцца спаць
зары вячэрняй скошаныя змрокі.
Жніво, жніво... Гарачы час такі,
як дугі, угінаюцца такі
ад сонечнага хлебнага цяжару.
У ночы цішыня — ўсяму вянок.
І раптам — хруст, бы хтось зламаў дубок.
Ды не! Далёка гром падковамі ударыў.
І — больш ні гуку. Добрай быць пагодзе.
А лета паступова адыходзіць,
было — пайшло, схавалася ў верас.
І зацвіло. Яго цяпер не вернеш,
гукай ці не гукай — назад няма звароту
яго надзеям, радасцям, турботам.

* * *

Казка хутка кажацца,
справа доўга робіцца,
Завязь перш завяжацца,
потым плод народзіцца.

Час марудна цягнецца,
пакуль яблык выспее,
Пакуль яблык выспее,
блакіт у небе выцвіце.
Рэчка ў мора выцеча.
Казка хутка кажацца,
справа доўга робіцца...
Перш чым з'есці яблык,
крутабокі, сонечны,
Трэба дзічку-яблыньку
адшукаць і выкапаць,
Пасадзіць у садзе,
прышчапіць і выпесціць.
Рэчка ў мора выцеча,
а яблынька вырасце.
Казка хутка кажацца,
справа доўга робіцца.

## СЦЯЖЫНКА

Ад роднага бацькоўскага парога
у росны луг і спелыя бары,
дзе ўсе знаёмы птушкі і звяры,
выводзіць нас сцяжынка на дарогу.

Прэч адганяю ад сябе трывогу
і, раніцу сустрэўшы на Дняпры,
я прыгадаў вас, добрыя сябры,
хто ў час цяжкі прыйшоў на дапамогу.

Што лёсам наканована ў жыцці,
павінен самастойна я прайсці,—
куды ні глянь: сцяжынак розных многа.

І кожная не згубіцца нідзе,
і кожная кудысьці павядзе,
і кожная жадае быць дарогай.

* * *

Які прастор у родным Прыдняпроўі!
Луг заліўны да бору падышоў.
І лёну сінь, і гоман каласоў.
Птушыны спеў: дзе дрэва, там гняздоўе.

Стаю на кручы, завітаўшы зноў я
У край маленства, дарагіх сяброў.
Зязюля мне суліла шмат гадоў
І самага найлепшага здароўя.

Мой родны кут — часцінка Беларусі,
З табой ніколі я не разлучуся,
Пакуль пульсуе ў маіх жылах кроў.
Ты для мяне адзіная на свеце,
Уночы зоркай пуцяводнай свеціш,
Мая святыня і мая любоў.

## СТРЭЧАННЕ

*Уладзіміру Паўлаву*

Вясна з зімой сустрэлася,
даведацца хацелася
вясне:
чаму красуні яблыні

на холадзе, азяблыя,
дрыжаць?
Вясна з зімой сустрэлася,
спытала: «Куды дзеліся
птушкі?
Без іх дубровы сумныя,
усе бары задумныя
стаяць».
Зіма — бабуля грозная —
і стала бы не злосная
зусім,
а добрая, гасцінная
жыве ў сваёй хаціначчы
адна.
Сказала:
— Я ж багатая,
такой сустрэчы рада я
з табой,
хадзі ў маю гасцінную
свяцёлачку-хацінечку,
я напякла бліноў.
Вясна з зімой сустрэлася,
і стала зразумела ўсё
вясне:
зайсці — адтуль не выйсці ёй,
зіма замкне, не выпусціць
яе.
— Пра яблынькі пытаюся
і птушкамі цікаўлюся,
а ты
змаўчала, хоць бы слоўка
сказала пра салоўку,—
дзе ён?
Вясна з зімой сустрэлася,
сказала, не сумелася,
ёй так:

— Не моршчы свой лоб, цётка зіма,
гамонкі з табою ў мяне няма.
Прыехала я на конях — на сонечных
промнях,
вунь мая калясніца,
сакавік — мой вазніца,
сосны і елкі мяне віталі,
мне праясняліся далі,
ледзяшы плачуць па табе, зіма,
ды гэта ты бачыш ужо і сама.

* * *

Зярнятка — малое дзіцятка
на руках у матулі-зямлі,
ты, зямля, сагрэй яго сваім дыханнем,
дай яму ўдосталь напіцца цёплых рос —
свайго малака,
каб зярнятка-дзіця
станавілася на ногі хутчэй,
набіралася сілы,
стала коласам, бронзавым коласам —
тваім сынам.

Кожная маці
любуецца сваім сынам,—
помніць матуля
і першыя крокі нясмелыя,
і першыя словы, якія сказаў малы,
для яе гэта самае дарагое.

О, матуля-зямля!
Колькі ў цябе сыноў-калоссяў!
Ці ведаеш ты

кожнага з іх?
Затое
кожны колас
ведае поле сваё.

* * *

Як доктару, не выкажаш нікому,
Пра што твая збалелася душа
І як ты жыў, куды калі спяшаў,
Якую урачыстасць нёс і стому.

Яшчэ табе не верыцца самому,
Што сталася з табой. Чаму, скажы,
Стаіш не на абочыне шашы,
Свой жыццяпіс даверыўшы чужому?

І жыццяпіс, нібыта на далоні,
Старонка — за старонкай дні, гады:
Вось падаў ты ў глыбокае прадонне,
А вось увысь ты узляцеў тады.
А дзе рукі маёй да зорак дотык,
Магчыма, ты мне скажаш, добры доктар?

* * *

Лес мой — арганная музыка веку,
святыня мая дарагая, сябрук,
пакіну цябе, нібы выйду з сабору,
дзе адмаліў, нібы грэшнік, грахі.
А да цябе завітаю, забуду
нягоды, трывогі, што ў сэрцы былі.

* * *

Нехта некага кліча, нехта некаму дужа патрэбны,
а той, хто патрэбны, маўчыць, не адзываецца.
Дзе ён і хто ён? Я зусім, зусім яго не ведаю,
ведаю, што ён чалавек называецца.
А як мне знайсці таго чалавека,
якога я зусім, зусім не ведаю?
Вось так і зязюля кукуе адвеку,
пасылаючы некаму «ку-ку» сваё светлае.

* * *

Трымаю зерне на далоні.
Трымаю зерне не ў палоне.

У глебу кіну зерне тое —
яно не згіне, хоць малое.

Яно прабілася стралой —
сцяблінкай кволай і жывой,
напіўшыся ўдосталь рос,
яно ідзе
ў поўны рост.
І ўсё ж не часта заўважаем:
сцяблінка
каласок
трымае!

* * *

Іголкі ці лісты на кожным дрэве
падобны толькі на сябе саміх,
у гэтым і адрозненне у іх,
як і ў людзей: у голасе і спеве.

Карэннямі перапляліся ў глебе,
жывыя сокі п'юць з глыбінь зямных,
яны падобны на сябе, жывых,
а кроны іх, купчастыя, у небе.

Люблю я дрэвы за іх рост і мужнасць,
іх бура хіліць, ды не зможа здужаць,
ім б'юць заўсёды ў кроны перуны.

І, мужныя, любы мароз выносяць,
а вось ратунку ад сякеры просяць,
шкада, бездапаможныя яны.

* * *

Аб чым спяваюць птушкі на світанні?
Што рана ўсталі? Вывелі дзяцей?
Ці мо аб тым, што хутка сонца ўстане
І зробіцца ў прыродзе прыгажэй?
Магчыма, сэрцы саграваюць песняй
Ці славяць справы, што ідуць на лад?
А мо аб тым, як любяць і як песцяць
Маленькіх жаўтаротых птушанят?
Усё магчыма. І з усім я згодны.
Я з птушкамі жыву ў суседстве добрым
І нават песню ім магу падцэць.

Аб чым яны спяваюць? Я ні разу
Ад іх не атрымаў яшчэ адказу —
Жыць можна побач, ды не разумець.

* * *

Сумненні быстраногія, што коні,—
яны заўжды ў дарозе, у пагоні:
кагосьці даганяюць і спыняюць,
надоўга ў сэрцы адпачыць сядаюць,
а сеўшы адпачыць, і асядаюць.
Чаму ж яны так доўга засядаюць
і месц сваіх ніяк не пакідаюць?
Забраўшыся глыбока ў таямніцы,
няўжо сумненням ціхенька сядзіцца?
І вось ужо за лес зара садзіцца.
І на бярозах лісце залаціцца,
кранула шэрань раніцай траву,
і сівізна падкралася да скроняў.
Ідуць сумненні. З імі я жыву,
хаця яны са мною не гамоняць.
Іх прэч ганю. Яны маўчаць няўмольна,
а мучыць чалавека вельмі здольны.
А я іду, упэўнены заўжды
у свае сілы.
Ёсць яшчэ гады!

## ВІР

Дзе вір, там цёмная вада
і непазбежная бяда
для тых,
хто плаваць не умее.
Я гэта добра разумею.
Трава ад спёкі вяне, млее,
за вёскай сажалка мялее,
але ніяк не высыхае,
а ў маразы не вымярзае —
са дна крыніца б'е жывая.
Што так, я сам пераканаўся,
калі у сажалцы купаўся:
забыўшыся пра асцярогу,
я на сярэдзіну заплыў,
дзе вір схапіў мяне за ногі
і закруціў, і закруціў.
Ён так мяне круціў, нібы
на самай справе я слабы.
А я не клікаў дапамогу —
цяпер не страшны вір любы.

## ПЕРАД НАВАЛЬНІЦАЙ

Паласнула —
і святлом
разагнала ночы цемень,
і паўсюдна зніклі цені,
як у поўдзень летнім днём.
Што тут дзіўнага такога?
У вачах стаіць трывога,
кропля ўпала мне на лоб,

вецер кінуўся ў галоп,
падхапіўшы клубы пылу,
іх узняў да небасхілу.
І за гэтым вось святлом,
паламаўшы свае крылы,
аб зямлю разбіўся гром.

## ГЛЫБІНЯ

Мялее сажалка, але не высыхае,
нягледзячы на тое, што яе
каторы дзень вадой не папаўняе
у спёку дождж. Усё ж яна жыве
і высыхаць не думае. Такая
мясцінка ёсць пад назвай — глыбіня,
на самым дне ляжыць яна, жывая,
дзе прахалода, цемень, цішыня,
якую толькі сонца прабівае,
спакойна апусціўшыся на дно,
штодзень і сонца глыбіні шукае,—
надзвычай неспакойнае яно.

* * *

Луг —
лысы, голы, нібы бубен.
Яшчэ ні лісціка на дубе
няма, як і на дрэвах іншых.
Тырчаць рагаціны-галіны,
бягуць, гамоняць ручаіны

з узгоркаў пачарнела-рыжых,
і не змаўкае грай грачыны.
Ёсць у гракоў таксама розум,
ёсць у гракоў таксама роздум,
будуюцца, пакуль не позна.
Амаль на кожным дрэве гнёзды
павырасталі, зачарнелі —
у навасельцаў —
наваселлі!
Якую доўгую адлегласць
ім давялося праляцець,
каб толькі права на аседласць
на гэтых
голых
дрэвах
мець!

## СОТНІ РОЗНЫХ «ЧАМУ?»

Сотні самых розных «чаму?»
Уласцівы чалавеку аднаму.
Я за гэтыя самыя «чаму?» на яго не крыўдую,
Калі вяду з ім бяседу,
Адказаць на ўсе пытанні спрабую,
Пачынаючы з веласіпеда,
Чаму ён двухколавы і трохколавы,
І канчаючы космасам.
Словам,
Толькі адкажу, і «чаму?» новае вырастае,
Па-свойму складанае і па-свойму простае:
Чаму бывае вецер і дзе ён спіць?
Чаму колас расце і бярозка шуміць?
Чаму грыміць на небе гром?

Чаму месяц не грэе, хоць свеціць?
Чаму дзядзька Янка ходзіць з пустым рукавом?
Чаму нараджаюцца дзеці?
Чаму малако дае карова?
Чаму на траве застаецца след?
Чаму зелянее за вёскай дуброва?
Чаму памёр у вёсцы дзед?
Чаму ў чырвоным сваім кафтане
Бегае вечарам Бай па сцяне?
Баіць ён казкі ці не?
«Чаму?» у яго ўзнікаюць адразу,
Не задумваючыся, на хаду,
Ён чакае на іх адказу,
Я з адказам не падвяду,
Хоць і ведаю: аднаму
Цяжка справіцца з розным «чаму?».

## РАНІЦА МУДРЭЙШАЯ ЗА ВЕЧАР

Так у нас гаворыцца спрадвечна:
«Раніца мудрэйшая за вечар».
І мы пагаджаемся з такою памоўкаю,
лічым звычайнаю з'явай,
калі адкладваюцца на заўтра
незакончаныя справы.
Самі кладзёмся спаць
і ім пасцель сцелем,
павінны ноччу адпачываць
і справы, і цела.
Трэба, трэба выспацца,
як выпускніцы перад выпускам.
«Раніца мудрэйшая за вечар» —

праўду ты гаворыш, чалавеча,
ну, а раніцою, як заўжды,
змыўшы вадою стому,
працягваем справы свае дарабляць
і на рабоце і дома.
І ўсё ж мы часта пра іх забываемся,
ведаем:
справы не збягуць у лес воўкам.
А мы жывём і паўтараем усё
пра мудрую раніцу прымоўку.

* * *

Мароз ударыў нечакана!
Прыйсці было наканавана
зіме,
яшчэ лісты не абляцелі,
дзе зелянелі, дзе жаўцелі,
а толькі падаць не хацелі
пад ногі мне.
Не толькі мне! Усім, хто ходзіць!
Я не лічу, што гэта дробязь,
якую можна абысці
або, ступіўшы, не заўважыць.
Лісты, маўклівыя, не скажуць
ні слова пра сябе ў жыцці.
Жывуць — не скардзяцца, што дрэнна:
трымае іх надзейна дрэва,—
жывуць, як людзі на зямлі.
Лісты і людзі прагнуць высі
той, куды птушкі ўзняліся
з вясенняй цёплае раллі,
Мароз ударыў нечакана!

Мароз ішоў, як падкаваны,
вярнуўшыся з начлегу, конь.
Ён так упэўнена ступаў,
што капытамі высякаў
агонь.

* * *

У маленства, у самае звонкае ранне,
да бяроз беластволых на роснай паляне,
да гуллівых чмялёў,
легкакрылых стракоз
дай вярнуцца мне, лёс.
Дай вярнуцца, калі толькі гэта магчыма,
дай на свет паглядзець мне маленства вачыма,
дай пабыць хлапчуком мне
наіўным тым самым,
што любіў слухаць песні мамы.
Зазірнуць у маленства хачу я хоць крышку,
калі ўспыхнуць, як цыпкі, на вербах пупышкі,
праімчацца хачу на драўляным кані —
дожджык, дожджык, секані!
Дай прапахнуць мне дымам кастра на начлезе,
з елкі ўпасці, калі непаседа палезе,
лёс, не бойся,
не будзе са мною бяды —
накукуй мне, зязюля, гады!

* * *

*Міхасю Стральцову*

Сябры заўжды спазнаюцца ў бядзе,
калі закіне лёс у вір глыбокі,
і ты, што быў раней навідавоку,
вядзеш змаганне за сябе ў вадзе.

А выхаду няма ніяк нідзе,
і цешацца прыстойныя прарокі:
збылося прадказанне!
Ды здалёку
сябры прыбеглі: — Топіцца? А дзе?
Прарокі, што стаялі на віду,
саломінку не кінулі ў ваду.
Пасля ж усе разводзілі рукамі,
калі сябры на спрэчкі забывалі,
кідаліся на дно, і ратавалі,
і зноўку заставаліся сябрамі.

* * *

Ведаю: на мяне падобны хлапчук —
бацькаў — сынок, дзедаў — унук —
выскачыў з хаты на мароз
і снежку прынёс.
Я па-добраму пазайздросціў яму.

Гэты, па мяне падобны хлапчук,— Мішка
толькі па малюнках чытае кніжкі,
шкадуе ён дзеда, які вёз на возе
ліску і рыбу. І — згубіў іх па дарозе,—
і я па-добраму спачуваю яму.

Ён, на мяне падобны хлапчук,
сваволіць, майструе, па хаце бегае
і ўсё, што дзеецца на свеце, ведае,
гаворыць толькі праўду,
слухае — дык у вочы глядзіць адкрыта,
кожны дзень —
цэлы новы свет для сябе адкрывае.
А я сябе дакараю...

## ВОЛЬНЫЯ РЫТМЫ

### I

Пакуль шукаў цябе,
я доўга блудзіў
і ў трох соснах,
а цяпер,
калі крочу з табой па жыцці,
ні разу не заблудзіўся
нават у цёмным лесе.

### II

Чаму ў маёй мамы
так многа сумных песень,—
прашу,
не пытайце
ніколі ў яе.
Вы лепей
прайдзіце за ёй следам
(нібы па сваіх справах),
калі яна ў лес ідзе
вясной,

як закукуе зязюля,
і паслухайце не кукаванне зязюлі,
а матуліны песні,
і вы зразумееце,
чаму яны такія сумныя:
гора ўдавы-салдаткі
не пахавана
у курганах мінулай вайны.

### III

Ад праліўнога ліўня
схаваў мяне стог сена,
у які я,
як мядзведзь у бярлогу, залез,
сагрэўся і моцна заснуў.
Пах сена быў такі хмельны і цёплы,
нібы грудзі твае.

### IV

Дзед Пятрусь
па маладзіку і дыханню зямлі
заўсёды
дакладна прадказваў пагоду,
гаварыў,
калі трэба сяўбу пачынаць.
З навукамі дзед
быў зусім незнаёмы,
а вяскоўцы сцвярджаюць:
ён быў чарадзеем вялікім.

6 Зак. 2089

## V

Як пахне ралля вясною!
Мацней за віно старое
хмеліць яна галаву.

## VI

Зямля не стамілася
кожны год быць цяжарнай,
нараджаць дзяцей —
важкія каласы:
кожнае зерне — працяг жыцця.
А гэта — бессмяротнасць.

## VII

Гурбы снегу —
белыя вазы сена —
стаяць цэлую зіму без руху
на адным і тым самым месцы.
А зямлі
трымаць іх зусім няцяжка —
вельмі цёпла пад вазамі такімі!

## VIII

Аб тваёй прыгажосці
нават у нашай вёсцы
хадзілі самыя розныя чуткі.
Калі ты іх не чула,
шчыра павер:
знайшліся людзі, якія
зайздросцілі мне.

## IX

Я да прыгажунь прыглядаюся.
І калі б ты мяне
не чакала дома,
я адной бы з іх абавязкова
сказаў бы адразу:
— Люблю! Будзь маёй жонкай!

## X

Кожная малая сцяжынка,
якая згубілася ў лузе,
зарасла травой,
і таму па ёй
рэдка ходзяць людзі,—
усё роўна марыць
дарогаю стаць.
А хіба хто хоча
невядомым застацца?

## XI

Вецер хоць бязногі і бязрукі,
ды здольны
адчыніць любыя вароты,
а я — чалавек хоць і смелы,
хаджу па зямлі,
маю ногі і рукі,
толькі твае вароты
вось ужо столькі гадоў
не магу адчыніць.

## РОЗДУМ

### I

Даверыўся... Што значыць мой давер?
Слабым зрабіўся ці бездапаможным?
Пражыў з табой гады. І ты цяпер,
Магчыма, мне ўсё растлумачыць зможаш?
Чаму шуміць трывожна так аер?
Як на дарогу выйсці з бездарожжа?
Няпроста на прасцяг шырокі выйсці —
З дрэў лістапад зрывае жаўталісце.

### II

Напіўшыся ўдосталь сінявы,
Настоенай на сонцы ў паднябессі,
У сэрцы зноўку песні ўваскрэслі
І паляцелі, нібы журавы.
Яны, аблюбаваўшы паплавы,
Да круч Дняпра сваю любоў прынеслі.
Я тут стаю. І сіняву п'ю зноў я —
Вярнуўся вырай мой у Прыдняпроўе.

### III

Камусьці іншаму і я магу дарадзіць,
Паспачуваць і вынесці прысуд,
Магу прынесці чалавеку радасць,
Як самы найвялікшы з цудаў цуд.
Адно: ніколі не магу я здрадзіць
У дружбе, з кім з'еў солі цэлы пуд.
Бо для мяне яна за ўсё свяцей —
Такая ўсмешка першая дзяцей.

## IV

Мінулае не вернецца назад,
Было — сплыло вясеннім крыгаходам.
У гнёздах — піск маленькіх птушанят
І абнаўленне кожны год прыроды.
З тугіх, у глебу кінутых зярнят
Праклюнуліся новыя усходы.
Гляджу на плынь імклівую вады —
Мае назад не вернуцца гады.

## V

Сказаў філосаф: у адну і тую
Ваду два разы нельга увайсці.
Я згодзен з ім і болей не спрабую
Адмовіць гэту ісціну ў жыцці,
І простую, і мудрую такую:
Што я згубіў, ніколі не знайсці,
Тым болей — хочаш гэта ці не хочаш,
А згубленае не паўторыш двойчы.

## VI

А мне не трэба спачуванні,
Яны вярэдзяць мне душу,
І непатрэбныя пытанні
Не задавайце — вас прашу.
Яшчэ жыве маё каханне,
Яго у сэрцы я нашу.
Не трэба гэтаму дзівіцца:
Рунь нават восенню кусціцца.

## VII

Завеі замялі, а воды змылі той след,
На кронах дрэў пагаснула зара.
Мне бачыцца ўначы далёкі водсвет
Пакінутага мной даўно кастра.
І чуецца трывожнай птушкі посвіст:
Пяро ўраніла — не знайсці пяра.
Туга і сум яшчэ мне сэрца раняць,
Жыву сустрэчай прамяністых раніц.

## VIII

Касцёр, які нас саграваў у слоту,
Застаўся у мінулым, адгарэў,
Развеяў вецер попел яго потым,
Каб варушыць яго я не пасмеў,
Прыйшоўшы з успамінамі, употай,
Сюды адзін, дзе толькі гоман дрэў.
А памяць — спадарожніца жывая —
І праз гады цяплом тым саграває.

## IX

Як лёгка слова вымавіць «люблю»!
А я яго так вымавіць баюся.
Калі ў любві Радзіме прызнаюся,
Навек ёй клятву вернасці даю.
Я за яе ў баі не пахіснуся,
Грудзьмі сваімі засланю зямлю.
А хто «люблю» бясконца паўтарае,
Той здраду гэтым словам прыкрывае.

## X

Навошта папрасіла прабачэння
Праз многа лет і столькі многа зім,
Калі яно ніякага значэння
Не мае для мяне цяпер зусім?
Ці мо спакою не дае сумленне
І што рабіць не ведаеш ты з ім?
Я не жадаю бачыць тваіх слёз,
Як позна перайначыць табе лёс!

## XI

Назад вярнуцца проста немагчыма,
Прайшоўшы загады нямала вёрст.
І гэтаму, вядома, не прычына
Ні бурны крыгаход, ні мой узрост.
Два берагі — дзве розных далячыні —
Цераз Дняпро злучае новы мост.
А мост стары, што ненадзейным быў,
Даўно з вясновым крыгаходам сплыў.

## XII

Я не трымаю лодку на прыколе,
Перавярнуўшы кверху яе дном,
І супраць хваль, а не па іхняй волі
Плыву, іх рассякаючы вяслом.
Мінулым днём я не жыву ніколі,
Я кожны дзень жыву наступным днём.
Калі вяслую, значыць, я плыву,
Калі працую, значыць, я жыву.

## XIII

Той снег, што вабіў чыстай белізной,
Прасотаны, ў лагчынах захаваўся,
І колер у яго зусім не той,
Ад снегу толькі назва засталася.
І раптам закружыўся нада мной
Снег красавіцкі не зусім па часу,
Аб чысціні напомніўшы сваёй,—
На дол упаўшы, ён растаў адразу.

## XIV

Куды б далёка ні закінуў лёс
(Сябры ў мяне усюды ў родным краі),
Заўсёды бачу я святло бяроз,
Якое нат і ў цемень не згасае.
Бярозы, сэрцу мілыя да слёз,—
Без іх я Беларусі не ўяўляю,
Куды ні глянь — бярозавае ўлонне.
Зямная шыр нібыта на далоні.

## XV

І калі будзе суд апошні той,
Багам адкрыта я у вочы гляну,
Не пакрыўлю ніколечкі душой,
Утойваць я грахі свае не стану,
А выкладу усе іх без падману.
Калі б свой век анёлам я пражыў,
Ніколі б я на свеце не любіў.

## XVI

Не дзеля славы (слава — проста дым,
Калі ты на яе не маеш права)
Хачу апець любоў радком такім,
Каб ты ў расінцы ўбачыла яскрава
Вялізны свет, дзе ты часцінка ў ім —
Жывая непадробленая ява.

## ВІТАЛЬНАЕ СЛОВА

Маё сэрца радуй,
Ліся, дождждык, падай
На лясы —
грыбасеем,
На жыты —
дабрадзеем,
Для людзей —
чарадзеем!
Хай карміцелька-зямля
Залікуе молада,
Не шкадуй для яе
Кропель-золата!
Яе ўдосталь напаі,
Спёку поўдня
Ты ўталі!
Падай, дожджык, з вышыні,
Абрасі ўсе сцежкі
І не бойся ані-ні —
Ты не разаб'ешся:
Лістамі-далонямі
Цябе дрэвы зловяць,

Словамі добрымі
Людзі ўспомняць.
У мяне такі настрой,
Нібы сонца ў вокнах,—
Я стаю
Пад табой,
Не баюся змокнуць.
Я цябе лаўлю ў далоні,
П'ю, як хмельнае віно,
За цудоўнае «сягоння»,
За далёкае «даўно».
Ліся, дождж ык, падай,
Маё сэрца радуй!
І я радасны такі,
Хоць пускайся ў скокі,
А прастор, прастор які —
Вольны і шырокі!
Цёплым дождж ыкам грыбным
Ён увесь абмыты,—
Зноў сябе
Маладым
Я адчуў нібыта.

## ПЛАЧ ЯРАСЛАЎНЫ

### Вольны пераклад

Шэраю зязюлькай рана-рана
над Дунаем — сіняю ракой —
чуцен голас —
плача Яраслаўна
на сцяне ў Пуціўлі раніцой:
— Узнімуся я зязюлькай беднай
на Дунай шукаць сваю вясну

і ў рацэ Каяле, чыстай, светлай,
свой рукаў бабровы абмакну.
Там, у стэпе, дзе пажухлі травы,
дзе спачыла доблесная раць,
вытру князю дарагому раны,
што на целе воіна смыляць.
У каго вайна навек забрала
самых блізкіх, дарагіх людзей,
тым праз слёзы кажа на забрале
Яраслаўна не кідаць надзей:
— Вецер, вецер! Мой вятрыска любы,
самы наймагутны ты такі
і чужыя стрэлы на загубу
не нясі на рускія палкі.
Аднясі, адкінь убок далёка,
толькі смерць, прашу цябе, не сей.
Узнііміся лепей пад аблокі
і развей іх, чорныя, развей!
Ці ж табе, скажы, прастору мала
караблі па сіню моры гнаць,
на свабодзе грозна вал за валам
лёгка, як пушынку, узнімаць?
Буду я навек табе удзячна,—
ці ж не чуеш горкіх слоў маіх?
Ой, чаму маё развеяў шчасце
па гарачых кавылях густых?
Над Пуціўлем чорныя зарніцы,
сохне ад гаручых слёз трава:
кожны ранак беднаю зігзіцай
Яраслаўна плача, бы ўдава:
— О, Дняпро Славуціч!
Ты адзіны,
хто прабіў праз горы ў стэпы шлях,
ты насіў на быстрацечнай плыні
Святаслава з войскам на чаўнах.
Нёс яго да Кабякова стану

і дадому з перамогай нёс.
Прад табою на калені стану
і за твой маліцца буду лёс.
Выйду князя сустракаць на строму,
кінуся на шыю, абдыму,
толькі ты вярні яго дадому,
каб не слала горкіх слёз яму.
І калі на зоры ледзь займае,
ледзь заранка зыркая мільгне,
Яраслаўна слёзы не ўцірае,
у Пуціўлі плача, на сцяне:
— Сонца! Тройчы слаўнае! Адно ты
дорыш людзям ласку, цеплыню,
ці ж маёй не бачыш адзіноты,—
я не рада ні табе, ні дню?
Я далей трываць зусім не ў сілах,
не магу на неба я глядзець.
Сонца, сонца! Што ты нарабіла,
стала ўсё чырвонае, як медзь?
Злосным, невыносным і пякельным
ты чаму зрабілася такім?
Нібы зачарованае,
вельмі
памагаеш полаўцам чужым?
Ці ж табе не страшна бачыць мукі
воінаў, якіх ты абпякло
і скруціла смагаю ім рукі,
калчаны заткнула, як назло?

* * *

Усплёск травы — зялёнай хвалі.
Спеў гаманкога ручая.
Пясчаны плёс.
І не хавалі
сваіх пачуццяў. Ты і я.
Здавалася, нас немагчыма
разліць ніякаю вадой.
(Туман, сплываючы ў лагчыны,
цадзіўся, нібы сырадой.)
Зацалаваныя да згубы,
пякельныя, нібы агонь,
шапталі губы:
— Любы! Любы!
Не цісні моцна так далонь!
І ты была ў хвіліны тыя
надзеяй ад усіх надзей:
два сэрцы — птушкі трапяткія —
аж вырываліся з грудзей,
пакуль нарэшце не зліліся
яны ў адно сэрцабіццё,
і рукі ў поцісках спляліся,
ды не на доўгае жыццё,
на той адзіны толькі вечар...
Куды ты дзелася пасля?
...Але не канулі у вечнасць
усплёск травы, спеў ручая.

* * *

Там, за Дняпром, мястэчка Копысь,
Там сена каля хат стажкі.
І пахла кменам. Пахла кропам.
Там у старых, з вайны, акопах
Ляжалі ціха хлапчукі.
Ляжалі па-над кручай козы.
На тым жа беразе адна
Жанчына мыла свае косы,
Пасля купалася яна.
Я не паплыў на бераг той,
Мне хораша было з табой.

* * *

Каля майго ганка,
Як вада ў далонях,
Працякае рэчка
Прыгажуня Проня.

Выйду я уранку,
Радуецца сэрца:
Зачарпну вады я
Поўнае вядзерца.

Калі ж у вядзерца
З чыстаю вадою
Зачарпну я зорку,—
Будзеш ты са мною.

Самаю шчаслівай
Буду я на свеце,
Залацінка зорка
Мне праменна свеціць.

П'юць вадзіцу ў Проні
Чырвоныя коні:
Раніцой — усходы,
Вечарам — заходы.

* * *

Цябе прасіць: адумайся, вярніся,
вунь ластаўкі вярнуліся назад
і лепяць гнёзды — толькі падзівіся! —
пад вільчыкамі хат?
Крычаць услед: куды ідзеш? Спыніся!
Адна дарога, а сцяжынак шмат.
Куды ідзеш? Ты толькі азірніся —
сляды замёў штодзённы лістапад.
Спяшаеш — а куды? — ў сябе пытаеш?
Не хочаш азірнуцца, уцякаеш
з якой нагоды? Радасці? Бяды?

Так крышацца вясной на рэках льды.

* * *

Як сказаць табе, што забудзецца,
На каліне жар той астудзіцца
І астудзіцца жар на губах?
Разлюбілася — не палюбіцца,
Там, дзе ходзіш ты, сцежка згубіцца —
Перш у травах, пасля — у снягах.
Не шукай яе — больш не знойдзецца,

Не хадзі па траве — дужа росіцца,
Рэха гулкае не пытай:
Адгукнецца тым, чым агукнецца,
У асініну горкую стукнецца,
Разаб'ецца, як ні жадай.

* * *

*Лідзе Пладухінай*

Ноч. Ні шораху. Ні кроку.
Ні трывогі журавоў.
Ціха
ў лістападных змроках,
і заўжды навідавоку
толькі водбліскі кастроў,
сэрцу блізкіх і далёкіх
з пахам бульбы і грыбоў.

Хто
ў кустах на мяккіх лапках
прабіраецца тайком?
Дрожны дожджык ледзьве крапае
над запаленым кастром,
каб пагрэцца перад сном.
Холадна. Яму не спіцца.
І не ўспыхне бліскавіца,
і не грымне з хмары гром —
цішыня кругом.

* * *

> Дай пожить мне, дай покрасоваться...
> *П. Васільеў*

Яблынька шаптала ціха ветру:
— Не зрывай майго, вятрыска, квету —
Дай мне часу ім палюбавацца,
Дай пажыць мне, дай пакрасавацца!
Гаварылі краскі лугавыя:
— У вянку мы будзем не такія,
Мы завянем, станем асыпацца,—
Дай пажыць нам, дай пакрасавацца!

Ой, сказаў мне чарнабровы хлопец:
— Халастым я нахадзіўся, хопіць!
Па табе, Алена, сэрца вяне,
І хаджу я быццам бы ў тумане,
Свету я не бачу — ты зацьміла,
Без цябе зрабіўся ён нямілы,
Я табе адной хачу прызнацца:
— Дай пажыць мне, дай палюбавацца.

Ой, прызнанне, што ты нарабіла?
Я сваю галованьку згубіла,
З яблыні пялёсткі сталі падаць,
Лугавыя краскі сталі вянуць.
Што рабіць мне і куды падацца?
Як, каханне, ад цябе схавацца?
Песні я не ўсеераспявала,
На вячорках трэба нагуляцца.
Мусіць, сэрца праўду падказала:
— Трэба мне яшчэ пакрасавацца.

З кнігі

# «ПЕСНІ МАЦІ»

(1970—1980)

* * *

Вазьмі ручнік мой, сыночак мілы,
Яго саткала, зімой — бяліла,
А вечарамі яго вышывала,
Як вышывала, ночы не спала.
Хацела вышыць васілёк сіні,
Ён адзінокі, як ты, мой сыне,
Хацела вышыць жытнёвы колас,
Каб поля роднага слухаў ты голас,
Хацела вышыць на ім суніцы,
Каб май зялёны уночы сніўся.
На ручнік самі пеўні прыселі,
Як іх ні гнала, яны не зляцелі.
Цябе разбудзяць яны уранку,
Напомняць, сыне, аб родным ганку.

* * *

Ляцелі гусі, белы ляцелі,
На голым лузе гусі не селі,
Не селі гусі, не палі гусі
На голым лузе, на голым лузе.
А я чакала, прагледзела вочы,
Калі ж дадому прыедзеш, сыночак,
Сыночак любы, сынок мой мілы,
Дзе твае крылы, дзе твае крылы?
Няўжо паспеў іх ты надламіці,—
Белыя гусі, маці скажыце,
Скажыце праўду, шчырую праўду.
Сыночак любы, мяне парадуй,
Прыедзь уранку ці апаўночы,
Я праглядзела сумныя вочы.

* * *

Не заходзь, ясны месячык,
За лес цёмны,
Не хавайся, ясны месячык,
За чорныя хмары,
Не тапіся, ясны месячык,
У віры глыбокім,
Свяці, ясны месячык,
Над далёкай дарогай,
Каб не збіўся мой сыночак,
Ідучы дадому.

* * *

Скажы, зязюля, шэра зязюля,
Чаму кукуеш ты пад акном?
Скажы, зязюля, каб дзеткі не чулі,
Дзе спіць іх бацька адвечным сном?
Скажы, зязюля, чаму ты плачаш,
Чаму не хочаш ты мне сказаць?
Чаму, сястрыца, слёзы гарачы
Ад тваёй песні нельга стрымаць?
Зязюля кукуе, мяне не чуе,
А я, ўдавіца, адна гарую...

* * *

Ой, зялёна дуброва, чаму не шуміш ты?
Чаму не шуміш ты сваім буйным лістам?
Чаму ты, дуброва, не спяваеш песні,
У гняздзечках цёплых птушачак не песціш?
Чаму ты, дуброва, рана адшумела,
Не ў пару густое лісце абляцела?
Зашумі, дуброва, заспявай, дуброва,
Як вясной гуляла дзеўка чарнаброва,
Касу заплятала, у ручай глядзела,—
Чаму ты, дуброва, рана адшумела?

* * *

— Дзе ты, Ганупя, ночку гуляла?
— У цёмным лясочку долю шукала.
— Чаму галасок свой не падавала,
Калі ў лясочку долю гукала?

— Я не хацела, каб людзі пачулі,
Каб не сказалі табе, матуля.
— У цябе, Ганупя, шчаслівая доля,
Ніяк ад хлопцаў няма адбою.

— Павер, матуля мая дарагая,
Сэрца нікому не аддала я.

* * *

Стукнулі, грукнулі капытамі коні,
Стукнулі, грукнулі коні пад акном.
— Паглядзі, матуля, сталі вараныя?
Запрасі, матуля, госцейкаў у дом.

— А чаму ж ты, доня, ўчора не сказала,
Калі чыста ў хаце зранку прыбірала?
— Не хацела, мамачка, турбаваць,
Выйдзі лепш нагадана госцейкаў вітаць.

* * *

Вясною пявала ў зялёнай дуброве
Птушка-пявуння,
Птушка-пявуння песні дарыла
Сонцу і людзям.
А летам заціхнула птушачка раптам,
Пець перастала,
Хоць і не ўсе свае песні ў дуброве
Нераспявала.
Не дакарайце птушку за гэта,
Добрыя людзі,
Цесна ў гняздзе — нарадзіліся дзеткі,
Скончана песня.
Не спіцца пявунні ні днём, ані ночкай,—
Я разумею,
Хочацца песню ёй зноў заспяваці,
Ды вельмі ўжо позна:
Птушка спявае (ведаю добра)
Да вываду дзетак.

* * *

І не восень я запрыкмеціла,
не лісток сарваў вецер з раніцы,
запрыкмеціла цябе, сонейка,
ад мяне часцей ты хаваешся —
то за хмараю, то за воблачкам
ад мяне часцей ты хаваешся.
Яшчэ жыта ўсё не дажала я,
а дажаць яго я спяшаюся,
я спяшаюся, добра ведаю:
не дажну ў пару, дык асыплецца.

Жыта буйнае, каласістае
не дажала я, не дажала я.
Запрыкмецілі, як спяшаюся,
людзі добрыя і нядобрыя,
запрыкмецілі, як гляджу заўжды,
што хаваешся, маё сонейка.
Ад мяне заўжды ты хаваешся
то за хмараю, то за воблачкам.
На цябе зусім не крыўдую я,
яшчэ жыта ўсё не дажала я.
І прашу цябе, маё сонейка,
не хавайся ты, не хавайся лепш
ні за хмараю, ні за воблачкам,
а свяці, свяці — няхай ведаюць,
што да восені яшчэ часу шмат.

* * *

А чый гэта конік пад дугой,
Як віхор, праімчаўся?
А хто гэты коннік — махнуў рукой
І за клубамі пылу схаваўся?
Не разгледзела я, не разгледзела я
Ані конніка, ні каня.
А чаму, мой конік, не бяжыш,
Грызеш цуглі?
На каго ты, коннік, так глядзіш,
Скажы, каб пачулі.
— Забяру, матулечка,
Я тваю Ганулечку.

## ПРАЛА Я КУДЗЕЛЮ

Да самай нядзелі
Прала я кудзелю.
Ой!
Позненька сядзела.
У акно глядзела...
Ой!
Ды прыйшоў мой хлопец:
— Ты прабач мне, хопіць!
Ой!
Каб вы паглядзелі —
Выхапіў кудзелю!
Ой!
Пачаў абдымаці,
Мяне цалаваці,
Ой!..
Ой, мая нядзеля!
Ой, мая кудзеля!
Ой!..

* * *

Што рабіці з горам, я не прыгадаю,—
ходзіць за мной следам, сонца засцілае,
не дае праходу, не дае спакою,—
і навошта, гора, ходзіш ты за мною?
Адказала гора:
— Ад мяне не збыцца,
буду тваім братам, ты — маёй сястрыцай.
Павяла я гора у лясы сухія,
кінула яго там, думала — загіне.

А яно сцяжынку ў лесе адшукала,
мяне ў дарозе — глянула — дагнала.
На балоты гора павяла гнілыя,
думала — ўтапіла, думала — загіне.
Выбралася гора з тых гнілых балотаў,
ходзіць за мной следам, не дае праходу.
Ёсць адно яшчэ выйсце, паспрабую выйсці,
трэба, пэўна, гора у палі мне весці.
А яно таксама па-над лугам, ярам
узмахне крыламі ў сонцы ясным, ярым.

* * *

Пасадзіла садочак — людзі пахвалілі,
Расцвіў мой садочак — людзі дзівіліся.
Даспелі яблыкі — людзям дарыла,
Людзі елі яблыкі — дзякуй сказалі.
Цвіце мой садочак кожнаю вясною,
А восенню шчодра ён пладаносіць.
А чаму ў мой садочак салавей не пасяліўся?
Стаю пад яблынькай, думаю-гадаю,
Думаю-гадаю, галаваньку ламаю...

* * *

Лепей бы ячмень той ды курам скарміла,
Ой, навошта піва з яго наварыла?
Наварыла піва — мядку саладку,
Гасцей пасадзіла — у красным кутку.
Кварты ўзнімалі — ды хвалілі піва,
А хто наварыў, не спыталіся.

* * *

Зелен дубочак адзін у лузе
Да вады нахіліўся.
Мой Міхасёчак, дзе твой слядочак,
Дзе загубіўся?
Шэрай зязюляй лячу на дубочак,
Сяду, кукую,
Людзі ўсе чуюць мой галасочак,
А ён не чуе.
Можа, ты скажаш, дзе спіць мой любы,
Сыра зямліца,
Я адшукаю яго магілу,
Бедна ўдавіца.

* * *

— Ты чаму не жэнішся, жаваранак звонкі?
Нельга жыць на свеце цэлы век без жонкі.
— Кожны дзень я ў неба узлятаю,
Кожны дзень я ў небе жонку шукаю.
А знаходжу там, у паднябессі,
Толькі песні.
— Ах ты, жаваранак, ах ты, небарача,
Па табе ж у жыце перапёлка плача.
А ты і не чуеш...

* * *

Ой, чаму ў рэчаньцы вада памутнела?
Там, на беражку крутым, дзяўчына сядзела,
Дзяўчына сядзела, у ваду глядзела,
У ваду глядзела ды слёзы ліла,
Яе слёзы горкія ваду замуцілі,
Ваду замуцілі, красу засмуцілі:
Белы свет зацьміўся, стаў нялюбы —
Прыйшла з фронту вестачка, што загінуў любы...

* * *

Ты не рві, буйны вецер,
На бярозе вецце,
А ты, люты мароз,
Красунечку не марозь:
Пад ёй на палянацы
Мілуюцца парачкі.

* * *

Чаму табе не спіцца, зара-зараніца,
Жніцаю руплівай ходзіш ты над нівай,
Хоць яшчэ пшаніца і не каласіцца?
— Я да сонца ўсходу люблю прахалоду,
Ніву аглядаю, сонца я ўзнімаю,
Каб яно свяціла, светлае свяціла.
Каб хутчэй пшаніца змагла закаласіцца,
Нездарма ж завуць мяне зара-каласяніца.

* * *

Ой, коціцца, коціцца туман па даліне,
Ой, хочацца, хочацца пагуляць дзяўчыне,
Ды маці не пускае:
— Ты, дачушачка, мая птушачка,
не хадзі ў туман,
Не хадзі у туман, бель-туман — падман,
Не відаць белу свету.
У тумане густым ты заблудзішся,
І да раніцы там ты згубішся,
Я да раніцы не звяду вачэй.
Ой, коціцца, коціцца туман па даліне,
Ой, просіцца, просіцца ў маці дзяўчына,
Маці суцяшае:
— Адпусці мяне, я доўга гуляці не буду,
Далёка ад хаты не адыдуся,
Туман мае шчочкі выбеліць,
А Іванка да сэрца прытуліць.

* * *

Усе хмарачкі ды па парачцы —
Вецер не разгоніць,
На мяне маладу дома сварацца —
Ніхто не разлучыць.
Усе хмарачкі ды па парачцы
Плывуць вольна,
Не вучы, як жыць, мая мамачка,
Мяне толькі.
Усе хмарачкі ды па парачцы —
Глянуць гожа,
Забяры мяне, любы Яначка,
Хутчэй з дому.

* * *

Прыходзьце, людзі, ў маю свяцёлку,
Ніхто не лішні, хто за сталом,
Яе вы самі мне збудавалі,
Чыстыя вокны глядзяць на ўсход.
Добрыя людзі, дзякуй прыміце,
Што не забылі мяне, удаву,
Сонца ў свяцёлку маю пасялілі,
Сонца на покуце села, як госць.
Прыходзьце, людзі, ў маю святліцу
І паглядзіце, як я жыву.
Хто пагардуе хлебам і соллю,
Ворагам будзе заклятым маім.

* * *

Ветру ў полі не гукай —
Не адгукнецца,
Долю ў лесе не шукай —
Не знойдзеш.
Лепш у сэрца запытай,
Каго любіць,
Шчасце ходзіць за табой
Непрыкметна,
Агляніся і пакліч —
Яно прыйдзе:
Па табе хлопец адзін
Сохне-вяне.

* * *

Разляцеліся птушаняткі
На белым свеце,
У цёплым гняздзечку не захацелі
Зіму зімаваці.
Пустуе гняздзечка — родная хатка,
Іх першая песня,
Якую яны праспяваць не паспелі,
Яшчэ не паспелі,
А паляцелі ў вырай далёкі,
Да сіняга мора.
Расціла, як птушка, і я сваіх дзетак,
Ночы не спала,
Цяпер вось чакаю, калі яны зноўку
Дамоў завітаюць,
Гляджу на дарогу, ці заклубіцца
Пыл на дарозе...

* * *

У цёмным лесе сонца не свеціць,
У цёмным лесе заблудзіць магу,
У цёмным лесе — горкая доля,
Ой, не хадзі ты у лес, мая доня.
Хадзі ты, доня, у гай зялёны,
Спяваюць птушкі — і гай вясёлы.
Паслухай, доня, сваю матулю,
Там шэра зязюля табе накукуе
Светлую долю, доўгія годы,
Толькі хадзі ты у гай заўсёды.

* * *

Пытала жніца — краса-дзявіца —
У спелага жыта:
— Скажы мне, жыта, густое жыта,
Што мне рабіці — прыйшла губіці
Красу тваю, жыта.
Вось твой браточак — востры сярпочак,
Сэрца са сталі.
Востры сярпочак любіць снапочак,
Кладзе ў радочак.
Я буду жаці, ён будзе спаці,
Нібы дзіцятка.

* * *

Калі з табою — сонца зімою,
Калі з табою — рай на зямлі,
Неба высокае над галавою,
А ў небе птушкі песні звілі.
Калі з табою — рака з вадою,
Поўныя, поўныя берагі,
І не спазнаецца з ліхам-бядою.
Свет неабдымны, свет дарагі.
Мне не патрэбна, калі з табою
Нічога ў свеце, мой дарагі,
Было б толькі неба над галавою,
Спявалі дубровы, цвілі лугі.

З кнігі

# «СЛОН ПАД МІКРАСКОПАМ»

(1977)

## ПАВУК

Паклікаў Муху:
— Мілая суседка,
Вазьмі на памяць мужу
Невад-сетку.
Згадзілася. Сядзіць у сетцы
І рада б выбрацца з яе сама,
Але дарма.
Павук самаздаволена смяецца:
— Я не прасіў цябе
У сетку лезці,
Прасіў дамоў яе аднесці.

---

Мараль не толькі, Муха, зразумей:
Залезці ў сетку лёгка, выбрацца — цяжэй.

## ШЭРАНЬКІ КОЗЛІК

### Казка-быль

Шэранькі козлік
Быў у бабулькі,
Траўку не еў,
Еў цукеркі і булкі.
Бабулька козліка
Вельмі любіла,
Гладзіла рожкі,
Бародку хваліла.
Козлік не знаўся
Ніколі з бядою
І неўзабаве
Стаў з барадою.
Ходзіць цяпер ён
Такі барадаты,
Надта задзірысты,
Грозны, рагаты.
Нідзе не працуе,
Жыве у бабулькі
І па-ранейшаму
Любіць ён булкі.
П'е ён гарэлку
У рэстаранах.
Яго называюць
Казлом-хуліганам.
Часта бабульку
Брудна ён лае:
— Хлусіш, што пенсія
Надта малая.
Плача бабулька:
— Каб знала такое,
Пусціла б па свеце
Гуляці малое!

## КУРЫНАЕ ЗАХАПЛЕННЕ

— Ах, пеўнік мой, які сынок,—
На вуха
Шапнула Курыцы Квахтуха,—
Са шкарлупы зусім нядаўна вылез
І гэтак хутка вырас,
Спрабуе нават галасок!
Я не супроць,
Няхай свой талент развівае,
Магчыма, галасіста заспявае,—
З яго нядрэнны будзе толк.
Глядзі: ён пераскочыць плот ужо жадае,
А гэта ж вышыня такая!
Як кажуць, першы крок
Узняцца да аблок.
— Скажу табе, суседка, без падману,
Зарана
На ўсе сукі садзіцца твой сынок.
Не апярыўся ён, адзін пушок,
Яму вучыцца трэба, недарэку,
Прамовіць напачатку: «Ку-ка-рэ-ку»,—
Без захаплення і прыкрас
Сказала Курыца Квахтусе у адказ.
. . . . . . . . . . . . . . .
У гэтым сутнасць ёсць якраз.

## ДЗВЕ ЛІСЫ

— Сяброўка, дзе дастала футра ты такое? —
Спыталася Ліса ў Лісы.—
Скажы мне праўду, не хлусі.
Дзе мне набыць цаной любою?

Куплю адразу. Ты скажы,
Яно, напэўна, з-за мяжы?
Ах, прыгажосць якая!
Здзівілася Ліса другая:
— Ці ж у цябе не дарагое
Футра? Ну, скажы, не так?
Уласнае, сваё. Табе ж — давай чужое,
Цябе не зразумею я ніяк...
— Не, мне замежнае да твару,
Я з нараджэння аб ім мару,
І ўсё-такі яго дастану,—
Бо будзе воўку люба глянуць!
Праходу не дадуць нідзе:
«Ліса ў замежным вунь ідзе!»

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Сярод людзей размовы чуў падобныя.
Так ім скажы,
Што лапці з-за мяжы,
Яны і скажуць: «Вельмі модныя!»

## ЭТАЖЭРКА І ЛЮСТЭРКА

На этажэрцы класікаў тамы
Стаялі сціплыя перад люстэркам.
Быў кожны том, нібы нямы,
Затое фанабэра Этажэрка
Глядзелася, не зводзіла з сябе вачэй
І кожны раз Люстэрку гаварыла:
— Я кнігам шчасце падарыла.
Трымаю іх, нібы сваіх дзяцей,
Якіх на шчасце нарадзіла...
І вось цяпер стаю на першым плане;
Заўважыць кожны, кожны гляне...

Так на сябе глядзець прыемна!
— А дарэмна,—
Зазначыла спакойна ёй Люстэрка —
— Сябе ты толькі любіш, Этажэрка!

## СВІТЭР І МОЛЬ

— Ах, Світэр! Ты — адзін у цэлым свеце!
Цябе даўно я маю на прыкмеце,
Уцеха ты адзіная мая!
Лічы, навек сяброўка я твая,—
Моль шчодра сыпала прызнанні
І абяцанні:
Салодкія, зычлівыя, нібы мядок!
А потым незнарок
У Світэр — скок!
Зашылася, сядзіць,
І толькі галасок адтуль ґучыць:
— Не перастану я цябе любіць,
Ніхто з табой не будзе так дружыць!
Ды Світэру ўсё стала зразумела,
На жаль, тады, калі ўжо Моль яго праела.

## САЛАВЕЙ І ВЕРАБЕЙ

Чырыка-Верабей да Салаўя з'явіўся
(У гэтым дзіўнага няма нічога тут),
Паляпаў па плячы:
— На строгі суд
Прынёс табе я песень цэлы пуд.

Чаму, дружок, за сэрца ты схапіўся?
Відаць, стаміўся?
Прыляж на ложку — і
Адпачні,
А я табе тым часам прапяваю,
А ты мяне як трэба ацані.
І больш я ад цябе нічога не жадаю.
Бо — як-ніяк, ты — мой сусед,
А мне патрэбен твой аўтарытэт,
Вядома, талент падтрымаць...
І Верабей пачаў спяваць.
Наш Салавей не змог заснуць да рання,
Нарэшце Вераб'ю сказаў на развітанне:
— Што мне рабіць,
Калі цябе не пахваліць?
Скажу усім — ёсць у цябе прызванне!

## АЎТАПАРТРЭТ

Мы ўсе мастацтва разумеем
І ацаніць умеем
Яго як след.
. . . . . . . . . . .
На выстаўцы ў адным музеі
Сярод
Вядомых на ўвесь свет работ
Экспанаваў сваю карціну Кот
«Аўтапартрэт».
Нічога незвычайнага у гэтым мы не бачым,
Але, па сутнасці, зазначым:
Аўтарытэту
Кот не дабіўся са свайго аўтапартрэта,

І не таму,
што подпіс пад карцінаю Яго стаяў, —
...Аўтапартрэт Кот з Тыгра маляваў!
. . . . . . . . . . . . . . .

Сябе магутным імем не праславіш,
Калі свайго не маеш.

## МОХ І ДУБ

Спачатку пасяліўся ля камля,
Пасля на дрэва узабраўся,
Як да вяршыні самае дабраўся,
Сказаў:
— Цяпер я —
вышыня.
Магу я дарасці аж да нябёс:
Да самае далёкай зоркі.
Ды Дуб зазначыў горка:
— Шаноўны Мох,
Я для цябе зрабіў усё, што мог,
Але да зорак і нябёс
Пакуль што сам я не дарос.

. . . . . . . . .

## ШАФЁР І ЛІСА

### Сучасная казка

Дачуўшы, што рыбакі рыбгаса
Багаты свой улоў пагрузяць у машыну
І павязуць у магазіны,
Ліса тым часам

Пабегла на дарогу — бац! —
і нібы мёртвая ляжыць.
І неўзабаве вось машына па шашы імчыць.
Шафёр, убачыўшы Лісу,
нікольki не здзівіўся,
А прыглушыў матор, спыніўся:
— Вось дык знаходка!
Жонцы мне цяпер
Не прыйдзецца купляць каўнер.
Дастаў ён трос, пятлю зрабіў
І шыю ўраз Лісе здавіў,
Пасля, ўсміхнуўшыся, зазначыў:
— Мяне, Ліса, як бачыш,
Не правядзеш,
Старою казкаю жывеш!

З кнігі

# «ЮБІЛЕЙНЫЯ БЛІНЫ»

(1984)

## ІГОЛКА

З любой нагоды колка
Адносілася да людзей іголка.
Хвалілася:
— Я вострая, як і мае ўсе сёстры,
Трымай са мною вуха востра!
Таму шануй і памятай:
Мяне рукою голай не чапай,
Іначай не мінуць бяды.
І сапраўды:
Бяды ніхто не меў, а непрыемнасць мелі
Не ўсе, вядома: толькі тыя, хто
Ёй дагадзіць не ўмелі
Ці проста не хацелі.

## ДУБ І СЛУП

— А мы цяпер з табой калегі, Дуб,—
Зазначыў Дубу Тэлеграфны Слуп,
Які нядаўна укапалі сувязісты.
І Слуп працягваў усур'ёз:

— Аднолькавы у нас з табою лёс,
Глядзі, як я ў зямлю глыбока ўрос,
Хоць і не маю кроны густалістай.
— Ну, вось яшчэ калега мне знайшоўся!
Звычайны Слуп! Вы гляньце на яго.
Як кажуць, многа мух у носе,
І толькі усяго.
Я — справа іншая зусім,
Карэнні ў глебу запусціў глыбока,
Стаю магутны, п'ю зямныя сокі
І пражыву яшчэ сто лет і зім,
Красуюся навідавоку —
Усім відзён і зблізку і здалёку.

---

Калегі між сабою гаварылі многа
І кожны раз
Сябе ўсё выстаўлялі напаказ.

## НА СХОДЗЕ І ПАСЛЯ

На сходзе рэдка выступаў Сахаты.
Таму звяры —
Лясныя жыхары,—
Заўсёды
Пасля сходу,
Ідучы дахаты,
Разбіўшыся на групкі дзве ці тры,
Яшчэ працягвалі дэбаты:
Кагосьці ганьбілі, кагось хвалілі
І вывады рабілі:
Начальнік іх Мядзведзь,

Хаця працуе цераз пень-калоду,
Гарой стаяў за крытыку на сходах,
Але ў душы не мог яе цярпець:
Тых, хто яго крытыкаваў,—
Звальняў.
Таму, нібы ў чым-небудзь вінаваты,
Не выступаў Сахаты —
Ён іншых слухаў, сам маўчаў.
Маўчаў, вядома, да пары.
І вельмі ўжо здзівіліся звяры,
Калі аднойчы іх маўчун-ціхоня
Пасля даклада, што Бабёр зрабіў,
У спрэчках першым слова папрасіў
І выступіў у надта рэзкім тоне.
Спачатку ён прайшоўся па дакладу,
Пракаменціраваў з яго цытату:
— Вось факт канкрэтны вам, сябры,
Не лічбы — пухіры:
Цікава ведаць мне: адкуль яны узяты,
Скажы нам, калі ласка, Касалапы,
Ці не з уласнай высмактаў іх лапы?
Або вось факт зусім інакшы:
У кіраўніцтве нашым
Памочнік у Мядзведзя хто?
Бабёр-дакладчык?
Скажу па шчырасці, пранырa дужа лоўкі:
Займаючыся лесанарыхтоўкай,
Найлепшы лес папілаваў
І ў возеры сабе адгрукаў дачу,
А старую прадаў.
Скажы, шаноўны наш Мядзведзь,
Хіба такое можам мы цярпець?
«Сахатаму цяпер бяды не мінаваць,—
Пачалі ціхенька ў кустах звяры шаптаць,—
Зламаў сабе дзівак добраахвотна рогі».
Мядзведзь сядзеў нібыта на іголках,

Ды толькі
Стараўся не паказваць выгляд строгі,
Наадварот, за смеласць, красамоўства
Ён нават пахваліў прамоўцу:
— Вось прыклад вам, як трэба выступаць.
Іначай мала толку,
Не трэба крытыкі баяцца.
А зараз выступіць Ліса,
Ваўку падрыхтавацца.
— У крытыцы,— Ліса сказала,— сіла,
Але мяне здзівіла,
Што папярэдні наш прамоўца
Сахаты
Наводзіць цень на ясны дзень і сонца,
Станоўчага нічога ў нас не бачыць,
А гэта значыць,
Зняважыў ён не толькі наша кіраўніцтва,
А ўсё лясніцтва.
Так можа толькі адшчапенец выступаць,
А мы жадаем працаваць
Пад кіраўніцтвам вопытным Мядзведзя.
Прашу: паводзіны Сахатага разгледзець
І меры тэрміновыя прыняць.
З Лісою пагадзіліся і Воўк і Заяц, нават Крот.
Калі ж закончыўся той сход
І групкамі ішлі звяры дахаты,
Усе сцвярджалі: «Малайчына наш Сахаты!
І я... І я... І я, вядома, згодны з ім».

---

Чаму ж не выступіў на сходзе тым
Ты, падхалім?

## ЮБІЛЕЙНЫЯ БЛІНЫ

Усё ішло адменным самым чынам:
За дваццаць пяць гадоў
Кузьма Арцёмавіч, працуючы у «Бліннай»,
Падумайце, колькі напёк бліноў!
(Я проста для сябе зазначу:
З бліноў гара стаяла б, не інача́й.)
Ніякіх скаргаў на яго не паступала,
А пажаданні добрыя адны,
Накшталт такога, каб бліны
Былі, што называецца, блінамі:
Са свежаю смятанай, маслам, салам,
Як бачым, пажаданні за сябе гавораць самі.
А што датычыцца заўваг
Ці скарг,
То шчыра я прызнацца вам павінен:
Іх нават не было тут і ў паміне:
Прадукцыя заўжды навідавоку.
І справа не ў блінах,
А ў блінапёку.
Мяркуйце самі: як-ніяк,
А юбілей, аднак,
Бо дваццаць пяць гадоў — не жарты,
Адзначыць варта.
А на яго Кузьма Арцёмавіч забыўся,
На працу, як заўжды, з'явіўся
І цэлы дзень прадукцыю сваю даваў
Усім, хто паспытаць бліны жадаў.
У «Бліннай» калектыў рашыў
Ягоны юбілей адзначыць,
Пасля работы, значыць.
Рашылі — і зрабілі. Стол заслалі,
А на стале — гара бліноў.
Тост узнялі. Сказалі
Арцёмавічу многа цёплых слоў,

Хвалілі за бліны, ды есці іх не сталі.
І сам шаноўны юбіляр
Ад іх адводзіў твар.
Аднак было не сапсавана свята,
Адзначаны як трэба юбілей.
З кулінарыі хтось прынёс паўфабрыкаты,
І ўміг настрой прыўзняўся у людзей.

---

Што мне да гэтага дадаць яшчэ?
Кузьма Арцёмавіч не для сябе —
Для вас бліны пячэ.

## ПРЫЗНАЛІСЯ

Аднойчы Певень Гусаку прызнаўся:
— Я так сягоння наспяваўся,
Што голас свой згубіў, павер.
Які з мяне спявак цяпер?
— Хто? Ты — спявак?! —
Спытаўся здзіўлены Гусак,—
Маўчы лепш з талентам сваім,
Якім
Хваліцца, думаю, не варта.
— Ты гэта што — ўсур'ёз ці жартам?
— Сур'ёзна гавару: ты ж недарэка,
Адно спяваеш: «ку-ка-рэ-ку»
І тое дзеліш па складах.
— А мне тваё «га-га» засела у вушах,
І кожнаму, спытайся, ў каго хочаш,
Я праўду рэжу толькі ў вочы.
Крычыць Гусак:
— Замоўкні, кукарэка!

А Певень у адказ:

— Гагака! Недарэка!

І даўнія сябры
Пачалі бойку на двары,
Насілу развялі іх Куры, Гусі.
А што далей было, сказаць я не бяруся:
Ні Певень, ні Гусак спяваць не ўмее,
Над іншым кпіць,
А што дзівак,
Ніяк
Ён сам не разумее.

## ЧЫЖЫК

Спакойна, ціха
Чыжу прамовіла Чыжыха:
— Глядзі, убачыў Чыжык свет!
І не сакрэт,
Што з гэтае нагоды
Бацькі Чыжы з агульнай згоды
Народзіны сынка адзначыць парашылі
І на сямейную ўрачыстасць запрасілі
Сямействы птушак самых розных,
Што пражывалі ў дуплах, гнёздах.
Гасцей чакаць нядоўга давялося,
Зляцеліся, і неўзабаве пачалося:
Спярша дарункі і гасцінцы клалі,
Пасля віноўніка ўрачыстасці такой
На лапкі бралі, разглядалі
І радаваліся радасцю чужой,
Нібы сваёй:
Расхвальвалі малога на усе лады
І зычылі бацькам Чыжам заўжды

Дастатку, шчасця у гняздзе,—
Вядома, тосты гаварылі па чарзе.
А Дрозд, як толькі чарку ўзняў,
Адразу прадказаў маломy будучыню нават:
— Яго наперадзе чакае слава,
Кажу табе па шчырасці, сусед:
Як толькі апярыцца, Чыжык здзівіць свет —
Ён будзе музыкант або паэт.
Бацькам
І ўсім гасцям
Было зусім няўцям,
Што галапузы Чыжык слова ў слова
Запомніць іх размову.
І, не паспеўшы добра апярыцца,
Перад бацькамі задавацца стаў:
— Вас дома не было, я ж песню склаў
І праспяваў яе як мае быць Сініцы,
Паверце, не хлушу:
Я ёй да глыбіні ускалыхнуў душу —
Яна мне першая прызналася ў каханні
І абяцала выйсці замуж за мяне.
— Не будзь, сыночак, маладым ды ранні̂м:
Калі ёсць талент сапраўды ў цябе,
Дык ён ніколі і нідзе,
Павер, не прападзе,
А што датычыцца цябе, табе
У першую чаргу самому трэба апярыцца
Ды і лятаць высока ў небе навучыцца,
А да старой Сініцы
Ты проста не дарос,
Яшчэ зусім малакасос.
Запомні: гавару табе як бацька я ўсур'ёз.

---

І правільна сказаў,
Нам трэба з гэтым пагадзіцца.

## КОНЬ І АВАДЗЕНЬ

Аж да нябёс
Вялізны сена воз
Конь з лугу вёз.
Крыху ён прытаміўся і рашыў,
З дарогі збочыўшы, спыніцца —
Вады у сажалцы напіцца.
Ён толькі галаву схіліў,
Як Авадзень
Над вухам загудзеў
І стаў хваліцца:
— Як бачу я, нябога, ты самлеў
І воз цягнуць не хочаш,
А гультая з сябе ты толькі корчыш.
Няўжо табе не сорамна, Каню?
Дык вось цябе я зараз падганю,
Павер мне, не хлушу,
А толькі добранька ўкушу,
І на калгасны двор
Памчышся ты, нібы віхор.
Конь адказаў:
— Дзівак! Укус твой
Ніштто іначай,— проста глупства.
Не ён мяне, вядома, падганяе,
А той, хто лейцы у руках трымае.

## МЯДЗВЕДЗЬ НА СХОДЗЕ

На сходзе на адным
Лясным
Мядзведзь узяў у заключэнне слова
(Вядома, што ён майстар адмысловы

З трыбуны гаварыць)
І стаў усіх звяроў у пух і прах разносіць.
Сказаў Ваўку, што многа мух у носе,
Ліса, дык тая
На працы днямі не бывае,
Па лесе бегае-гуляе
І добранька слядочкі замятае.
— Ты надта хітранькая, шэльма,—
Звярнуўся да яе,—
Але не вельмі
Вакол хваста свайго ты правядзеш мяне,
Характару твайго я добры знаўца!
І вось чарга дайшла да Зайца:
— Цябе, касы, таксама не міне
Абавязкова
Суровая вымова,—
І касалапы
Пагладзіў Зайца лапай,—
Глядзі мне, мілы друг!
А Заяц выпусціў адразу з цела дух.
— Цьфу! Як да такога можна падступіцца,
Калі ён крытыкі сяброўскае баіцца?

## ПЧОЛЫ І ТРУЦЕНЬ

На пчол вядомы Труцень абураўся:
— Гулёны! І куды пчаляр глядзіць?
Няўжо не бачыць: ранак ледзь заняўся,
Яны мяне пасмелі разбудзіць,
Домік пакінулі і паляцелі разам з маткай,
І слыху цэлы дзень няма ад іх,
Ды шчэ збіраюць нейкія узяткі
На красках лугавых?

Ну як цярпець такое можна:
Сярод дня
У іх гульня?
Не пацярплю! Ім не дарую я!
І Труцень напісаў сігнал трывожны.
А пчолак працавітая сям'я
Не парушала распарадак свой штодзённы,
Карысную рабіла справу,
Мядок збіраючы на славу,
Хоць і трывогу білі пустазвоны.
Пчол нават прыязджалі правяраць,
Як парушальнікаў закона.
А што ім заставалася рабіць, гулёнам?
На плёткі не зважаць!

---

Нярэдка іншы Труцень,
Найпершы кар'ерыст і хам,
Не робячы нічога сам,
Імкнецца працавітага атруціць
І сапсаваць яму настрой надоўга.
Чаму ж мы церпім Трутня вось такога?

## ТЭРМОМЕТР

Тэрмометр у калектыве добрым быў,
Не меў заўваг, нёс службу спраўна.
І вось зусім нядаўна
Той добры калектыў
Рашыў паводзіны яго абмеркаваць на сходзе.
«Мяне? Завошта? — Не знаходзіў
Тэрмометр для апраўдання важкіх слоў.—

Ды я ні ў чым не правініўся,
А тут нібыта летам снег на галаву зваліўся».
Такія рэплікі пачуў сяброў:
— Нарэшце паказаў сапраўдны твар, саколік!
— А я не ведаў, што ён алкаголік.
— А тут няма чаго даводзіць,
Заўсёды ён пад градусамі ходзіць.
— Лячыць!
— З работы звольніць.
І звольнілі Тэрмометр. Купілі новы.
Настрой у добрым калектыве радасны.

---

Але абавязкова
І навічок быў кожны дзень пад градусам.

## ВОЖЫК-ПАДХАЛІМ

— Куды ты, Вожык,
Дзеў свае іголкі?
— Павырываў і стаў не колкі.
І Леў,
Начальнік мой,
Вітаецца, не моршчыцца зусім...
І мякка гладзіць лапаю сваёй,
Ну, проста як сапраўдны падхалім.

---

Вы згодны з вывадам такім?
Хто тут сапраўдны падхалім?

## ПЫЛАСОС І ВЕНІК

— Нічога, Венік, ты цяпер не значыш,—
Шматзначна Пыласос зазначыў.—
Ты — век мінулы, я — прагрэс,
Сам бачыш.
Па-першае, што гэтым я хачу сказаць?
Не трэба за вішшом хадзіць у лес
І венікі вязаць.
За гэта лес мне ўдзячны.
А па-другое,
Што ўяўляеш ты самім сабою?
Папарацца табой разок,
Пасля паставяць у куток,
І ты зусім нядоўга
Мяцеш падлогу.
І ў рэшце рэшт — цябе на сметнік
Выкідваюць заўсёды, Венік.
Нікому не патрэбным там сабе ляжы,
Так ці не так, скажы?
— Хай будзе так. Але
У кожнага сваё прызванне
І абавязкі ў кожнага свае.
Ну, вось, напрыклад, у мяне:
У лазні я не разбіраю,
Начальнік хто ці не —
Усім аднолькова сцябаю
Па спіне.
І не пачуў ні разу нараканняў,
Маўляў, такі-сякі,
Балючыя лісткі.
Ты хвалішся, а на цябе таксама, брат,
Дакораў шмат:
То ты працуеш мала
І нядбала,
То многа на цябе ідзе ў сям'і растрат.

Хоць ганарышся ты сабою,
Але чаму выходзіш ты са строю?
Бываеш то ў адной майстэрні, то ў другой,
І хто ўсяму віной?
Таму не трэба задзіраць высока нос,
Шаноўны Пыласос!

## КОТ-ВЕГЕТАРЫЯНЕЦ

Кот Васька, як усе яго браты
Каты,
Заўжды
Перапалох мышам наводзіў
І сам
Сваім гаспадарам
За ўсё жыццё ні разу не нашкодзіў.
Таму ён і ў павазе быў,
Яго кармілі, нібыта на убой,
Смятанай, салам, маслам, каўбасой —
І гэта ўсё было яму па густу.
Быў Васька задаволены такім жыццём:
Ён, самазадаволены і тлусты,
Пакінуўшы аднойчы дом,
На агародзе стрэціўся з Казлом,
Які паскубваў траўку.
Убачыў гэта Кот, здзівіўся і замяўкаў:
— Скажы мне, браце, шчыра, без падману,
Няўжо гэта ў цябе такі сняданак?
— Эге! — Казёл прыцмокнуў языком
І, страсянуўшы барадой, зазначыў: —
Калі мяне ты лічыш дзіваком,
Дык не іначай
За тое, што не ўмею я лайдачыць.

Вось бачыш, траўку я скубу,
А ў ёй — адны прысмакі.
Што патрабуецца, раблю
І не шукаю для сябе выгод ніякіх.
А ты, брат Кот,
Жывеш наадварот.
Я глянуў на цябе
і вельмі ўжо здзівіўся:
Непазнавальна, Васька, ты змяніўся:
Ступаеш асцярожна, мякка,
І калі хто наступіць на твой хвост ці лапкі,
Як і належыць кожнаму ўтрыманцу,
Ты голас свой не падасі, не мяўкнеш.
Калі жадаеш, брат, Катом застацца,
Дык ты павінен
Зрабіць крок новы у сваім жыцці —
Стаць вегетарыянцам,
На траўку перайсці,
У ёй і лекі ўсе, і вітаміны,
З хваробамі не будзеш знацца,
І не паселіцца у галаве склероз,
А ў старасці — кажу табе ўсур'ёз —
Яшчэ свае напішаш успаміны,
Мяне, маю параду ўспомніш добрым словам,
Ну, будзь здаровы!
Кот з довадам Казла адразу пагадзіўся,
Травою харчавацца стаў
І неўзабаве лірыкам зрабіўся —
Траву-мурог на ўсе лады ён усхваляў,
Ну, а мышэй лавіць забыўся.

---

Я не пісаў бы байку гэту,
Калі б не ведаў аднаго паэта,
Які штогод дае заяўку

І выдае чарговы зборнік свой,
Смакуе ў ім лірычную ён траўку,
А там
Няма крывіначкі жывой.

## БАРАН І АСЁЛ

Павер, чытач, мне: гэта не падман.
Баран,
Сустрэўшыся з Аслом,
Паведаміў яму чарговую прыгоду:
— От, нарабіў гаспадару турботаў —
Вароты новыя учора выбіў лбом!
Павер,
Цяпер —
На цэлы год яму работы,
Пакуль ён зробіць новыя вароты.
Ад гэтага паведамлення
Асёл быў проста ў захапленні:
— Сапраўдны подзвіг ты, Баран, зрабіў,
Які ніхто яшчэ не ацаніў.
І пра цябе — нікольні не хлушу —
Артыкул у газету напішу.
І слова сапраўды Асёл стрымаў:
Такі артыкул — оду напісаў,
Што неўзабаве
Баран хадзіў у славе,—
Аж да нябёс
Асёл яго узнёс:
Маўляў, у кожнай справе ён невыпадковы,
Надзвычай прабіўны, талковы,
Работнік самы адмысловы,
Трымаць яго патрэбна на прыкмеце...

Леў прачытаў артыкул у газеце
І, не думаючы шмат,
Адразу падпісаў загад:
«Узяць у штат».
І зразумела,
Што стаў Баран загадчыкам аддзела.
Прагледзеў напачатку ўсе паперы,
Пасля пачаў загады ўласныя пісаць,
Накшталт такога: у далейшым дзверы
Варотамі патрэбна называць.
Чытаючы падобныя загады,
Увесь аддзел да вываду прыйшоў:
Баран, займаючы высокую пасаду,
Заўсёды наламае многа дроў.

## ЗАМЯНІЎ

Мядзведзь узрадаваны быў:
— Нарэшце злодзея злавіў!
З аддзела прадаўшчыцу
Рыжую Лісіцу.
— А ты ж яе заўжды хваліў,
Сумленная, культурная...
— Што ж, памыляўся. Замяніў.
Цяпер працуе... Бурая.

* * *

Ты, калі ласка, выбачай, знаёмы,
што я ў цябе так мала пагасціў,
абед шыкоўны для мяне тут быў,
а за сталом адчуў я толькі стому.

Няўжо табе не зразумець самому,
што за сталом ты ўсіх гасцей стаміў
сваім расказам? І таму спяшыў
з нас кожны найхутчэй пайсці дадому.

Набраўшыся цярпення, я ўсё слухаў,
як ты звінеў, нібы камар над вухам,
і толькі пра сябе, пра іншых ані слова.

Але, павер, калі ў наступны раз
ты зноўку пра сябе пачнеш расказ,
з кватэры выйду я абавязкова.

* * *

Маліна у кустах густых даспела,
і хоць там крапівы было замнога,
яна не запалохала нікога,
і дзеці на яе ступалі смела.

Ад раніцы да вечара — дзень цэлы —
людзей у лес вяла адна дарога.
А вось змяю ўсё мучыла трывога,
яна, схаваўшыся ў кустах, ад зайздрасці шыпела.

Маўляў, шчасліўчыкі, я голас свой падам
і, верце мне, не пашанцуе вам,
на вас атруту на зубах нашу я,

сябе я неўзабаве пакажу:
кагось употай толькі падцікую
і абавязкова укушу.

* * *

Якая сіла у малой травінцы,
калі яна, як вострая страла,
цягнулася ад цемры да святла,
праз шар зямны змагла прабіцца?!

Цяпер яна на вузенькай сцяжынцы
зазелянела, дзівам узрасла,
што, глянуўшы з высокага ствала,
гнілы сучок штодзень пачаў дзівіцца.

Бо — як-ніяк, а ён хоць і гнілы,
але на дрэве ён, нібы на сёмым небе,
і не ўпадзе, трымацца дрэва будзе.

Я слаўлю вас, зялёныя ствалы,
люблю травінку кожную у лузе,
а ён, гнілы сучок, каму патрэбен?

## ЦАЦКІ

Бацькі заўсёды дзецям для забавы
у магазіне цацкі выбіраюць —
і, каб прынесці радасць, іх купляюць,
ну, гэта іх, бацькоў, вядома, справа.

А цацкі розныя. І паглядзець цікава,
як дзеці забаўляюцца, гуляюць,
а нагуляўшыся, у вугал іх кідаюць,
і гэта іх, дзяцей, вядома, справа.

Затое цацкі — о, як ганарацца,
не могуць на сябе налюбавацца,
што розныя яны і што іх шмат.

Але павінен шчыра я прызнацца:
не трэба гэтак задавацца цацкам —
яны не вельмі цешаць немаўлят.

## ГАДЗІННІК

З гадзіннікам усе жывуць у згодзе.
Каб ён заўжды дакладна час лічыў,
не адставаў, ніколі не спяшыў,
то стрэлкі падганяюць, то заводзяць.

Гадзіннік — рэч патрэбная і ў модзе.
І я нямала іх пераначасіў.
Ён нават жонцы падарункам быў,
а сёння гавару: «Гадзіннік — злодзей.

Вось памяркуйце: ў кожнага у нас
ён крадзе наша дарагое — час,
і робіць гэту справу ён адметна:

Глядзіш — і я ўжо стаў немалады.
гадзіны лічыць, месяцы, гады.
Гадзіннік цікае. Час мчыцца непрыкметна».

## РАСІНКА

— Я — прыгажосць! — хвалілася Расінка.—
Вы толькі паглядзіце на мяне,
скажыце праўду: дзіва я ці не,
калі так упрыгожыла травінку?

Я — сонца цэлае, а не яго часцінка,
мяне ніхто нідзе не праміне,
прысядзе на мяне, магчыма, толькі ў сне
маленькая зайздросніца-пылінка.

— О, перастань сабой хваліцца гэтак,—
сказаў Расінцы вельмі ветла ветрык,—
ты — прыгажосць, ды нуль табе цана,
і не такі ў цябе зайздросны лёс.
Павеяў ветрык і Расінку строс,
і на зямлі разбілася яна.

# *Паэмы*

ШКЛОЎШЧЫНА

НАД КРУЧАЮ РАЧНОЮ

ЧЭРВЕНЬ

НЯДЗЕЛЯ

БУСЛІНЫ ЧОВЕН

ШТРЫХІ ДА БІЯГРАФІІ МАЙГО ЛЕСУ

# ШКЛОЎШЧЫНА

Я вас прашу:
На Шклоўшчыну прыедзьце,
Да нас хоць на хвілінку завітайце,
На выбар — у любую хату
Заходзьце і не бойцеся сабак.
Іх не трымаюць землякі і нават
Дзвярэй не замыкаюць за сабой.
Вам будуць рады. І заўжды з дарогі
Вам твар сцюдзёнай асвяжаць вадой,
Засцелюць стол абрусам самым чыстым,
Вам на пачэсным покуце сядзець,
Да раніцы бяседзе быць сяброўскай.
Гасцінныя заўсёды землякі.
У іх сумленне, як крышталь, спрадвеку,
Як назва роднай Шклоўшчыны маёй.
А я назваў яе калісь блакітнай
Над кручамі высокімі Дняпра.
Чаму яна блакітная? Блакіту
Хоць адбаўляй над Прыпяццю ці Сожам,
А ўсё ж на Шклоўшчыне блакіту больш.
Яна — уся! — у квецені ільноў.
Здаецца, не ільны цвітуць, а неба
Блакітам разлілося на палях,
Такое чыстае, як назва Шклоў.
Шклаўчане шкло варыць і сёння ўмеюць,
Ды хіба толькі шкло адно?
                                        Вы толькі
Хоць назвы вёсак шклоўскіх пачытайце:
Тут пяць Дубровак і сяло Дуброва,
Бо меднастволыя гаі звіняць.

Барок — і малады лясок шуміць.
Дубкі — дубовы гай стаіць тут старажылам,
Сасноўка — сосны ля дзвярэй і вокнаў,
А Вішанька — у вішнях расцвіла.
Бель — па суседству ў яблыневым цвеце,
Якое хараство, які цудоўны пах
Не толькі ў Белі, нат у Ганчарах,
Дзе круг ганчарны круціцца ад ранку.
Наведайце Заходы — дзе сонца не заходзіць.
Вось Ціхі Прудок — толькі людзі не ціхія,
У Дабрэйцы — як заўсёды — сэрцы добрыя,
У Лакуцях —
як усюды —
адчувае локаць сусед суседа.
У Славенях — коні слаўныя,
У Дзіўнаве — песні дзіўныя.
Ёсць Амерыка. (Не заморская!) —
Самае мірнае ў свеце сяло.
У людзей — цудоўныя імёны:
Алеся — нарадзілася ў лесе.
Поля — пшаніцу жне ў полі.
Алёна — лён поле.
Галінка — у садзе галінка.
Маланка — вочы-маланкі.
Ганка — гасцей сустракае на ганку.
Вера — ў чалавека вера.
Надзея — у хлопцаў надзея.
І абураецца бабуля Марыля:
— Ніколі голадам мужа не марыла,
А імя вось якое нашу!
Мужчыны:
Лукаш — мядзведзя з лука застрэліць.
Дзям'ян — дом ўдаве пабудуе, як звон.
Мікола — без працы не сядзіць ніколі.
Макар — «доля — мак»,— казаў,
а сам

Не рассыпаўся на дарозе макам.
Станіслаў — са славай стаў.
А прозвішчы якія ў землякоў!
Моцныя, як дубы,— Дубнякі.
Як травы росныя — Сенакосавы.
У Ганчарах — Ганчаровы.
Праўду-маці,
                    як дровы,
                         у вочы сякуць — Сякацкія.
Не ў крыўдзе на грыбы — Баравіковы,
Хоць і не ўсе грыбнікі заўзятыя.

Вы наведайце толькі Шклоўшчыну,
Сустрэньцеся з маімі землякамі,
Сумленне у іх чыстае, як шкло.
Вы тут не сустрэнеце здраднікаў.
Жывуць у нас людзі
Простыя,
Сціплыя,
Гасцінныя,
Працавітыя.
Ходзяць героямі вайны і працы.
Толькі не хваляцца: «Мы — героі!»
Я хачу,
          каб іх свет увесь ведаў,
І таму вас прашу:
— Калі ласка,
Завітайце на нашу Шклоўшчыну!
Яна глядзіцца ў люстра вод
                              маладымі бярозкамі,
Зоркі над ёй праляглі ў вышыні
                         скошанай у лузе сцяжынкай.
А землякі не кідаюць надзеі —
Шклоўскія касманаўты
Пракладуць зорныя трасы у небе.
А пакуль —

У іх самыя будзёныя справы:
Узводзяць —
вянец за вянцом —
новыя зрубы.

Сеюць лён і пшаніцу.
Косяць мурожныя травы.
Бывалі і бываюць за граніцай.
Вараць шкло і круцяць круг ганчарны.
Водзяць трактары і камбайны.
Вучаць дзяцей.
Не хварэюць.
І любяць.
Спраўляюць вяселлі і радзіны.
Амерыканцы — сустракаюць гасцей
з Амерыкі заморскай

І на заграпічную хлусню
толькі пад ногі плююць.

*1962*

# НАД КРУЧАЮ РАЧНОЮ

## I

Віхор над Волгай вецце круціць.
Калючы вецер ледзяніць.
Глядзеў удаль з высокай кручы,
І думкі ўдаль плылі, як дні.
Яшчэ папаха стэпам пахне,
Казарма сніцца па начах,
У вышыні —
Чумацкім шляхам
Пралёг яго салдацкі шлях.
Што перажыў за дзесяць год ён,
Стэп Казахстанскі, раскажы...
Над вольнай Волгай свежы подых,
Парывы светлыя душы.

## II

Когда-то в Нижний попадем...
*М. Некрасаў*

Вецер —
быстры веснік
Волжскіх берагоў.
Ён цяжкую песню
Носіць бурлакоў:
— Вецер,
дай нам сілы,
Мы ледзь-ледзь брыдзем.
Да заходу сонца
Ў Ніжні пападзем.
Сонца, не пячы так,
Ну, захмарся, дзень!

Ты хіба не бачыш,
Што мы ледзь ідзем?
Не кашулі — бубен.
Гэта соль і пот.
Волга,
дай напіцца
Сініх чыстых вод.
Мы засмяглі, Волга.
Волга,
сілы дай!
...Гэй, братва,
узялі,
Ну, цягні,
давай!
Гэй,
дружней,
бадзягі!
Насустрач вятрам!
Да захаду сонца
Ў Ніжні
трэба нам!

## III

Глядзеў удаль, трымаючы папаху
А бурлакі ўздоўж берага ішлі,
Знясіленыя, стогнам сэрцы плачуць,
Калі ж наступіць дзень? Калі? Калі?
Калі ж, нарэшце, разальецца Волга
І загрыміць вясновы крыгаход,
І уздыхне, парваўшы путы, вольна

Не раб — стваральнік, працаўнік-народ?
Вятры за сінім лесам галасілі,
Ляцелі ўдалеч думкі кабзара.
Адзіны лёс Украіны і Расіі,
Адзіны лёс і Волгі, і Дняпра.

### IV

Паклон зямны табе, матуля Волга!
Ты — маці рускіх гарадоў і рэк!
Стаяў на кручы доўга не вандроўнік,
А сын зямлі —
Пясняр і Чалавек.
Адсюль ён бачыў і садок вішнёвы,
Бяскрайні стэп Украіны дарагой,
І ціхаю парою вечаровай
Чуў спеў дзяўчат,
як плынь Дняпра вясной.
І сэрца успаміны паланілі,
І думкі...
Думкі...
Як пчаліны рой:
Зірнуць хоць раз на стэп,
з дзяцінства мілы,
Паслухаць, як бушуе зноў Дняпро!

### V

Мароз.
Аж кроў у жылах студзіць,
На сто замкоў замкнуў вясну.
Ды «Колокол» Расію будзіць
Пазбыцца векавога сну.
Гарыць газоўка.
Ледзьве свеціць.

Яму —
у сонцы шлях відаць,
Яму цяпер праменна свеціць
Сама «Палярная звезда».
Сыны Расіі —
аднаверцы,
Іх не спалохала пятля.
І рускі
Аляксандр Герцан
Свабоды голас шле здаля.
І Кабзару не спіцца доўга,
Ён чуе —
«Колокол» заве.
Узыдзе новы дзень над Волгай,
Дняпро Славуціч зараве.
І будзе плыць свабоднай плынню,
Вялікі будзе крыгаход.
...«Ты будзеш вольнай, Украіна,
Свабодна уздыхнеш,
народ!»

## VI

Вятры гудуць,
над Волгай веюць.
Скаваны лёдам берагі.
Зімой халоднаю завейнай
Прыехаў госць,
друг дарагі.
Такім яшчэ не быў шчасліўцам,
Свяціла сонца за акном.
І ў сне ніколі не прысніцца —
Сам Шчэпкін завітаў у дом!
Дзе пасадзіць такога госця?
Чым частаваць?
Што расказаць?

Гады успомніць маладосці?
А можа, песні пачытаць?
...Якая шчырая размова
Была у доме Кабзара!
Украінская гучала мова,
Як плынь свабоднага Дняпра.
Ты раскажы аб гэтым,
Волга,
Праўдзівы пра яго расказ,
Як, шапку зняўшы, думаў доўга
І з кручы ўдаль глядзеў Тарас.
Ты раскажы.
Ты добра помніш,
Як ён хадзіў,
Кабзар,
паэт,
І на зямлі у ясных промнях
Пакінуў чалавечы след.

*1965*

# ЧЭРВЕНЬ

Як у родную хату матчыну,
Адпраўляюся ў чэрвень —
Лета пачатак.

Сустракай мяне, мама.
Чуеш, мама?
Не трэба плакаць.
Сёння — купалле.
Ноччу зацвіце папараць.
Пойдзем з табою, матуля, апоўначы,
Знойдзем у лесе кветку чароўную
І прынясём у хату...

*

Дзяцінства прыходзіць на памяць...

*

Яно паўстае суровае, як зіма завейная,
Якую прыносіў бацька з вуліцы.
У сенцах з валёнак, снег абабіўшы венікам,
Ён заходзіў у хату — цёплы сямейны вулей.
Як я любіў надзець яго кажух!
Ён пахнуў сенам і конскім потам.
Ён саграваў мяне
(усім, каб ведалі, кажу)
У вайну і доўга яшчэ потым.
Задаволены бацька смяяўся,

Гледзячы на мяне,
калі я у кажух з галавою хаваўся
І бегаў па хаце,
як казачны Бай па сцяне.
Цёплы бацькаў кажух,
Слаўны бацькаў кажух
З тытунём у кішэні і газетай для самакруткі!
Слаўлю цябе.
Цяпер я дарослы —
не тытунь, папяросы куру.
Вершы пішу.
За руку вітаюся,
як з багамі,
з мудрымі крытыкамі.
Толькі заўсёды:
прыеду да маці ў вёску —
Я першым чынам
іду да суседа, аднарукага Янкі.
Аддаю яму ўсе свае папяросы,
А сам куру, як бацька,
суседаў тытунь да ранку.
Мой сусед — мастак чарку выпіць,
А, падвыпіўшы, ўспомніць вайну.
Сорак другую вясну,
Калі ён пакінуў руку на жалезцы.
І заплача гэты чалавек жалезны.

*

Мне не па сабе, няёмка робіцца.

*

Мой чэрвень —
пачатак лета,
у якое я прыехаў,
Доўга шчэ будзе помніцца.

*

Я прыехаў у сваё самастойнае лета,
Толькі не ў чэрвені,
калі над лугам
Пчолы звіняць
і зіхацяць
даспелыя, як суніцы, радугі,
сваім сяміколерным цветам
Сэрца радуючы.
Самы пачатак студзеня.
Бярозка ля хаты,
як маці, ўдава-салдатка,
у шэрані.
Белая-белая.
Мне гэты малюнак
стаіць перад вачыма.
Ніколі ў жыцці не забудзецца —
і зноў я малы.
У кажуху бацькавым
па хаце бегаю.
Маці на печы пад бацькавым кажухом грэецца,
Ён знасіўся здорава.
Маці мая і сёння яшчэ не кідае надзеі —
Беражэ кажух —
бацька дадому вернецца.
І абавязкова яго надзене.

*

Мама, мама!
Ну, хопіць плакаць.
Я цалую яе з любоўю сыноўняй.
Мароз — мастак-самавучка —
На шыбах намаляваў паўднёвыя цёплыя пальмы.
(Холадна ў хаце, мама.)
Я на іх хукаю,

Пальмы знікаюць.
А ў суседа вокны адтаяныя,
Цёплыя дзверы,
Шыбы — як радугі ў чэрвені.
Я разумею.
І не пытаю чаму,
Не хачу сэрца маці
болем пякучым трывожыць.
Я не віню за холад зіму,
За яе марозы.

*

Колькі сіл аддала ты,
мама,
роднаму палетку!
Такое помню добра.
Я забываў на вучобу —
чужых кароў пасвіў
І прыносіў вечарам з лесу дадому дровы.
А ты шукала даведкі,
Каб атрымаць за бацьку пенсію.
«Загінуў без весткі» —
Вось і ўся песня.
У нас, у хаце,
было уласнае возера —
Таксама помню.
У сорак першым,
у чэрвені,
Яго нам зрабіла фашысцкая бомба.
Пойдзе восеньскі дождж —
Яно з берагоў выходзіла.
Мы не спалі ўсю ноч,
Асушвалі хатняе возера...
Яно і цяпер
перад вачыма маімі стаіць,

Возера прадоннае.
Я іншае возера цяпер не магу ўявіць,
Бо ты яго,
мама,
сваімі слязьмі напоўніла.

І вось я
у чэрвень прыехаў —
У сваё самастойнае лета.
Чуеш?
Кукуе зязюля —
і ў хату прылятае зялёнае рэха.
Пойдзем шукаць яго,
мама,
з табой не заблудзім у лесе.
Пойдзем па чэрвеньскіх сцежках...

*1967*

# НЯДЗЕЛЯ

## I

Матчына хата — песня і хлеб,
Які на палетку я вырасціў.
Ад вуліцы хату мужчына-хмель
Схаваў і завіўся на вільчыку,
Вокны занавесіў зялёнымі шатамі,
Зацямніў іх занадта.
І калі я гляджу на хату матчыну,
Яна для мяне — як свята.

У ёй дарагое сэрцу заўжды,
Самае роднае, блізкае.
Кукуе зязюля — лічыць гады,
Як маці калісь над калыскаю.

І як у іншых, у хаце ёсць
І вокны, і дзверы гасцінныя,
У любы час заходзь,
Яны заўсёды адчынены,
Шчыра запросяць:
«Калі ласка!
Добры чалавек, адпачні з дарогі».
(Люблю цябе, доўгая лаўка
Ад покута да парога.)

І чым багаты, заўсёды тым рады,
Маці нават апошні сухар падзеліць.
Матчына хата,
ты — мая праўда,
Чыстая, як нядзеля.
Даўно мне зрабіўся нізкім парог,

Але ў памяці нішто не забыта.
Ты — паэма маіх дарог,
Ты — паэма маіх трывог,
Ты — вясёлка над росным жытам.

## II

Са Шклоўшчыны, дзе ціхія світанні
Над маладым узлескам сасняка,
Прыходзяць пісьмы мне ад земляка —
Кароценькія ластаўкі-пасланні.
Сусед іх піша — працавіты сейбіт,—
Ніводнай навіны не праміне.
Паведамляе — жыта вось пасеяў,
Мяне чакае ў госці па вясне.
Усходы будуць дружныя кусціцца,
На ніву люба тую паглядзець,
Уся яна пад сонцам зеляніцца —
Вясна на ніве пачала рунець.
І жаўрукі ў блакітным паднябессі
Кідаюць долу срэбныя званкі
І дораць людзям ранішнія песні,
Мне дарагія, нібы ручнікі.
Саткала маці іх зімой на кроснах,
На лузе ранкам іх бяліў мароз.
Майго юнацтва вышытыя вёсны
На ручніках, як мой шчаслівы лёс.
На ручніках, нібы на ганку, пеўні —
Гарластая краса майго Дняпра,
Гараць праменна вогненныя грэбні,
Нібы на ўсходзе пеніцца зара.
Ручнік вясковы — падарунак маці.
Я мыю твар, а пеўні — на плячы,
Ручныя пеўні ціхенька маўчаць,
Прыселі, як на жэрдку, адпачыць.
Яны мяне у край маленства клічуць —

На плёсе хата ля Дняпра-ракі,
Дзе ў лазняку, схаваўшыся, крынічыць
Вада жывая — спеў ва ўсе бакі.
Я ведаю: з дарогі мне не збіцца,
Крыніца голас падае мне свой.
Зімой туман густы над ёй клубіцца,
Як у даёнцы цёплы сырадой.
«Наведай вёску і мяне таксама,
Прыедзь абавязкова па вясне...» —
Сваім пявучым голасам, як мама,
Яна дамоў паклікала мяне.
Гуляе у гаях зялёных рэха.
На роснай сцежцы росны след пралёг.
— Дзень добры, мама!
Вось і я прыехаў,
Хачу хутчэй ступіць на твой парог.

III

У самым куточку, на тым самым месцы
Стаяць па-ранейшаму жорны у сенцах.
Як я іх помню — яны ніколі
Не ведалі стомы, малолі, малолі,
Перад нядзеляй у хаце завозна —
Жорны спявалі да ночы позняй,
Я прыгадаў гэта не выпадкова,
Сам іх кляўцом у маленстве падкоўваў!
Сам я круціў іх камені цяжкія,
Зведаўшы радасць ў хвіліны такія:

Калі ў суботу хоць крышачку змелеш,
Хоць чорны, ды будзе блін у нядзелю.

Жорны стаяць, як музейная рэдкасць,
Маленства майго непаўторная радасць.

## IV

Казка маленства прыходзіць у сны,
На родны парог вяртае.
Так вецер прыносіць дыханне вясны,
Пах свежай смалы прыдняпроўскай сасны,
Якая цябе чакае.
Казка маленства прыходзіць у сны.

Да хаты, здаецца, рукою падаць
З самай далёкай вандроўкі:
Дым сіні над комінам родным відаць,
Чуеш, як бусел пачаў клекатаць,
Седзячы на буслоўцы,—
Да хаты, здаецца, рукою падаць.

І на хвіліну ўявіцца: вось
Ты завітаў дадому,
Сядзіш за сталом як жаданы госць,
Маці гаворыш цікавае штосьці,
Што дарага вельмі самому,—
Такое ўявіцца на хвіліну.

І ў матчыну хату прыходзіць нядзеля
У самы звычайны будзень,
Ты ў твар зазірні — як яна маладзее,
Да ночы сядзець з табой будзе,—
У матчыну хату прыходзіць нядзеля.

*1969*

# БУСЛІНЫ ЧОВЕН

## I

Бусел прыносіць вясну...
*Народная прыкмета*

Мой дзед на бярозу узнёс барану
Аднойчы ранкам:
— Бусел заўсёды прыносіць вясну,
Хай яму будзе буслянка!
Хай дзетак выводзіць на радасць ён
Белых, цыбатых,
Колькі захоча — не цесная ім
Будзе тут хата.
Няхай на світанку сінім заўжды
Клякоча, клякоча.
Памаладзелі у дзеда тады
Добрыя вочы.
Ён на бярозу доўга глядзеў,
Замілавана,
Нібыта бусел на ёй сядзеў
Госцем чаканым.
Вясна затрубіла над родным Дняпром
У звонкія трубы,
Але яшчэ луг ля высокіх стром
Быў голы, як бубен.
Паводка сыходзіла,
Вырашыў дзед
Агледзець свой човен.
Закапапаціўшы дзіркі як след,
Іх потым засмольваў.
Закончыў работу і задыміў
Сваёй самакруткай.

— Ну, вось яшчэ справу адну я зрабіў,—
Сказаў ён ціхутка.
Спачатку на поўдзень дзед мой зірнуў,
Прыжмурыўшы вока,
Потым на вёску —
Там клёкат пачуў
Бусліны здалёку.
І да мяне:
— Ну, бяжы сустракаць,
Буслы прыляцелі,
Цяпер неўзабаве будуць спраўляць
Сабе наваселле.
Вясенняе сонца ліло на зямлю
Шчодрыя промні,
Ласку дарыла і цеплыню,
Помню я, помню.
Гурмою вясёлаю ўсе хлапчукі
З хат выбягалі,
Босыя беглі на луг да ракі
І не змаўкалі.
Прасілі цыбатых добрых сяброў,
Каб пакружылі
Ці каб пяро сваё белае зноў
На дол уранілі.
Прысядуць на лузе буслы адпачыць,
Ды ім не сядзіцца:
Птушкам, як людзям, хочацца жыць —
Трэба гняздзіцца.
Трэба было гняздо адшукаць,
Дзетак выводзіць.
І дзеткам патрэбна сваё будаваць,
З людзьмі жыць у згодзе.

## II

Дзе пасяліўся бусел,
ніколі не згарыць хата.
*Народная прыкмета*

З вякоў у народзе добрая прыкмета:
Пасяліўся бусел — не крануць у лета
Аніводнай хаты чорныя маланкі,
Ззяць над вёскай будуць ясныя заранкі.
І віхура-бура стрэхі не сарве —
Добра, калі ў вёсцы бусел жыве.
Сябра мой маленства, бусел мой цыбаты,
Ты перад вайною помніш сваю хату?
Пасяліўся, дружа, ты у Прыдняпроўі,
На старой бярозе выбраўшы гняздоўе.
Клекатаў уранку, разбудзіўшы сонца,
Якое ўзнімалася з-за высокіх соснаў,
Што раслі над стромамі крутымі Дняпра.
...Бусел ты мой белы — белая зара,
Клічу цябе, клічу — узмахні крылом,
Закружыся, бусел, над маім Дняпром!
Ты не вінаваты, я не вінаваты,
Што няма буслянкі і згарэла хата.

## III

«Хто пахавае бандытаў-партызан,
будзе расстраляны...»
*З загаду нямецкага каменданта*

Пачакай узыходзіць, сонца,
Затрымайся за стромай дняпроўскай,
Пакуль дзед не засмаліць човен —
Тэрміновая справа ў яго.
Нельга, нельга дзеду марудзіць...
Ноч кароткая вельмі улетку,
Не заснеш на кароткі волас:

Ледзь зара на захадзе згасне,
На усходзе — другая ўстае.
Дзед спяшаецца. Нельга марудзіць.
Пахаваць партызана трэба,
Хоць і строгі загад камендапта
І на хаце ягонай вісіць.
А зрываць яго дзед не будзе,
Няхай ворагі ведаюць гэта.
Толькі ўночы ціхусенька з хаты
Ён, не бразнуўшы клямкай, пайшоў.
І ніхто не павінен ведаць,
Што наважыўся ён зрабіць.

. . . . . . . . . . . . . . .

Дзед дахаты вярнуўся пад ранне,
Сказаў маці:
— Будзі унука,
Хатулі вынось на калёсы,
Трэба хату хутчэй пакідаць.
— Што здарылася, тата, такое? —
Маці ў дзеда ціха спытала.—
Як жа так нечакана выйшла?
— Не да часу чаканне цяпер.
Трэба ў лес падавацца, нявестка,
Пакуль гады у старасты спяць.
Балявалі ўсю ноч. Я тым часам
Іх парушыў суровы загад:
Пахаваў партызана у чоўне
Пад высокай на строме сасной.
Каб не гойсалі гады па вёсцы,
Хай запіску цяпер прачытаюць,
Што замест іх загаду вісіць.

. . . . . . . . . . . . . . .

Мы пакінулі родную хату
І бусла на сваёй буслянцы,
Што спакойна, без страху спаў,

Жыў са мною у добрай згодзе,
Прачынаўся да сонца усходу
І заўсёды мяне будзіў.
Я даведаўся, што не толькі
Ён на крылах вясну прыносіць,
Ён таксама дзяцей знаходзіць
І на рукі мацi дае.
Гэта ж ён нам прынёс сястрычку,
Што яшчэ гаварыць не умее,
Толькі з прысмакам, соладка вельмі,
Яна цмокае языччком.
Пакланіўся дзед нізка хаце,
А пасля падышоў да бярозкі
І буслу, як харошаму другу,
Перад доўгай разлукай сказаў:
— Ну, бывай, мая добрая птушка,
Хату родную я пакідаю,
А табе я прытулак зрабіў.
Дык вось выводзь сваіх дзетак на радасць
І наступнай вясной прылятай.
. . . . . . . . . . . . . . .
Нас сустрэў партызанскі лес...

* * *

Прыйду да дняпроўскай стромы,
Гамоніць сасна старая.
Белым буслiным чоўнам
Памяць мая выплывае.
Усё да драбніцы помніць,
Што мною было пражыта.
Плыві, мой буслiны човен,
І ты у жыцці не забыты.

*1973*

# ШТРЫХІ ДА БІЯГРАФІІ МАЙГО ЛЕСУ

*Янку Сіпакову*

Лесе мой! Браце мой дарагі!
Гэта толькі штрыхі
да тваёй біяграфіі — вялікай аповесці,
якую закончу я поўнасцю,
як толькі абыду пехатой Беларусі маёй ўсе шляхі.
А пакуль,
прыехаўшы ў родную вёску на Шклоўшчыну,
да цябе крочу лугам няскошаным або скошаным.
З прыдняпроўскага кургана
шле вітанне мне елка адна,
што здалёку відна.
Чаму яна ў мяне на прыкмеце толькі адна?
А дзе ж астатнія? Іх спілавала вайна.
Загінула кожнае дрэва чацвёртае.
Цішыня ў лесе стаіць мёртвая.
Тыя дрэвы,
што жыць засталіся, не хаваюць радасці слёз,
ведаюць, і людзям выпаў такі вось лёс.
Бязлітасна фашысты нішчылі
людзей і дрэвы, нават дрэўцы нізкія,
якія ў нас называюць проста —
падлескам або падросткам.
І вось стаіць гэтая елка,
стаіць сабе з боку прыпёку,
а побач маленькія елачкі — дзеці яе —
зусім непадалёку.
Яны — не іначай — мае аднагодкі.
Яны — падлесак, а я — падростак.
Мы амаль аднолькавага ўзросту.

Але сярод нас ёсць такія,
якіх рукой дастаць нельга,
і ўсё ж мы ўсё расцём, цягнемся ў неба.
І яшчэ: я любіў па ельніку шастаць,
гнёзды шукаў. І знаходзіў іх часта.
Якая радасць, калі, адшукаўшы гняздо,
трымаеш цёпленькія яечкі драздоў!
Браць ці не браць —
на сонца гляджу, ці прасвечвае,
расчараванне: яечкі наседжаныя,
Пачакаю да лета, пакуль выведуцца дразды...
А на елку высокую я ўзбіраўся заўжды.
Узлезеш і бачыш, што на свеце дзеецца.
Ля калодзежа ўдовы навінамі дзеляцца.
Нехта праехаў шляхам на веласіпедзе,
а ў сажалцы — голыя дзеці
ваду каламуцяць, лавіць будуць рыбу штанамі.
Тое, што ўбачыў з елкі, не пазабуду з гадамі.
Тое, далёкае і незабыўнае,
помніцца, помніцца, помніцца.
Тое, далёкае і незабыўнае,
рэхам зялёным коціцца, коціцца, коціцца.
Тое, далёкае і незабыўнае —
праз колькі далёкіх гадоў! —
пры кожнай сустрэчы
з лесам вяртае ў маленства зноў.
А гады, як даспелыя арэхі, якія не выбралі,
падаюць звонка на дол, ажно чуваць на выгане,
Шукай не шукай —
закамышыліся ў апалым жоўтым лісці,
што нават вавёрцы вопытнай іх ніяк не знайсці.
Гэта і добра — няхай вырастаюць новыя арэшыны,
няхай яны будуць сонцам ласкавым уцешаны.
І лес будзе змешаным,
не будзе такім аднастайным.
Мова лесу — лісты. А мы не забываем.

Вось, напрыклад, асіна. Яшчэ не мароз сіні,
а яна, асіна, перад ім адразу скіне
сваё адзенне. Палахліўка!
Не можа за сябе пастаяць.
Вунь жа дуб, а лісты на ім усе вісяць.
Нават клён і той не раняе сваю лісцю:
перш чым скінуць яго —
па сабе ён запаліць касцёр,
не баіцца згарэць.
Не згасаючы, полымя доўга гарыць,
клён, як салдат, мне здаецца,
надзейна ў марозы стаіць.
Лес мой! Аднагодак мой дарагі!
Пісаць мне тваю біяграфію лёгка і проста:
Мы з табою з маленства знітаваны адным лёсам,—
ён суровы нам выпаў такі.
Я за цябе, лесе, рады: ты цяпер мяне перарос
і бачны здалёку за многа вёрст.
Справа, вядома, не ў тым, які рост,
а ў тым — які лёс.
Ты, як даўняга друга, мяне пазнаеш заўжды,
калі я прыходжу, шукаю маленства сляды.
Іду, забываю ўсё на свеце,
а з табой шчыра размаўляю, мой лесе.
Знаходжу баравікі — дзякуй табе за знаходку,
як-ніяк, а мы ўсё-такі з табой аднагодкі.
Ты стаў лесам сапраўдным, хаця я прыкмеціў,
што воддаль дрэўцы растуць паасобку,
яны — працяг твайго жыцця,
і таму я не стаўлю кропку:
яшчэ не закончана біяграфія твая:
тыя дрэўцы,
што паасобку растуць і непрыкметны здаля,
становяцца новым лесам пасля.

*1978*

# Змест

З кнігі «БУСЛІНЫ ЧОВЕН»
(1975)

З кнігі «СТРЭЧАННЕ»
(1981)

**З кнігі «ПЕСНІ МАЦІ»**
**(1970—1980)**

### З кнігі «СЛОН ПАД МІКРАСКОПАМ» (1977)



### З кнігі «ЮБІЛЕЙНЫЯ БЛІНЫ» (1984)

## *Паэмы*

**Крупенька Я.**

К 84 Карэнні: Вершы, байкі, паэмы.— Мн.: Маст. літ., 1986.— 255 с., 1 л. партр.

У аднатомнік Яўгена Крупенькі «Карэнне» ўвайшлі вершы і паэмы з ранейшых зборнікаў. Чытачу будзе цікава пазнаёміцца і з выбранымі старонкамі гумару.

К $\frac{4702120200-092}{М\ 302(05)-86}$ 141—86 **ББК 84Бел7**

*Евгений Михайлович Крупенько*

*КОРНИ*

**Стихи, басни, поэмы**

**Минск, издательство «Мастацкая літаратура»**

**На белорусском языке**

Загадчык рэдакцыі *Г. С. Шупенька.* Рэдактар *Р. І. Барадулін.* Мастак *В. П. Масцераў.* Мастацкі рэдактар *Л. Я. Прагін.* Тэхнічны рэдактар *Г. П. Тарасевіч.* Карэктар *Т. М. Собалева.* Малодшы рэдактар *С. І. Расянчук.*

ІБ № 2537

Здадзена ў набор 07.01.85. Падп. да друку 29.04.86. АТ 01085. Фармат 70×100¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 10,32+0,08 укл. Ум. фарб.-адб. 10,72. Ул.-выд. арк. 10,20. Тыраж 1700 экз. Зак. 2089. Цана 1 р. 30 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11. Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.